ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 8 № 8



МІНСК

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

1939



**ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЕДНАЙЦЕСЯ!**



# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ТЭАРЭТЫЧНЫ І ПАЛІТЫЧНЫ
ЖУРНАЛ ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XIII

№ 8
Жнівень 1939 г.

ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Мінск, вул. Карла Маркса,
Памяшканне Парткурсаў пры ЦК КП(б)Б,
пакой 13
Тэлефоны рэдакцыі: нам. рэдактара—камутатар
20-000, даб. 271; агульны—24-887.



# ПРАМОВА таварыша МОЛАТАВА

*пры адкрыцці Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўкі 1-га жніўня 1939 года*

Таварышы! Адкрыццё Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўкі з'яўляецца ўсенародным таржаством. У ім знаходзіць сваё адлюстраванне вялікая перамога калгаснага ладу, які канчаткова ачысціў савецкую зямлю ад кулакоў і іншых эксплаататараў, вызваліў шлях для пабеданоснага ўздыму соцыялістычнай сельскай гаспадаркі і ўсёй нашай краіны.

Усесаюзная Сельскагаспадарчая Выстаўка, пачын арганізацыі якой належаў Другому Ўсесаюзнаму З'езду калгаснікаў-ударнікаў у 1935 г.,—гэта, перш за ўсё, выстаўка калгасаў, выстаўка калгасных перамог, у якіх мы бачым ўсеперамагаючую сілу саюза рабочых і сялян пад сцягам комунізма **(апладысменты)**, пад сцягам вялікай партыі Леніна—Сталіна. **(Бурныя апладысменты. Воклічы «ура!»).** У гэтым яе карэннае адрозненне ад сельскагаспадарчай выстаўкі 1923 года, калі ў нашай краіне панавала аднаасобная дробная сялянская гаспадарка, а калгасы і соўгасы былі яшчэ зусім слабыя і займалі малапрыкметнае месца.

Гэтая Сельскагаспадарчая Выстаўка падводзіць вынік дзесяцігоддзю, у пачатку якога сялянскія масы канчаткова павярнулі ад дробнай аднаасобнай гаспадаркі да буйнай калгаснай гаспадаркі. Успомніце, таварышы, «год вялікага пералому»—1929 год, калі адбыўся гэты паварот сялянства на шлях калектывізацыі. Тады, дзесяць год таму назад, глеба для перабудовы сельскай гаспадаркі на аснове калгасаў была ўжо ва многім падрыхтавана. Савецкая ўлада ўмацавалася. Наша індустрыя пачала масавую выпрацоўку трактараў і машын для сельскай гаспадаркі. Барацьба з кулацтвам, асабліва ў часе хлебазагатовак 1928—1929 гг., разгарнулася па ўсяму фронту і ператварылася ў агульнае наступленне супроць капіталістычных элементаў. У вёсцы меўся ўжо вялікі вопыт сельскагаспадарчай кааперацыі. Поспехі першых калгасаў і соўгасаў атрымалі вядомасць. Партыя і Урад правялі к гэтаму часу вялікую работу па раз'ясненню сялянам таго, што сапраўдны ўздым сельскай гаспадаркі і забеспячэнне гарадоў хлебам і іншымі сельскагаспадарчымі прадуктамі магчымы толькі з пераходам сялян на шлях калгасаў, на шлях калектывізацыі аднаасобных гаспадарак. Тады адбыўся гістарычны паварот сялянства нашай краіны на шлях калгасаў. У сваім славутым артыкуле «Год вялікага пералому» таварыш Сталін пісаў у канцы 1929 года:

**«У калгасы пайшоў серадняк.** У гэтым аснова таго карэн-



нага пераломў ў развіцці сельскай гаспадаркі, які складае важнейшае дасягненне Савецкай улады за прайшоўшы год...

Рушыцца і ператвараецца ў прах апошняя надзея капіталістаў усіх краін, якія мараць аб аднаўленні капіталізма ў СССР,—«свяшчэнны прынцып прыватнай уласнасці». Сяляне, разглядваемыя імі як матэрыял, які ўгнойвае глебу для капіталізма, масамі пакідаюць хвалёны сцяг «прыватнай уласнасці» і пераходзяць на рэльсы калектывізма, на рэльсы соцыялізма. Рушыцца апошняя надзея на аднаўленне капіталізма».

Гэты паварот сялянства на шлях калектывізацыі дазволіў нашай партыі і Ураду паставіць задачу пераходу ад палітыкі абмежавання кулацтва да новай палітыкі—да палітыкі ліквідацыі кулацтва, як класа, на аснове суцэльнай калектывізацыі. Пераадольваючы шалёнае супраціўленне кулакоў і іншых контррэволюцыйных элементаў у вёсцы, пераадольваючы супраціўленне ахвосця буржуазіі ў нашай краіне,—усіх гэтых трацкістаў, правых і іжэ з імі,—большэвіцкая партыя згуртавала працоўных вёскі пад сваім сцягам, пад сцягам совецкай улады, будаваўшай калгасы, не гледзячы на ўсё супраціўленне варожых элементаў і не гледзячы на небяспечныя вывіхі ўсякага роду «левых» перагібшчыкаў,—і атрымала слаўную перамогу. **(Бурныя апладысменты).** Паварот сялянства на шлях калгасаў у 1929—1930 гг. і канчатковая перамога калгаснага ладу ў нашай краіне, як і наступныя поспехі калгасаў, неразрыўна звязаны з іменем вялікага правадыра нашай партыі і народаў Савецкага Саюза— з іменем вялікага Сталіна. **(Бурныя, працяглыя апладысменты. Воклічы «Ура»).**

Каб замацаваць свае перамогі, калгасы павінны былі прайсці праз цяжкі перыяд рэарганізацыі сельскай гаспадаркі. 3—4 годы патрэбавалася на тое, каб арганізацыя калгасаў у асноўным была закончана, каб асноўная маса сялянства канчаткова замацавалася ў калгасах. Пасля гэтага пачаўся паступовы і няўхільны ўздым сельскай гаспадаркі на аснове калгасаў, на аснове калгаснага ладу.

І вось цяпер, усяго праз 10 год, мы маем ужо канчаткова ўзмацнеўшыя калгасы і безраздзельна пануючую ў нашай краіне соцыялістычную сістэму сельскай гаспадаркі. Цяпер ужо ўся пасеўная плошча, за малым выключэннем, належыць калгасам і соўгасам. Менш поўпроцанта складаюць цяпер пасевы аднаасобных гаспадарак у нашай краіне. Наша сельская гаспадарка багата ўзброена новай тэхнікай, якой яна раней не ведала. Колькасць магутных трактараў у сельскай гаспадарцы перавышае поўмільёна штук. Гэтыя трактары выконваюць велізарную работу, ва многім аблягчаючы працу калгаснікаў. Колькасць камбайнаў дасягнула 165 тысяч. Камбайны павінны ў гэтым годзе ўбраць больш палавіны ўсёй пасеўнай плошчы зернавых культур. Колькасць грузавых аўтамабіляў перавышае 200 тысяч. У сельскай гаспадарцы многа таксама іншых, патрэбных ёй машын, і з кожным годам расце магутнасць яе новай тэхнікі. Колькасць машынна-трактарных станцый дасягнула 6,5 тысячы. Гэтыя МТС выконваюць галоўную арганізатарскую работу ў справе ўздыму ўсёй калгаснай гаспадаркі. Колькасць соўгасаў дасягнула амаль 4 тысяч, і сярод іх растуць рады ўзорных гаспадарак. Усё гэта дазваляе нам сказаць, што ў асноўным ужо завершана рэканструкцыя нашага земляробства на аснове новай сучаснай тэхнікі. **(Апладысменты).**

Аснашчэнне сучаснай тэхнікай у нашай сельскай гаспадарцы стаіць цяпер вышэй, чым у любой іншай краіне.

Стварыліся шматлікія кадры механікаў, трактарыстаў, камбайнераў, шофераў,—іх колькасць перавышае 1,5 мільёна чалавек. З гэтага асяроддзя і, асабліва, з асяроддзя трактарыстаў і камбайнераў вылучыліся ўжо многія знаўцы справы, якія далі выдатныя ўзоры стаханаўскай работы, і імёны лепшых сярод іх ведае ўвесь наш савецкі народ. **(Апладысменты).** Сотні тысяч і мільёны людзей з сялянператварыліся за гэтыя годы ў вопытных арганізатараў буйнай грамадскай гаспадаркі ў калгасах, у калгасных звеннях і брыгадах. Гэтыя людзі імкліва авалодваюць перадавой сельскагаспадарчай культурай, сельскагаспадарчай навукай.

Усё гэта гаворыць за тое, што створаны спрыяючыя ўмовы для магутнага ўздыму сіл нашага земляробства і ўсёй сельскай гаспадаркі. Валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі перавысіла ўжо ў мінулым годзе ў паўтара раза валавую прадукцыю сельскай гаспадаркі ў 1913 годзе. Уздым ідзе ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі: па зярну і па бавоўне, па бураках і па ільну, па гародніне і па цытрусавых субтрапічных культурах. Пастаўленая нашай партыяй задача забяспечыць 7—8 мільярдаў пудоў ураджаю зярна паспяхова выконваецца. Так, і ў гэтым годзе пры добрай арганізацыі ўборкі мы маем поўную падставу разлічваць на збор 7 мільярдаў пудоў зярна. **(Апладысменты).** Гэта толькі адзін з прыкладаў таго, якімі буйнымі крокамі ідзе ўздым соцыялістычнага земляробства.

І ў галіне жывёлагадоўлі, дзе ў нас было найбольшае адставанне, мы маем за апошнія годы сур'ёзнае паляпшэнне. Апошняе рашэнне партыі і Урада аб уздыме жывёлагадоўлі адыграе ў гэтых адносінах важную ролю. Прынятыя гэтым рашэннем меры да ўздыму жывёлагадоўлі і да пераходу ад старой сістэмы да новай сістэмы мясапаставак, па колькасці наяўнай у калгаса зямлі, аблягчае становішча калгасаў, якія найбольш клапаціліся аб развіцці жывёлагадоўлі, і разам з тым даюць штуршок да рашучага ўздыму жывёлагадоўлі ва ўсіх калгасах. Можна з упэўненасцю сказаць, што 1939 год значна рушыць уперад калгасную жывёлагадоўлю. **(Апладысменты).**

Прайшло ўсяго 10 год, як наша сялянства ў масе сваёй пачало будаваць калгасы. Цяпер мы маем 240 тысяч калгасаў, у якіх аб'яднана амаль усё сялянства нашай краіны. На нашых вачах ва ўсіх галінах сельскай гаспадаркі ідзе няўхільны ўздым соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, які ўвесь час расшыраецца. Вызваленая ад пут капіталізма, узброеная перадавой тэхнікай, арганізаваная, як буйная грамадская вытворчасць, наша сельская гаспадарка расце і мацнее з кожным годам. Наша вёска канчаткова вызвалілася ад памешчыкаў і кулакоў, ад усякіх эксплаататараў. У нашай вёсцы няма больш і сялянскай беднаты, якая нядаўна яшчэ складала трэць сялянскай масы, а да рэволюцыі складала больш палавіны сялянства. Мы назаўсёды вызваліліся і ад гэтага спадарожніка старой, буржуазна-памешчыцкай дзяржавы. Сяляне-калгаснікі працуюць цяпер толькі для сябе саміх, для свайго благапалучча і шчасця. **(Апладысменты).** Для ўсіх сялян-калгаснікаў у нашай краіне адкрыт шлях да заможнага і культурнага жыцця. **(Апладысменты).** Ні ў адной іншай краіне, ніколі пры капіталізме, працоўныя сяляне не могуць аб гэтым і марыць.

Усесаюзная Сельскагаспадарчая Выстаўка дае шматлікія довады гэтаму паказам многіх тысяч жывых прыкладаў росту і ўмацавання

нашых калгасаў і соўгасаў, паказам шматлікіх прыкладаў заможнага і культурнага жыцця калгаснікаў. Гэта выстаўка дае паказ пачаўшагася магутнага росквіту сіл усіх рэспублік, краёў і абласцей нашай вялікай краіны. Яна асвятляе яркім светам рост і ўздым усіх галін нашай сельскай гаспадаркі, уздым сельскагаспадарчых культур і розных відаў жывёлагадоўлі, поспехі машынна-трактарных станцый і калгасаў, поспехі соўгасных і калгасных ферм, поспехі навуковых устаноў і асобных выдатных работнікаў сельскагаспадарчай навукі, поспехі і дасягненні асобных перадавікоў і знатных людзей нашай калгаснай вёскі. **(Апладысменты).**

Усесаюзная Сельскагаспадарчая Выстаўка арганізавана не па звычайных шаблонах. Тут не проста прадстаўлены тыя ці іншыя добрыя ўзоры работы, тыя ці іншыя ўзоры сельскагаспадарчай прадукцыі. Права ўдзелу на Сельскагаспадарчай Выстаўцы вызначаецца дакладнымі навукова-абгрунтаванымі ўмовамі адбору кандыдатаў. Каб атрымаць права ўдзельнічаць на Ўсесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўцы, калгасы, соўгасы, машынна-трактарныя станцыі, калгасныя і соўгасныя фермы, навукова-даследчыя ўстановы, селекцыйныя і вопытныя станцыі павінны мець пэўныя паказчыкі сваёй работы за апошнія два годы, а іменна—за 1937—1938 гг. Для кожнай сельскагаспадарчай культуры, па адпаведных зонах, устаноўлена пэўная вышыня ўраджайнасці, для кожнага віду жывёлагадоўчай гаспадаркі ўстаноўлены пэўныя паказчыкі вырошчвання маладняка і прадукцыйнасці, пры дасягненні якіх за апошнія два годы толькі і можна атрымаць права ўдзелу на Сельскагаспадарчай Выстаўцы. Устаноўлены пэўныя паказчыкі добра арганізаванай работы МТС, а таксама ўстаноўлены паказчыкі работы за апошні 1938 год для перадавікоў сельскай гаспадаркі. Толькі пры дасягненні гэтых паказчыкаў калгасы, соўгасы і іншыя арганізацыі, а таксама асобныя перадавыя людзі сельскай гаспадаркі атрымалі магчымасць стаць удзельнікамі Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўкі і тады заносіліся ў Пачотную кнігу выстаўкі. Устанаўліваючы гэтыя паказчыкі па ўзорах перадавых гаспадарак і па добрых узорах работы асобных знатных людзей калгаснай і соўгаснай гаспадаркі, мы зыходзілі з таго, каб паставіць перад кожнай галіной сельскай гаспадаркі і перад кожнай групай работнікаў соцыялістычнага земляробства і тым самым перад усёй масай калгасаў і соўгасаў свае канкрэтныя задачы на бліжэйшы час. Мы кіраваліся пры гэтым тым, што гэта павінны быць такія паказчыкі, дасягненне якіх, у сярэднім, усёй масай калгасаў і соўгасаў азначала-б выкананне і нават перавыкананне заданняў трэцяга пяцігадовага плана па сельскай гаспадарцы. Гэта дае, разам з тым, магчымасць вызначыць, якая рэспубліка або вобласць ідзе ўперадзе, або, наадварот, адстае па таму ці іншаму віду сельскай гаспадаркі, у якой з іх вырашчана больш перадавых людзей сельскай гаспадаркі. У праграме паказчыкаў для сельскагаспадарчай выстаўкі дана, такім чынам, праграма новага ўздыму сельскай гаспадаркі ў адпаведнасці з планам трэцяй сталінскай пяцігодкі. **(Бурныя апладысменты).**

Чым хутчэй мы забяспечым выкананне ўсёй масай клагасаў і соўгасаў паказчыкаў, устаноўленых для ўдзельнікаў Сельскагаспадарчай Выстаўкі, тым хутчэй мы забяспечым выкананне ўсяго плана трэцяй пяцігодкі па сельскай гаспадарцы. У гэтым значэнне Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўкі, як арганізатара соцыялі-

стычнага спаборніцтва за выкананне трэцяй пяцігодкі. **(Бурныя апладысменты).**

Адбор удзельнікаў Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўкі паказаў, што ў нас ужо не мала такіх калгасаў, соўгасаў, МТС, калгасных ферм, а таксама перадавікоў калгаснай і соўгаснай гаспадаркі, якія ідуць на ўзроўні патрабаванняў трэцяй пяцігодкі, а ва многіх выпадках ідуць і значна ўперадзе гэтых патрабаванняў. На Ўсесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўцы атрымалі права ўдзельнічаць 15.059 калгасаў, 11.004 калгасныя фермы, 268 МТС, 795 соўгасаў. Апрача таго, на Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўцы атрымалі права ўдзельнічаць 155.821 чалавек з перадавікоў і знатных людзей сельскай гаспадаркі. **(Бурныя апладысменты).** Пры дасягненні добрых паказчыкаў работы за 1939 год, у будучым 1940 годзе ў Сельскагаспадарчай Выстаўцы змогуць прыняць удзел новыя тысячы і тысячы калгасаў і соўгасаў, новыя дзесяткі тысяч перадавікоў сельскай гаспадаркі. Пажадаем-жа, каб як мага шырэй разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва паміж рэспублікамі, краямі, абласцямі і раёнамі, паміж калгасамі, МТС і соўгасамі за заваяванне права на ўдзел у Сельскагаспадарчай Выстаўцы не толькі ў гэтым, але і ў 1940 годзе! **(Апладысменты).**

Па ўсіх галінах сельскагаспадарчых культур, па ўсіх галінах жывёлагадоўлі на гэтай Выстаўцы ёсць у натуры самыя выдатныя ўзоры і дасягненні, нярэдка перавышаючыя сусветныя рэкорды. Сіла калгаснага ладу дэманстрыруецца гэтай Выстаўкай з выключнай пераканаўчасцю, а тысячы яе ўзораў, прадстаўленыя тут усімі рэспублікамі, краямі і абласцямі, даюць уяўленне аб незлічоных багаццях сельскай гаспадаркі Совецкага Саюза, аб яго выключнай living разнастайнасці, няўхільным уздыме і вялікіх творчых сілах. Наша Выстаўка не толькі дае вынік перамог, але і з'яўляецца магутным заклікам да далейшага ўздыму сельскай гаспадаркі, да новых слаўных перамог соцыялізма. Дэманстрацыяй перамог калгаснага ладу мы дэманстрыруем вялікую сілу арганізацыі нашага новага совецкага калгаснага сялянства, самага шматлікага класа працоўных нашай краіны. Рабочы клас нашай краіны арганізован у магутную совецкую сілу, дзякуючы росту і няўхільнаму ўздыму буйнай соцыялістычнай індустрыі. Калгасы, ператварыўшыя наша сялянства з разрозненых і распыленых дробных гаспадароў у будаўнікоў грамадскай соцыялістычнай гаспадаркі, ператварылі совецкае калгаснае сялянства ў вялікую сілу, якая дэманстрыруе сёння велізарныя поспехі сваёй гаспадарчай арганізаванасці, культурнага росту і соцыялістычнай свядомасці. **(Апладысменты).** Такім чынам, дэманстрацыя калгасных перамог азначае велізарныя поспехі ў гаспадарчай і палітычнай арганізацыі ўсяго нашага народа. Спаяныя непарушнай дружбай, народы Совецкага Саюза прадстаўляюць нябачаную ў мінулым, немагчымую пры капіталізме вялікую, арганізаваную сілу. **(Апладысменты).** У гэтым—залог далейшых поспехаў комунізма ў нашай краіне. У гэтым—вялікае міжнароднае значэнне дэманстрацыі калгасных перамог.

Дазвольце ўсіх, хто сваёй прыкладнай работай забяспечыў сабе права ўдзелу на Усесаюзнай Сельскагаспадарчай Выстаўцы, горача вітаць ад імені партыі і ўрада. **(Бурныя, працяглыя апладысменты. Воклічы «ура!»).** Дазвольце перадаць большэвіцкае прывітанне зачынальнікам справы будаўніцтва калгасаў і ўсім тым, хто цяпер

вядзе няўхільную барацьбу за новыя і новыя поспехі калгасаў і соўгасаў. **(Бурныя апладысменты).**

Дазвольце віншаваць арганізатараў і будаўнікоў, архітэктараў і мастакоў, адказных кіраўнікоў і радавых работнікаў Выстаўкі, якія з поспехам выканалі сваю задачу. **(Бурныя апладысменты).**

Няхай жыве пабеданоснае, калгаснае сялянства Совецкага Саюза! **(Бурныя апладысменты. Воклічы «ура!»).**

Няхай жыве несакрушымы саюз рабочых і сялян, будуючых соцыялізм! **(Бурныя апладысменты. Воклічы «ура!»).**

Няхай жыве арганізатар нашых перамог—вялікая партыя Леніна—Сталіна! **(Бурныя, працяглыя апладысменты. Воклічы «ура!»).**

Няхай жыве вялікі правадыр краіны калгасаў і соцыялізма таварыш Сталін! **(Бурныя, працяглыя апладысменты. Воклічы «ура!»).**

Па даручэнню Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі і ўрада Совецкага Саюза аб'яўляю Усесаюзную Сельскагаспадарчую Выстаўку адкрытай. **(Бурныя, працяглыя апладысменты, якія пераходзяць у авацыю. Воклічы—«Няхай жыве Глава Совецкага Урада таварыш Молатаў! Ура! Таварышу Сталіну ура!»).**

---

# XXV Міжнародны Юнацкі Дзень

Чорныя хмары вайны зноў навіслі над светам. Крывавыя фашысцкія канібалы сеюць смерць і разарэнне, знішчаюць свабоду і незалежнасць народаў у розных канцах зямнога шара. «Новая імперыялістычная вайна стала фактам» **(Сталін)**. Гэтай відавочнай ісціны цяпер не адмаўляе ніхто.

У такой канкрэтна гістарычнай абстаноўцы працоўная моладзь святкуе свой XXV Міжнародны Юнацкі Дзень.

У 1915 годзе, у самы разгар першай імперыялістычнай вайны, у Берне (Швейцарыя) на Міжнароднай канферэнцыі сацыялістычных юнацкіх арганізацый было вынесена рашэнне кожны год святкаваць Міжнародны Юнацкі Дзень, як дзень пратэсту моладзі супроць імперыялістычнай вайны.

Упершыню Міжнародны Юнацкі Дзень быў праведзен 3 кастрычніка 1915 года. У гэты дзень у розных краінах свету адбыліся мітынгі і дэманстрацыі моладзі пад лозунгам пратэсту супроць крывавай імперыялістычнай бойні. У дэманстрацыях прыняла ўдзел больш 100 тысяч юнакоў і дзяўчат.

Вялікая Кастрычніцкая Соцыялістычная рэвалюцыя вызваліла моладзь нашай краіны з кабалы капіталізма. Але не мала крыві прышлося праліць, каб адстаяць маладую краіну ад навалы інтэрвентаў.

У 1919 годзе пад кіраўніцтвам геніяльнага правадыра сусветнага пролетарыята Владзіміра Ільіча Леніна і яго бліжэйшага саратніка таварыша Сталіна быў створан Комуністычны Інтэрнацыянал Моладзі, у якім совецкая секцыя заняла вядучае месца. Совецкая моладзь разам з бацькамі і старэйшымі таварышамі ў годы грамадзянскай вайны паказала бліскучыя прыклады пролетарскага інтэрнацыяналізма ў барацьбе з ворагамі працоўных.

Моладзь капіталістычных краін праводзіць XXV Міжнародны Юнацкі Дзень пад лозунгам аб'яднання ўсіх антыфашысцкіх сіл для барацьбы за свае палітычныя і эканамічныя правы, супроць чорных сіл фашызма і імперыялістычнай вайны, за мір, за соцыялізм.

Совецкая моладзь сустракае XXV Міжнародны Юнацкі Дзень ва ўмовах, калі «СССР уступіў у трэцім пяцігоддзі ў новую паласу развіцця, у паласу **завяршэння будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства і паступовага пераходу ад соцыялізма да комунізма»** *).

Як яркі сонечны дзень ад непраглядной цёмнай ночы, адрозніваецца жыццё нашай моладзі ад жыцця моладзі капіталістычных краін.

---

*) З рэзалюцыі XVIII з'езда ВКП(б) па дакладу тав. Молатава.

Вайна і звязаны з ёю эканамічны крызіс у капіталістычных краінах адбіваецца перш за ўсё на моладзі. Асабліва цяжка жывецца моладзі фашысцкіх краін. Фашызм калечыць і губіць сотні маладых людзей. Германскія капіталісты, нажываючы велізарныя барышы на пастаўцы ваенных матэрыялаў, з дапамогай розных махінацый урэзваюць заработную плату маладым рабочым. Устаноўлены для германскай моладзі 10-гадзінны рабочы дзень вельмі часта прадаўжаецца 12—14 гадзін. Для 14—15-гадовых дзяцей узаконена начная работа. Фашызмператварыў дзесяткі тысяч маладых рабочых у «вучняў», каб замест тарыфнай заработнай платы выдаваць ім нікчэмную «вучнёўскую дапамогу» і не аплачваць звыштэрміновую работу. Для ўсіх дзяўчат фашызм узаконіў прымусовую працу на памешчыкаў і кулакоў без аплаты на працягу года.

Сотні тысяч маладых людзей заключаны ў казематы і канцэнтрацыйныя лагеры, дзе з іх здзекуюцца і зверскі катуюць. Але не гледзячы на люты рэжым і рэпрэсіі, германская моладзь, кіруемая комуністычнай партыяй, разам з рабочым класам Германіі накапляе рэволюцыйныя сілы, каб у рашаючы момант разграміць фашысцкую рэакцыю.

У нязносных умовах гвалту і здзекаў жыве працоўная моладзь і ў фашысцкай Італіі. Сярод італьянскай моладзі, як і ў іншых фашысцкіх краінах, пануе галеча і голад. Жабрацкі заработак бацькоў і беспрацоўе вымушае дзяцей італьянскіх пролетарыяў кідаць школу і шукаць сабе кавалка хлеба. Не дзіўна, што ў Італіі зараз налічваецца каля 1.300.000 непісьменных ва ўзросце ад 6 да 19 год, што складае 30—35% агульнай колькасці дзяцей рабочых і сялян.

Разам з пагоршаннем жыццёвага ўзроўню ў фашысцкай Італіі з кожным годам расце колькасць злачынстваў: з 539.382 у 1915 годзе да 623.240 у 1937 годзе. Паводле вестак «Штомесячнага статыстычнага бюлетэня Італьянскай імперыі», у студзені 1939 г. на вытворчасці было занята на 10 тысяч рабочых менш, чым у снежні 1938 г. Паводле даных італьянскай комуністычнай газеты «Уніта», у Італіі налічваецца 1.378.000 чал. поўнасцю беспрацоўных і каля 2 мільёнаў часткова беспрацоўных. У большасці гэта—моладзь.

Працоўная моладзь Італіі на чале з пролетарыятам, сялянства і нават тыя слаі, якія да гэтага часу падтрымлівалі фашызм, пачынаюць згуртоўвацца ў народны фронт барацьбы супроць фашысцкага рэжыма.

Японская ваеншчына, пачаўшы вайну ў Кітаі, пагоршыла і без таго цяжкае становішча японскіх працоўных мас. Велізарныя затраты на вядзенне вайны выклікаюць рост галечы і голаду. Працоўнае насельніцтва прадае сваіх дзяцей у публічныя дамы, у прытоны, уладальнікам фабрык і заводаў. Урад заахвочвае продаж дзяўчат у рабства, вярбоўку прастытутак. У пошуках хлеба каля мільёна японскіх дзяўчат займаецца прастытуцыяй.

Але японская моладзь, як і ўвесь народ, не хоча мірыцца з зацеямі ваеннай клікі, яна не хоча прадаўжаць вайну, якая ўсім сваім цяжарам кладзецца на яе плечы. Расце ўсенародны пратэст, шырыцца забастовачны рух. Рабочыя патрабуюць павысіць заработную плату, скараціць рабочы дзень, палегчыць умовы працы. Японскі народ усё мацней пратэстуе супроць галечы, якую прынесла яму захватніцкая вайна ў Кітаі.

У цяжкім становішчы знаходзіцца рабочая і сялянская моладзь Польшчы. Паводле даных, апублікаваных у польскім друку, кожны

год у Польшчы не могуць знайсці сабе работу звыш 300 тысяч маладых людзей.

Не лепш жывецца моладзі ў так званых буржуазных дэмакратычных краінах. Беспрацоўе, галеча і голад—сталыя спадарожнікі капіталістычнага грамадства. Паводле даных Амерыканскай Федэрацыі працы, у ЗША ў красавіку 1939 года налічвалася 11.470.000 беспрацоўных, пераважна моладзі.

У ЗША не знаходзіць сабе работы вялікая армія моладзі, атрымаўшай кваліфікацыю. Калі-ж і ўдаецца некаторым шчасліўцам атрымаць работу, то не па сваёй кваліфікацыі.

Дрэнныя бытавыя і жыллёвыя ўмовы жыцця працоўных у Англіі выклікаюць вялікую смяротнасць дзяцей. Сярод дзяцей беднякоў на першым годзе жыцця памірае кожны 13-ты, а сярод дзяцей багачоў—кожны 30-ты. На другім годзе жыцця дзяцей бедннаты памірае ўпяцёра больш, чым дзяцей багачоў. На кожныя 210 паміраючых на другім годзе ад коры, коклюша, бранхіта, запалення лёгкіх і дызентэрыі дзяцей багатых бацькоў памірае 1.660 дзяцей беднякоў.

Пад даўленнем эканамічнага крызісу і беспрацоўя ва Францыі з кожным годам падае нараджаемасць. У 1938 годзе зарэгістравана 612.138 нараджэнняў і 646.879 смерцей, г. зн. смерцей на 34.741 больш, што вядзе к паступоваму скарачэнню насельніцтва.

У Бельгіі, па афіцыяльных даных, у канцы 1938 года было 32 тысячы беспрацоўнай моладзі ва ўзросце да 25 год, што складае 19 проц. усіх беспрацоўных. З іх 69 проц. не атрымлівае ніякай дапамогі, бо яны яшчэ ніколі не працавалі.

* * *

Мільёны юнакоў і дзяўчат, на якіх у першую чаргу абрушваюцца ўдары фашызма, першымі ўзнімаюцца на барацьбу. Прыклад іспанскай моладзі, якая ў барацьбе супроць германскага і італьянскага фашызма паказала цуды гераізма і самаафярнасці, назаўсёды застанецца ў памяці моладзі ўсяго свету.

Гераічныя подвігі іспанскіх юнакоў і дзяўчат, аддаўшых сваё жыццё за дэмакратычную, свабодную Іспанію ў барацьбе супроць варвараў цывілізацыі—азвярэўшых фашыстаў, увойдуць у гісторыю юнацкага руху, як выдатны прыклад мужнасці і адвагі.

Вось ужо трэці год вядзе гераічную барацьбу кітайская моладзь супроць японскай ваеншчыны, якая агнём і мечам імкнецца прыбраць да сваіх рук кітайскія землі.

На заклік комуністычнай партыі Кітая аб'яднаць усе сілы супроць японскіх мілітарыстаў адгукнуліся ўсе слаі кітайскага народа і ў першую чаргу моладзь. Яна стварыла шматлікія арганізацыі, сярод якіх самая выдатная—«Саюз моладзі за ВЫратаванне радзімы». Гэта арганізацыя ў адных толькі паўночна-заходніх правінцыях яднае звыш 300 тысяч членаў. Хутка растуць такія масавыя арганізацыі як «Аб'яднаная соцыялістычная асацыяцыя за выратаванне радзімы», «Жаночая асацыяцыя дапамогі раненым байцам», «Авангард моладзі», «Саюз трох народных прынцыпаў», «Студэнцкі саюз» і т. п. Адзінства моладзі ажыццяўляецца пад лозунгамі кітайскага комсамола.

Кітайская моладзь праводзіць вялікую работу па падрыхтоўцы ваенных кадраў. Некаторыя вайсковыя часці, як, напрыклад, 115 ды-

візія 8-ай народна-рэвалюцыйнай арміі на чале з юным камандзірам Лінь-Бяо, выхаванцам комсамольскай школы Кітая, складаюцца выключна з моладзі.

У барацьбе з японскімі захватчыкамі кітайская моладзь паказвае выдатныя прыклады мужнасці, адданасці і самаафярнасці ва славу радзімы.

Моладзь гвалтоўна захвачаных фашыстамі краін—Чэхаславакіі, Аўстрыі, Албаніі—усё больш актыўна ўдзельнічае ў нацыянальна-вызваленчым руху і разам з усім народам змагаецца супроць захватчыкаў.

Пад кіраўніцтвам Комуністычнага Інтэрнацыянала Моладзі ў XXV Міжнародны Юнацкі Дзень моладзь усяго свету прадэманструе сваю згуртаванасць у барацьбе супроць вайны, супроць фашызма, за мір, за соцыялізм. Яна горача будзе вітаць геранчную кітайскую моладзь, якая змагаецца ў першых радах супроць японскіх захватчыкаў.

У гэты дзень погляды моладзі ўсіх краін будуць накіраваны туды, адкуль праменіцца святло крэмлёўскіх рубінавых зорак, указваючы працоўным выхад са змрочнай ночы, у якую павяргаюць чалавецтва цёмныя сілы старога свету.

Наша свабодная моладзь ганарыцца тым, што СССР з'яўляецца надзеяй усіх прыгнечаных, маяком для ўсіх міралюбівых народаў. Шчаслівая моладзь краіны соцыялізма і яе перадавы атрад—комсамол, выпеставаны вялікай комуністычнай партыяй і яе правадырамі Леніным і Сталіным, стаіць на чале антыфашысцкага руху моладзі ўсіх краін.

У XXV Міжнародны Юнацкі Дзень совецкая моладзь яшчэ раз прадэманструе сваю гатоўнасць абараняць соцыялістычную радзіму, сваю беззаветную адданасць большэвіцкай партыі і любімаму правадыру народаў, лепшаму другу моладзі—таварышу Сталіну.

# Другая сесія Вярхоўнага Совета БССР

Другая сесія Вярхоўнага совета БССР, як і сесіі Вярхоўных Советаў іншых саюзных рэспублік, з'яўляецца знамянальным этапам дзяржаўнага будаўніцтва Совецкага Саюза.

На сесіі былі разгледжаны важнейшыя пытанні палітычнага і гаспадарчага жыцця Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспубліки. Зацверджана справаздача аб выкананні дзяржаўнага бюджэта БССР за 1938 год, разгледжан і зацверджан дзяржаўны бюджэт БССР на 1939 год, зацверджана палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных, выбран Вярхоўны суд БССР, прынят закон аб утварэнні Народнага камісарыята аўтамабільнага транспарта, зацверджаны ўказы прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР, прынятыя ў перыяд паміж першай і другой сесіямі, і аб зменах і дадатках некаторых артыкулаў Канстытуцыі БССР.

Усе гэтыя законы дапаўняюць адзін другога, служаць справе ўмацавання і росту БССР—надзейнага фарпоста Совецкага Саюза на яго заходніх рубяжах.

Прынятыя Вярхоўным Советам БССР законы вызначаюць на бліжэйшы перыяд работу ўсіх совецкіх арганізацый Беларусі.

Выбраннікі народа, кіруючыся сталінскім вучэннем аб дзяржаве і рашэннямі гістарычнага XVIII з'езда ВКП(б), вызначылі шляхі далейшага росквіту соцыялістычнай дэмакратыі.

* * *

Першым пытаннем на сесіі абмяркоўваўся бюджэт нашай соцыялістычнай рэспублікі. Кожны артыкул, кожная лічба ў гэтым бюджэце ярка гаворыць аб росце ўсіх галін народнай гаспадаркі Беларускай ССР, аб росце матэрыяльнага добрабыту працоўных, аб далейшым росквіце нашай культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

Бюджэт БССР на 1939 год вызначан у суме 1 мільярд 319 мільёнаў 634 тысячы рублёў і перавышае на 132 мільёны 591 тысячу рублёў бюджэт 1938 года.

Больш 70 проц. дзяржаўнага бюджэта—911 мільёнаў 292 тысячы рублёў—накіравана на соцыяльна-культурныя патрэбы. Значна павялічваюцца выдаткі на агульнаадукацыйную і палітвыхаваўчую работу сярод дарослага насельніцтва, на шырокае разгортванне сеткі дамоў соцкультуры, сельскіх хат-чытален. Узрастаюць таксама выдаткі на ахову здароўя, на разгортванне сеткі бальніц і клінік, радзільных дамоў, дзіцячых ясляў і дамоў.

Гіганцкія перамены адбыліся ў жыцці беларускага народа.

Уся валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі ў 1913 годзе складала 89 мільёнаў рублёў. К канцу другой сталінскай пяцігодкі яна дасягнула 2 мільярдаў 150 мільёнаў рублёў (у нязменных цэнах 1926—27 года). Гэта амаль у 24 разы больш чым у 1913 годзе. Толькі за дзве сталінскія пяцігодкі бюджэт Беларускай ССР вырас у 11 з лішнім раз.

Працоўныя Совецкай Беларусі сустрэлі бюджэт 1939 года з вялікім адабрэннем. Аб гэтым сведчыць той выключны энтузіязм, з якім рабочыя, калгаснікі, совецкая інтэлігенцыя, усе працоўныя нашай рэспублікі падпісваліся на пазыку другога года трэцяй сталінскай пяцігодкі.

На 21 жніўня падпіска на пазыку дасягнула па БССР 166.389 тысяч рублёў—на 34 мільёны больш, чым максімальная падпіска ў мінулым годзе.

Інакш і быць не магло. Бо кожны совецкі грамадзянін добра ведае, што наш дзяржаўны бюджэт пабудован у поўнай адпаведнасці з гістарычнымі рашэннямі XVIII з'езда ВКП(б), што галоўнай яго задачай з'яўляецца далейшы няўхільны уздым народнай гаспадаркі і культуры, што кожная совецкая капейка ідзе на карысць народа, на палепшанне матэрыяльна-бытавога і культурнага становішча рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі.

Прыняты Вярхоўным Советам БССР бюджэт на 1939 год увайшоў у сілу.

Усе нашы фінансавыя органы, гаспадарнікі, вялікія і малыя работнікі павінны памятаць, што гаспадаром бюджэта з'яўляецца народ, што ён патрабуе справаздачы аб выкананні бюджэта ў адпаведнасці з указаннямі партыі і ўрада. Задача зараз заключаецца ў тым, каб усямерна ўмацоўваць фінансавую дысцыпліну, берагчы кожную народную капейку, памятаючы словы тав. Молатава:

> «Мы павінны дабіцца таго, каб усе нашы работнікі, ад малых да вялікіх, заўсёды памяталі аб сваёй адказнасці перад дзяржавай і народам, заўсёды памяталі аб сваім абавязку берагчы народнае дабро і абыходзіцца з ім па-гаспадарску, захоўваць эканомію ў выдатках і на справе берагчы народную капейку».

* * *

Другая сесія вярхоўнага Совета зацвердзіла «Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР». Гэта палажэнне прадастаўляе кожнаму грамадзяніну нашай рэспублікі, як і грамадзянам усіх іншых совецкіх рэспублік, магчымасць выканаць свой грамадзянскі абавязак у адпаведнасці з вялікімі прынцыпамі Сталінскай Канстытуцыі, якая замацавала за совецкім чалавекам самыя дэмакратычныя правы ў свеце: не толькі права выбіраць, але і быць выбраным у советы дэпутатаў працоўных.

Наш совецкі выбарчы закон не толькі прадастаўляе грамадзянам социялістычнай радзімы шырокія выбарчыя правы, але і стварае ўсе неабходныя ўмовы для іх практычнага ажыццяўлення.

У артыкуле 1 Палажэння аб выбарах гаворыцца:

> «На падставе артыкула 109 Канстытуцыі БССР выбары дэпутатаў у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца выбаршчыкамі на

аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні».

Выбары мясцовых советаў дэпутатаў працоўных—гэта апошні этап перабудовы ўсіх органаў дзяржаўнай улады на аснове самага дэмакратычнага ў свеце ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

Ні адна капіталістычная краіна свету не мае такога выбарчага права. Буржуазія пазбаўляе магчымасці прымаць удзел у выбарах шырокія масы народа. Няма чаго і гаварыць аб такіх краінах, як Японія, Германія, Італія. Там фашызм ліквідаваў па сутнасці ўсю выбарчую сістэму буржуазнай дэмакратыі. Выбарчая сістэма некаторых буржуазных краін з першага погляду выглядае, як быццам, даволі дэмакратычна. Але, калі прыглёдзішся бліжэй, аказваецца, што закон, які фіксуе ўсеагульнасць выбараў, уключае столькі абмежаванняў, што ад усеагульных выбарчых правоў нічога не застаецца. Толькі ў нашай, адзінай у свеце, дзяржаве рабочых і сялян за ўсімі грамадзянамі і ў законадаўчым парадку замацавана права выбіраць органы ўлады і быць выбранымі.

Палажэнне аб выбарах у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных БССР адлюстроўвае гэтыя непахісныя правы грамадзян, замацаваныя Сталінскай Канстытуцыяй. Наш выбарчы закон не прызнае розніцы ў правах паміж мужчынамі і жанчынамі, аседлымі і неаседлымі, маёмнымі і немаёмнымі, адукаванымі і неадукаванымі.

> «Не маёмаснае становішча, не нацыянальнае паходжанне, не пол, не службовае становішча, а асабістыя здольнасці і асабістая праца кожнага грамадзяніна вызначае яго становішча ў грамадстве» **(Сталін).**

У поўнай адпаведнасці з артыкулам 110 Канстытуцыі БССР артыкул 2 палажэння аб выбарах гаворыць:

> «Усе грамадзяне БССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, вераспавядання, адукацыйнага цэнза, аседласці, сацыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і ранейшай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў Советы дэпутатаў працоўных».

Гэта адзін з асноўных прынцыпаў выбарчага закона, які ярка выражае разгортванне паслядоўнага, сапраўды соцыялістычнага дэмакратызма.

Асаблівасцю надыходзячых выбараў з'яўляецца велізарны размах арганізацыйнай работы: у мясцовыя советы прадстаіць выбраць тысячы дэпутатаў працоўных, у выбарчых камісіях па БССР будзе занята звыш 200 тысяч чалавек—у 8 раз больш чым пры выбарах у Вярхоўны Совет БССР. Толькі ў адным горадзе Мінску ў выбарчых камісіях будзе працаваць каля 12 тысяч чалавек.

Выбарчая кампанія—справа вельмі сур'ёзная, і да яе трэба рыхтавацца ўжо зараз, тым больш, што засталося не так ужо многа часу. Выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных з'яўляюцца самай вялікай палітычнай кампаніяй за ўвесь час існавання совецкай улады. Таму трэба дабіцца, каб кожны выбаршчык як у горадзе, так і на вёсцы ясна ўяўляў сабе ўвесь парадак выбараў: арганізацыі выбарчых акруг і участкаў, выстаўлення кандыдатаў, галасавання і т. д.

Кожнаму выбаршчыку трэба растлумачыць, што ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных выбаршчыкам прыдзецца выбіраць трох дэпутатаў, а ў асобных гарадах нават толькі двух дэпутатаў.

Выбаршчык, які пражывае ў Мінску, будзе галасаваць за трох кандыдатаў у дэпутаты: у раённы совет, у гарадскі совет і ў абласны совет. Выбаршчык, пражываючы ў адным з гарадоў, якія не маюць раённага дзялення,—скажам, у Бабруйску, Барысаве, Слуцку, Полацку,—будзе галасаваць толькі за двух кандыдатаў у дэпутаты: у гарадскі совет і ў абласны совет. Выбаршчык, які жыве ў вёсцы, будзе галасаваць за трох кандыдатаў у дэпутаты: у сельскі совет, у раённы совет і ў абласны совет. Выбаршчык, які жыве ў пасёлку, таксама будзе галасаваць за трох кандыдатаў у дэпутаты: у пасялковы совет, у раённы або гарадскі совет (у залежнасці ад таго, каму з іх адміністрацыйна падпарадкуецца пасялковы совет) і за кандыдата ў абласны совет.

Кожны артыкул, кожны параграф палажэння аб выбарах прасякнут сталінскімі клопатамі аб выбаршчыку і адпавядае адной галоўнай мыслі: забяспечыць у выбарах пагалоўны ўдзел усіх выбаршчыкаў Беларускай Совецкай Социялістычнай Рэспублікі.

Іменна ў гэтых мэтах арганізуюцца, адпаведна з устаноўленымі выбарчымі нормамі, асобныя акругі па выбарах у кожны совет дэпутатаў працоўных: асобна ў абласныя, асобна ў раённыя і асобна ў гарадскія советы. Таксама асобна арганізуюцца выбарчыя акругі і па выбарах у сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных.

Выбары ў Советы будуць праводзіцца ў адпаведнасці з артыкулам 8 палажэння аб выбарах:

> «Кожная выбарчая акруга пасылае ў адпаведны Совет дэпутатаў працоўных аднаго дэпутата».

На пытанне аб парадку стварэння выбарчых акруг і аб выбарчых нормах палажэнне аб выбарах дае дакладныя адказы.

Калі возьмем, к прыкладу, Мінскую вобласць, то справа там будзе выглядаць наступным чынам. Не пазней як за 55 дзён да выбараў Оргкамітэт прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР па Мінскай вобласці апублікоўвае спісы выбарчых акруг па выбарах у абласны совет дэпутатаў працоўных. Кожная выбарчая акруга будзе створана з разліку на 15 тыс. чалавек насельніцтва. У Мінскай вобласці налічваецца 1.300 з лішнім тыс. чалавек насельніцтва, значыць акруг будзе створана прыкладна—92.

У Віцебскай і Магілеўскай абласцях выбарчыя акругі па выбарах у абласныя советы дэпутатаў працоўных ствараюцца таксама на 15 тыс. чал. насельніцтва; у Гомельскай вобласці ствараецца адна акруга на 12 тыс. чал., у Палескай—адна акруга на 11 тыс. чалавек.

Для кіраўніцтва выбарчай кампаніяй па абласцях ствараюцца абласныя выбарчыя камісіі з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, зацверджаныя прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР. Такія-ж камісіі ствараюцца ў гарадах і сёлах—раённыя і гарадскія, раённыя ў гарадах, сельскія і пасялковыя.

Для выбараў у раённыя советы дэпутатаў працоўных райвыканкомы арганізуюць выбарчыя акругі са сваімі акруговымі выбарчымі камісіямі. У раёне з насельніцтвам звыш 25 тыс. чалавек—адна выбарчая акруга на кожную тысячу насельніцтва, аднак не больш

60 акруг. У тых раёнах, дзе насельніцтва менш 25 тыс. чалавек, ствараюцца 25 выбарчых акруг.

Па выбарах у гарадскія і раённыя ў гарадах советы ўтвараюцца: у гарадах з насельніцтвам ад 12 да 100 тыс. чалавек—адна выбарчая акруга на кожныя 350 чалавек насельніцтва; у гарадах з насельніцтвам да 12 тыс. чалавек—35 выбарчых акруг; у гарадах Гомелі і Магілеве — адна выбарчая акруга на кожныя 400 чалавек; у гор. Віцебску—адна выбарчая акруга на кожныя 500 чал.; у гор. Мінску—адна выбарчая акруга па выбарах у гарадскі совет дэпутатаў працоўных на кожныя 600 чалавек і ў раённыя советы—на 500 чалавек насельніцтва.

Што датычыць выбараў у сельскія і пасялковыя советы, то зразумела, што тут колькасць насельніцтва на кожную акругу будзе меншая. На тэрыторыі сельскіх советаў і пасёлкаў з насельніцтвам звыш тысячы чалавек будзе створана адна выбарчая акруга на кожныя 100 чалавек, але не больш 25 акруг. У тых-жа сельсоветах і пасёлках, дзе насельніцтва менш тысячы чалавек, арганізуюцца 9 выбарчых акруг.

Такая дыферэнцыяцыя выбарчых норм ліквідуе вялікую разбежку ў колькасным складзе Советаў. Не будзе ні вельмі вялікіх, ні вельмі малых па колькаснаму саставу Советаў, што забяспечыць ім, як органам Совецкай улады, поўную працаздольнасць і апаратыўнасць.

Кожны выбаршчык у адзін дзень будзе галасаваць за некалькі кандыдатаў у розныя советы ад некалькіх акруг і па розных выбарчых нормах. Такі парадак галасавання вызначаецца дзяржаўным устройствам Беларускай Совецкай Соцыялістычнай Рэспублікі.

Ці трэба гаварыць аб тым, якая вялікая растлумачальная работа павінна быць праведзена, каб кожны выбаршчык зусім ясна ўразумеў парадак выстаўлення кандыдатаў і парадак галасавання.

Выбарчую кампанію патрэбна правесці арганізавана і на высокім ідэйна-палітычным узроўні. Партыйныя арганізацыі павінны ўжо зараз пачаць падрыхтоўку да выбараў: разгарнуць арганізацыйна-масавую работу, падабраць лепшых людзей для работы ў выбарчых камісіях і на выбарчых участках, мабілізаваць, падрыхтаваць і праінструктаваць велізарную армію агітатараў.

Большэвіцкі абавязак усіх партыйных арганізацый, усіх партыйных і непартыйных агітатараў—глыбей растлумачыць працоўным Сталінскую Канстытуцыю, давесці выбарчы закон да свядомасці кожнага выбаршчыка. Не павінна быць ні аднаго працоўнага, ні аднаго выбаршчыка, які-б не ведаў сваіх праў і абавязкаў.

Для выбаршчыка ствараюцца ўсе ўмовы, каб ён мог ажыццявіць свае выбарчыя правы. Для гэтага ў палажэнні (артыкулы 57—64) прадугледжваецца стварэнне не пазней чым за 50 дзён да выбараў выбарчых участкаў, агульных для выбараў ва ўсе мясцовыя органы ўлады: у абласны, раённы, гарадскі, сельскі і пасялковы советы дэпутатаў працоўных. Тут, на ўчастку, практычна ажыццяўляецца вялікае выбарчае права совецкага грамадзяніна. Тут ён апусціць у выбарчую урну свае бюлетэні з прозвішчамі кандыдатаў у дэпутаты мясцовых советаў.

У гор. Мінску выбарчыя ўчасткі ствараюцца з разліку на 2 тыс. чалавек насельніцтва. У гарадах, пасёлках, сяленнях ствараецца адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.500 жыхароў. У сяленнях, дзе жыве ад 500 да 2.000 чалавек, арганізуюцца асобныя выбарчыя ўчасткі.




У некаторых абласцях Беларусі ёсць вёскі з насельніцтвам менш 300 чалавек. Палажэнне аб выбарах прадугледжвае ў такіх вёсках самастойныя выбарчыя ўчасткі, калі насельніцтва ў іх не менш 300 чалавек і адлегласць ад цэнтра выбарчага ўчастка звыш 10 кілометраў. У асобных раёнах Палескай вобласці, дзе многа дробных вёсак, выбарчыя ўчасткі будуць ствараццца для населеных пунктаў з колькасцю жыхароў ад 300 да 100 чалавек.

Самастойныя выбарчыя ўчасткі ствараюцца таксама ў больніцах, радзільных дамах, санаторыях, дамах інвалідаў, паяздах дальняга следавання і т. д., каб даць магчымасць усім грамадзянам выканаць свой абавязак выбаршчыка.

У правядзенні выбараў выключна вяліка роля ўчастковых выбарчых камісій, якія будуць прымаць выбарчыя бюлетэні, падлічваць галасы і т. п. Таму неабходна зараз-жа, не марудзячы, заняцца арганізацыяй выбарчых участкаў, падборам старшынь, сакратароў і членаў выбарчых камісій, абсталяваннем памяшканняў для работы камісій і правядзення галасавання.

Спісы выбаршчыкаў трэба вывесіць за 35 дзён да выбараў. Каб недапусціць у спісах памылак і скажэнняў, неабходна ўжо зараз прывесці ў парадак дамавыя кнігі.

Палажэнне аб выбарах патрабуе, каб спісы выбаршчыкаў складаліся па кожнаму выбарчаму ўчастку ў алфавітным парадку. У спісах павінны быць указаны: прозвішча, імя, імя па бацьку і адрас выбаршчыка. Супроць прозвішча кожнага выбаршчыка павінен быць праастаўлен нумар выбарчай акругі.

Калі па якіх-небудзь прычынах выбаршчык не будзе ўключан ў спіс, ён мае права падаць скаргу ў совет, які складаў спіс. Пры нязгодзе з рашэннем совета выбаршчык можа звярнуцца ў народны суд.

Артыкул 24 палажэння аб выбарах гаворыць:

> «Народны суд на працягу трох дзён абавязан у адкрытым судовым пасяджэнні з выклікам заявіцеля і прадстаўніка Совета разгледзець скаргу на няправільнасць у спісе і сваё рашэнне неадкладна паведаміць як заявіцелю, так і совету. Рашэнне народнага суда канчатковае».

Грамадзянам нашай краіны прадастаўлена шырокае права праз грамадскія арганізацыі і таварыствы працоўных выстаўляць кандыдатамі ў дэпутаты лепшых прадстаўнікоў народа, весці агітацыю за гэтых кандыдатаў на сходах, у друку і іншымі формамі і спосабамі, згодна арт. арт. 100 і 116 нашай Канстытуцыі.

Для выстаўлення кандыдатаў устаноўлены пэўныя тэрміны: у абласныя советы—не пазней чым за 35 дзён да выбараў; у гарадскія, раённыя, сельскія і пасялковыя—не пазней чым за 20 дзён.

Падрыхтоўка да выбараў—велізарнейшая па размаху работа. Мясцовым советам і іх кіраўнікам нельга забываць той адказнасці, якая ўскладзена на іх у справе арганізацыі і паспяховага правядзення выбараў.

Побач з арганізацыйнай і масава-палітычнай работай па падрыхтоўцы да выбараў партыйныя і совецкія арганізацыі Беларусі павінны разгарнуць шырокую кампанію па справаздачы дэпутатаў працоўных з тым, каб рашуча палепшыць работу Советаў (справу народнай асветы, аховы здароўя, комуністычнай гаспадаркі, гандлю, снабжэння гарадоў дрывамі і т. д.), разам з гэтым арганізуючы працоўных на

выкананне і перавыкананне вытворчых фінансавых планаў і дзяржаўных абавязацельстваў.

Зараз па гарадах і раёнах БССР пачаліся справаздачы дэпутатаў мясцовых советаў перад працоўнымі. У Мінску гэта работа разгортваецца яшчэ вельмі марудна. Нездавальняюча арганізаваў яе Мінскі гарадскі совет, слаба кіруюць ёю і партыйныя арганізацыі.

Нельга забываць, што падрыхтоўка да выбараў у мясцовыя органы ўлады пройдзе пад знакам шырокай крытыкі недахопаў работы советаў, што выбары выклічуць ажыўленую выбарчую барацьбу. Аб дзейнасці советаў і іх кіраўнікоў—дэпутатаў горсоветаў, членаў райвыканкомаў, членаў сельсоветаў, кандыдатаў у мясцовыя органы ўлады працоўныя будуць судзіць перш за ўсё па таму, як яны змагаюцца за задавальненне штодзённых бытавых і культурных патрэб насельніцтва.

На гэта ў свой час указваў таварыш Сталін:

> «Вам здаецца, што не будзе выбарчай барацьбы. Але яна будзе, і я прадбачу вельмі ажыўленую выбарчую барацьбу. У нас не мала устаноў, якія працуюць дрэнна. Бывае, што той ці іншы мясцовы орган улады не ўмее задаволіць тыя ці іншыя з разнастайных і ўсё ўзрастаючых патрэбнасцей працоўных горада і вёскі. Пабудаваў ты ці не пабудаваў добрую школу? Ці палепшыў ты жыллёвыя ўмовы? Ці не бюракрат ты? Ці дапамог ты зрабіць нашу працу больш эфектыўнай, наша жыццё больш культурным? Такавы будуць крытэрыі, з якімі мільёны выбаршчыкаў будуць падыходзіць да кандыдатаў, адкідаючы нягодных, выкрэсліваючы іх са спісаў, вылучаючы лепшых і выстаўляючы іх кандыдатуры. ...Усеагульныя, роўныя, прамыя і тайныя выбары ў СССР будуць бізуном у руках насельніцтва супроць дрэнна працуючых органаў улады».

Надыходзячыя выбары будуць найлепшай усенароднай праверкай дзейнасці мясцовых органаў совецкай улады. Падрыхтоўка і правядзенне выбарчай кампаніі выклічуць новы магутны ўздым палітычнай актыўнасці працоўных. Умела накіраваць гэтую актыўнасць, каб яна спрыяюча сказалася на ўсёй практычнай дзейнасці Советаў, дазволіла-б ім узняцца на вышэйшую ступень—баявая задача дня. Прыйсці да выбараў з новымі поспехамі і дасягненнямі, выдатна арганізаваць абслугоўванне працоўных—першачарговы абавязак кожнага абласнога, гарадскога, раённага і сельскага совета.

Самае-ж галоўнае—выбраць у Советы дастойных дэпутатаў, лепшых прадстаўнікоў народа, да апошняй каплі крыві адданых справе партыі Леніна—Сталіна, справе комунізма.

Рыхтуючыся да выбараў, мы ні адну мінуту не павінны забываць аб капіталістычным акружэнні. Прытаіўшыяся ворагі, рэшткі контррэволюцыйных элементаў будуць прабаваць пашкодзіць правядзенню выбарчай кампаніі, таму ўся падрыхтоўчая работа да выбараў павінна праходзіць пад знакам далейшага павышэння рэволюцыйнай большэвіцкай пільнасці.

Ва ўсёй падрыхтоўчай рабоце да выбараў выключна вялікія і пачэсныя задачы стаяць перад большэвіцкім друкам. Задача рэспубліканскіх, абласных, раённых і фабрычна-заводскіх газет заключаецца ў тым, каб на сваіх старонках сістэматычна асвятляць падрыхтоўку да выбараў і арганізаваць абмен вопытам прапагандысцка-агітацыйнай работы ў часе выбарчай кампаніі.

Праграмай дзеяння ўсяго многамільённага савецкага народа ў яго барацьбе за комунізм з'яўляецца геніяльны даклад тав. Сталіна і гістарычныя рашэнні XVIII з'езда партыі.

З небывалым творчым уздымам працоўныя выконваюць рашэнні XVIII з'езда партыі, нястомна ўмацоўваюць гаспадарчую і абаронную магутнасць сваёй радзімы.

Нельга забываць, што падрыхтоўка да выбараў павінна праходзіць пад знакам яшчэ большай, далейшай мабілізацыі шырокіх мас працоўных на паспяховае выкананне гістарычных рашэнняў XVIII з'езда партыі. Задача партыйных арганізацый, усіх агітатараў—яшчэ вышэй узняць палітычную і гаспадарчую актыўнасць мас, спалучыць масава-палітычную работу сярод насельніцтва з гаспадарча-палітычнымі мерапрыемствамі партыі і ўрада.

Барацьба за паспяховае выкананне і перавыкананне вытворчых планаў, за павышэнне прадукцыйнасці працы, за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны, за далейшае развіццё соцыялістычнага спаборніцтва, стаханаўскага руху—вось асноўныя задачы, за якія трэба змагацца і якія павінны быць у цэнтры ўвагі пры правядзенні прадвыбарчай агітацыі.

Надыходзячыя выбары ў абласныя, гарадскія, раённыя, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных Беларусі павінны быць сустрэнуты новымі перамогамі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, далейшым умацаваннем магутнасці і абараназдольнасці соцыялістычнай краіны Советаў.

Ужо праз некалькі месяцаў—у канцы 1939 года—адбудуцца выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных. Справа гонару партыйных арганізацый—узорнай падрыхтоўкай да выбараў забяспечыць новую перамогу Сталінскага блока комуністаў і беспартыйных, не прапусціць варожых людзей у мясцовыя органы ўлады. Выбраць у Советы самых вартых прадстаўнікоў савецкага народа—дзеячоў ленінска-сталінскага тыпу, да канца адданых сваёй соцыялістычнай радзіме, здольных змагацца за справу партыі Леніна—Сталіна.

Няма ніякага сумнення, што падрыхтоўка і выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных будуць праходзіць пад знакам ператварэння ў жыццё гістарычных рашэнняў XVIII з'езда ВКП(б), майскага пленума ЦК ВКП(б) і апошніх сесій Вярхоўных Советаў СССР і БССР, пад знакам далейшага згуртавання працоўных Беларусі вакол партыі большэвікоў і вялікага Сталіна.

Працоўныя ордэнаноснай БССР не раз паказвалі ўзоры большэвіцкай арганізаванасці. І няма сумнення ў тым, што пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі яны выдатна правядуць выбарчую кампанію, забяспечаць перамогу сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

Беларускі народ, ідучы ў трэці раз да выбарчых урнаў, аддасць свае галасы за нерушымы сталінскі блок комуністаў і беспартыйных, яшчэ раз прадэманструе сваё маральна-палітычнае адзінства, сваю адданасць і любоў да большэвіцкай партыі і вялікага Сталіна.

* * *

Другая сесія Вярхоўнага Совета БССР прыняла закон аб арганізацыі Народнага камісарыята аўтамабільнага транспарта. Гэты закон мае велізарнае значэнне для нашай пагранічнай рэспублікі.

Сістэма кіраўніцтва аўтамабільным транспартам да апошняга часу не адпавядала свайму прызначэнню, і таму парк быў у дрэнным становішчы, машыны дачасна выводзіліся са строю. Мы маем вялікі аўтамабільны парк. На 1 студзеня 1939 года у рэспубліцы было звыш 16.000 аўтамабіляў супроць 197 к пачатку першай пяцігодкі. Гэта значыць, што ў 1939 годзе аўтамабільны парк рэспублікі прадстаўляе сабой сур'ёзную сілу, якая патрабуе арганізаванага кіраўніцтва з аднаго цэнтра.

* * *

Другая сесія Вярхоўнага Совета Беларускай ССР выбрала Вярхоўны Суд рэспублікі з лепшых людзей краіны, адданых сваёй соцыялістычнай радзіме, справе партыі Леніна—Сталіна. Працоўныя Беларусі ў праве чакаць ад Вярхоўнага Суда БССР нястомнай большэвіцкай работы па ўмацаванню рэвалюцыйнай законнасці на карысць соцыялістычнай дзяржавы і ўсяго народа, як гэтага патрабуе Сталінская Канстытуцыя.

* * *

Работа сесіі яшчэ раз прадэманстравала стыль большэвіцкай дзелавітасці, уласцівы соцыялістычнаму парламенту рабочых і сялян. Усе прынятыя сесіяй законы і дзяржаўныя рашэнні аднадушна адобраны ўсім беларускім народам. Выцякаючы з гістарычных рашэнняў майскага пленума ЦК ВКП(б) і III сесіі Вярхоўнага Совета СССР, яны дапамогуць хутчэй ажыццявіць грандыёзныя задачы, ускладзеныя XVIII з'ездам партыі на работнікаў усіх галін народнай гаспадаркі Беларусі, яшчэ больш умацуюць магутнасць вялікай краіны соцыялізма і абароназдольнасць яе фарпоста на рубяжы з капіталістычным светам—Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку.

**Г. Семёнаў**

Нам. заг. Аддзела прапаганды
і агітацыі ЦК КП(б)Б

# Шырэй размах агітацыйнай работы да выбараў у мясцовыя Советы

Выбары ў мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных—буйнейшая палітычная падзея ў жыцці народаў нашай краіны.

Пастанова майскага пленума ЦК ВКП(б) аб правядзенні выбараў у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных, зацверджанае II сесіяй Вярхоўнага Совета БССР «Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных БССР» выклікалі вялікі палітычны і вытворчы ўздым у нашай краіне.

Надыходзячыя выбары—надзвычай складаная і адказная кампанія. Партыйныя, комсамольскія і профсаюзныя арганізацыі павінны шырока разгарнуць агітацыйна-масавую палітычную работу, узняць з народных глыбінь новыя слаі актыва, яшчэ большыя, чым на выбарах у Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Да масавай работы сярод насельніцтва трэба будзе прыцягнуць тысячы і дзесяткі тысяч новых агітатараў, дапамагчы ім аўладаць майстэрствам даходчывай большэвіцкай агітацыі, садзейнічаць у павышэнні іх культурнага і палітычнага ўзроўню. Усю сваю масава-палітычную работу па падрыхтоўцы да выбараў агітатары павінны цяснейшым чынам спалучаць з барацьбой за выкананне вытворчых планаў, за новы ўздым прадукцыйнасці працы, за новыя поспехі комуністычнага выхавання.

Вялікі і складаны задачы агітацыі ў гэтай выбарчай кампаніі. Выбарчых акруг і кандыдатаў у дэпутаты будзе ва многа раз больш, чым у мінулыя выбары ў Вярхоўныя Советы СССР і БССР. Ва многа раз павялічыцца таксама колькасць людзей, вылучаных у акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі. І, нарэшце, выбары ва ўсе мясцовыя органы ўлады будуць праводзіцца ў адзін дзень.

Усё гэта патрабуе шырокага размаху арганізацыйнай і агітацыйнай работы, прыцягнення вялікай колькасці актывістаў у часе выбарчай кампаніі.

У палажэнні аб выбарах дэтальна распрацавана пытанне аб арганізацыі выбарчых акруг і выбарчых участкаў, аб парадку выстаўлення і рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, аб парадку галасавання і т. д. Усе гэтыя пытанні павінны быць прадметам бясед агітатараў сярод насельніцтва.

Асаблівасцю выбараў у мясцовыя органы ўлады будзе тое, што кожнаму выбаршчыку прыдзецца галасаваць аднячасова і ў адным

месцы за некалькіх кандыдатаў у розныя советы ад розных выбарчых акруг і па розных выбарчых нормах. Задача агітатараў—улічыць гэту асаблівасць і дабіцца, каб кожны выбаршчык ясна ўразумеў кожны пункт выбарчага закона.

Усім агітатарам трэба памятаць, што прадвыбарчая агітацыя—гэта адказная, ганаровая і разам з тым захапляючая работа. Працоўныя нашай радзімы жывуць актыўным палітычным жыццём. Кожны грамадзянін жыва цікавіцца пытаннямі ўнутранай і знешняй палітыкі большэвіцкай партыі і совецкага ўрада. Задача агітатараў—на жывых канкрэтных прыкладах з жыцця свайго горада, свайго раёна, свайго завода, фабрыкі, калгаса паказаць выбаршчыкам велізарныя заваёвы соцыялізма ў нашай краіне, росквіт соцыялістычнай эканомікі і культуры, шчаслівае, заможнае і радаснае жыццё, вялікую дружбу народаў Совецкага Саюза. Побач з гэтым агітатары павінны расказаць сваім выбаршчыкам аб праклятым мінулым жыцці народаў царскай Расіі і мабілізаваць масы совецкіх патрыётаў супроць фашысцкіх падпальшчыкаў вайны, на ўмацаванне магутнасці і абараназдольнасці краіны Советаў, выхоўваць у працоўных любоў да соцыялістычнай радзімы і нянавісць да ворагаў народа. Хіба гэта не пачэсны абавязак, хіба можа быць для агітатара больш пачэсная і ўдзячная работа!?

Выбары мясцовых органаў дзяржаўнай улады ўпершыню праводзяцца па Сталінскай Канстытуцыі. Па свайму размаху яны будуць найвялікшай палітычнай кампаніяй. Да кіраўніцтва дзяржавай прыдуць дзесяткі тысяч новых людзей, вырашчаных і выхаваных партыяй Леніна—Сталіна, людзей, якія даказалі сваю адданасць справе партыі, сваю непрымірымасць у барацьбе з ворагамі народа.

Нашы партыйныя арганізацыі накапілі ў мінулыя выбарчыя кампаніі багацейшы вопыт агітацыйнай работы, прыцягнулі да яе вялікую армію агітатараў. Даволі сказаць, што ў час выбараў у Вярхоўны Совет БССР працавала звыш 40.000 агітатараў. Створана было 35.000 гурткоў па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі і Палажэння аб выбарах. У Палескай вобласці 5.324 гурткамі было ахоплена 178.372 чалавекі. У Гомельскай вобласці працавала 11.772 агітатары, аб'яднаныя ў 339 агіткалектываў. 10.632 гурткі ахапілі 340.497 выбаршчыкаў. У Мінскай вобласці сярод насельніцтва працавала 14.756 прапагандыстаў-агітатараў, у 14.871 гуртку займалася 485.990 выбаршчыкаў. Асноўнай формай большэвіцкай агітацыі былі тады бяседы па вывучэнню Сталінскай Канстытуцыі, закона аб выбарах і па пытаннях бягучай палітыкі.

Агітацыя на прадпрыемствах спалучалася ў тыя дні з велізарнай палітычнай работай на выбарчых участках, на кватэрах працоўных, у інтэрнатах. Поспех агітацыі быў забяспечан тым, што ў ёй шырока прымяняліся і выкарыстоўваліся ўсе формы і метады масавай работы: мітынгі, сходы, экскурсіі, злёты, палітдні, пасылка агітбрыгад і агітмашын. Масавыя экскурсіі выбаршчыкаў у музей, калектыўныя наведванні кіно і тэатраў безумоўна адыгралі станоўчую ролю ў правядзенні ўсёй палітычна-масавай работы. Абслугоўваліся ўсе слаі насельніцтва: дворнікі, начныя вартаўнікі, хатнія гаспадыні і іншыя грамадзяне, да выбараў слаба ўцягнутыя ў палітычнае жыццё краіны.

Агромную агітацыйную работу праводзіў друк. На выбарчых участках выходзілі спецыяльныя насценгазеты і лістоўкі. У адной толькі Мінскай вобласці за час падрыхтоўкі да выбараў было распаўсюджана 200.000 экземпляраў лістовак агітацыйнага характару.

Вялікай папулярнасцю карысталася наглядная агітацыя, як фота-

выстаўкі, вітрыны, плакаты, фота-газеты і інш. Фота-выстаўку ў Мінску, прысвечаную жыццю і дзейнасці сваіх дэпутатаў—таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў тт. Молатава і Варашылава—наведала звыш 120 тыс. выбаршчыкаў.

Прымяненне рознастайных форм масава-палітычнай работы забяспечыла поўны ахват агітацыяй усіх выбаршчыкаў гарадоў і вёсак, спрыяла бліскучай перамозе сталінскага блока комуністаў і беспартыйных. Пры выбарах у Вярхоўны Совет БССР прыняло ўдзел у галасаванні 99,65 проц. выбаршчыкаў. 96,16 проц. выбаршчыкаў аддалі свае галасы за кандыдатаў сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

Выбары ў Вярхоўныя Советы СССР і БССР яшчэ раз паказалі ўсяму свету маральна-палітычнае адзінства совецкага народа, яго згуртаванасць вакол партыі Леніна—Сталіна, яго беззаветную рашымасць і гатоўнасць цвёрда і няўхільна ісці па шляху будаўніцтва комунізма, яго любоў да арганізатара нашых перамог—вялікага Сталіна.

Абавязак усіх партыйных арганізацый і агіткалектываў—умела выкарыстаць вялікі практычны вопыт, накоплены ў нядаўніх выбарчых кампаніях, апраўдаўшыя сябе, правераныя жыццём формы агітацыйна-масавай работы і дабіцца, каб кожны выбаршчык актыўна і поўнасцю ажыццявіў сваё права ўдзелу ў кіраванні дзяржавай, прадастаўленае яму Сталінскай Канстытуцыяй.

Многія партыйныя арганізацыі працягвалі масавую работу і пасля выбараў у Вярхоўныя Советы СССР і БССР, хоць яна і не мела ўжо такога размаху.

Паведамленне ЦК ВКП(б) аб скліканні XVIII з'езда партыі, тэзісы дакладаў тт. Молатава і Жданава, апублікаванне даклада таварыша Сталіна і матэрыялаў з'езда, рашэнні майскага пленума ЦК ВКП(б) і III сесіі Вярхоўнага Совета СССР выклікалі новы палітычны і вытворчы ўздым у працоўных Совецкай Беларусі. Толькі па Магілеўскай і Палескай абласцях было праведзена 11.227 мітынгаў і сходаў, на якіх прысутнічала 1.210.000 чалавек. Для больш глыбокага вывучэння даклада таварыша Сталіна і матэрыялаў з'езда было створана толькі па адной Магілеўскай вобласці 426 гурткоў, у якіх займаліся 8.124 хатнія гаспадыні.

У Гомельскай, Палескай і Мінскай абласцях было выдзелена звыш 34.000 агітатараў, аб'яднаных у 1.024 агіткалектывы. Такі-ж размах набыла агітацыйная работа ў большасці раёнаў рэспублікі.

У тых раёнах, дзе паспяхова праводзіцца палітыка-масавая агітацыйная работа,—паспяхова выконваюцца і гаспадарча-палітычныя задачы. Напрыклад, у Веткаўскім раёне у выніку масавай работы за два месяцы ўступіла ў калгасы 120 сямей аднаасобнікаў. У Рагачоўскім раёне, у сельсовеце, дзе агіткалектывам кіруе тав. Камарэнка, за апошні час уступіла ў калгасы 70 сямей.

У Магілеве, на фабрыцы імені Валадарскага, вылучана 65 агітатараў, якія сістэматычна праводзяць палітмасавую работу. У гэтым годзе фабрыка, уключыўшыся ў соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, вышла з прарыву і штомесячна выконвае план на 105 проц. Палепшылася таксама якасць прадукцыі, знізіўся брак. Сярод лепшых агітатараў фабрыкі—тт. Велікаў, Лукомскі, Дзякава, Якубовіч.

Добра працуюць агітатары і на фабрыцы «Профінтэрн» Мазырскага раёна. Заслужаным аўтарытэтам сярод рабочых фабрыкі карыстаюцца тт. Голад, Дварэцкі, Пракоф'еў, Агееў. Рабочыя цэха, дзе

працуе агітатарам тав. Голад, сталі выконваць нормы выпрацоўкі на 250 проц., колькасць стаханаўцаў, якія выпрацоўваюць нормы звыш 200 проц., вырасла да 392 чалавек. Поўгадавую праграму фабрыка выканала на 130 проц.

Умелае спалучэнне палітычнай і гаспадарчай работы дае добрыя рэзультаты ў цэлым радзе партыйных арганізацый.

Агітатар Рэчыцкага дротавага завода тав. Хайкін заўсёды звязвае свае бяседы аб задачах трэцяй сталінскай пяцігодкі, аб соцыялістычным спаборніцтве і стаханаўскім руху з надзеннымі пытаннямі сваёй вытворчасці. Ён мабілізаваў усіх рабочых цвіковага цэха на выкананне вытворчага плана і дапамог вывесці цэх з адстаючых у перадавыя.

Агітатар паравознага дэпо г. Магілева тав. Усціменка ў бяседах аб рашэннях XVIII з'езда партыі паставіў перад рабочымі канкрэтныя задачы: узняць прадукцыйнасць працы, умацаваць працоўную дысцыпліну. Пасля гэтага прастоі паравозаў у рамонце значна скараціліся. Калі ў мінулым годзе паравоз у абточцы стаяў шэсць дзён, то цяпер стаіць толькі 7 гадзін.

Жыва і цікава праводзіць работу ў калгасе «Барацьба» Клімавіцкага раёна агітатар-настаўніца тав. Аўраменка. У бяседах аб XVIII з'ездзе партыі яна на канкрэтных прыкладах паказала, як трэба змагацца за сталінскія 8 мільярдаў пудоў зярна. Яе бяседы дапамаглі калгаснікам паспяхова закончыць сяўбу і па-бальшэвіцку правесці ўборку ўраджаю.

Пярвічная партарганізацыя Званецкага сельсовета Журавіцкага раёна ў выніку добрай пастаноўкі агітацыйна-масавай работы вывела калгасы сельсовета на перадавое месца ў раёне па выкананню гаспадарча-палітычных кампаній. За добрую работу сельсовет атрымаў два пераходныя чырвоныя сцягі.

Агітатар тав. Майсееў, брыгадзір Магілеўскай вопытнай селекцыйнай станцыі ў Война́чах, правільна спалучаючы палітычную агітацыю з гаспадарчымі задачамі, дабіўся таго, што яго брыгада стала перадавой і шэсць чалавек з брыгады былі залічаны кандыдатамі на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Лепшыя агітатары здолелі аб'яднаць палітычную работу з культурна-масавымі мерапрыемствамі.

Кіраўнік агіткалектыва тав. Балтушкін (Рагачоў) пасля заняткаў і дакладаў арганізуе мастацкія выступленні піонераў і школьнікаў, дзіцячага хору, калектыўны прагляд кінокарцін.

Агітатар дрэваапрацоўчага завода імені Молатава (Мінск) тав. Карасік (беспартыйны, загадчык планавага аддзела) арганізаваў сярод хатніх гаспадынь заняткі па здачы норм на значок «ПВХО».

Сістэматычна праводзяцца ваенныя заняткі на віцебскай шчотачнай фабрыцы імені Куйбышэва. Агітатар тав. Прысадоўская часта арганізуе для хатніх гаспадынь на былым выбарчым участку экскурсіі ў гістарычны музей, калектыўныя паходы ў кіно і іншыя культурна-масавыя мерапрыемствы.

У Рудзенскім раёне Мінскай вобласці ўборачную кампанію абслугоўвала агітмашына. На агітмашыне была фотавыстаўка. Тры кваліфікаваныя агітатары праводзілі на полі палітбяседы, арганізоўвалі ў брыгадах выпуск насценных газет і т. д.

У Дзержынскім раёне дзве агітбрыгады з 28 чалавек правялі 27 выездаў у калгасы, дзе чыталі даклады аб міжнародным становішчы, арганізоўвалі выступленні мастацкай самадзейнасці, выпуск

насценных і вусных газет. Ва Уздзенскім раёне 11 ліпеня праведзена была міжкалгасная агітэстафета, у якой прынялі ўдзел 280 чалавек з 10 калгасаў. Сіламі мінскай агітбрыгады і артыстаў філармоніі дана 9 канцэртаў у калгасах. Перад канцэртамі прапагандыст аддзела прапаганды і агітацыі райкома партыі чытаў даклады аб міжнародным становішчы.

Вялікую работу праводзяць агітатары па растлумачэнню рашэнняў майскага пленума ЦК ВКП(б) і рашэнняў III сесіі Вярхоўнага Совета СССР. Толькі ў адной Палескай вобласці праведзена 2.340 сходаў калгаснікаў, звыш 4.000 сходаў па брыгадах, 14.700 групавых бясед па звеннях і групах калгаснікаў. У 162 калгасах праведзены палітдні, індывідуальныя бяседы з калгаснікамі і аднаасобнікамі. У выніку шырокай агітацыйна-масавай работы план ссялення хутароў па Палескай вобласці выканан поўнасцю: сселена 13.150 хутароў, у тым ліку 1.797 аднаасобнікаў. За гэты перыяд па вобласці ўступіла ў калгас 1.360 аднаасобных гаспадарак.

Прыведзеныя факты (а іх можна было-б прывесці ў сотні раз больш) сведчаць аб тым, што сапраўдная большэвіцкая агітацыя мабілізуе працоўныя масы на выкананне задач, пастаўленых партыяй і Урадам. Яны гавораць аб поўнай магчымасці правесці выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных БССР на высокім ідэйна-палітычным узроўні.

Аднак у нас ёсць яшчэ і такія партыйныя арганізацыі, якія аслабілі палітычна-масавую работу сярод насельніцтва, прадаставілі агітатараў самім сабе, не кіруюць імі і не дапамагаюць у рабоце.

У Дрыбінскім раёне Магілеўскай вобласці агітатараў падбіраюць толькі к чарговай палітычнай кампаніі. У Церахаўскім раёне фармальна створана 27 агіткалектываў, вылучана 213 агітатараў, але ніякай работы з імі не праводзіцца. Слаба кіруюць агітатарамі ў Бялыніцкім і Смалявіцкім раёнах.

Яркую характарыстыку работы партыйнай арганізацыі Мінскага трамвайнага парка дала хатняя гаспадыня тав. Макарэвіч, якая пражывае па Чырвонасцяжнай вуліцы, д. № 42.

> «У час выбараў,—заявіла тав. Макарэвіч,—мы, хатнія гаспадыні, адчувалі асаблівыя клопаты аб нас. Агітатары сістэматычна праводзілі бяседы з намі, і мы з нецярплівасцю чакалі дня заняткаў. Мы адчувалі, што прыцягваліся да актыўнага грамадскага жыцця. Але пасля выбараў уся работа заглохла».

На фабрыцы «8 сакавіка» у час выбараў працавала 12 гурткоў, асталося зараз толькі 3, і тыя працуюць без плана. Партбюро ні разу не заслухала пытання аб становішчы агітмасавай работы на былым выбарчым участку.

У некаторых партыйных арганізацыях заняткі семінараў ператвараліся ў «накачкі» агіткалектываў да чарговай тэмы. Работа агітатараў не правяралася. Слаба пастаўлена агітацыйная работа на полі, у калгаснай брыгадзе, звяне, на былых выбарчых участках у такіх раёнах як Мазырскі, Петрыкаўскі, Мехаўскі.

Пасля выбараў у Вярхоўны Совет БССР у Тураўскім, Глускім, Даманавіцкім раёнах праведзены па 2—3 семінары, да і тыя насілі характар «накачкі». Лельчыцкі, Брагінскі, Жыткавіцкі райкомы партыі рэдка ставілі на бюро пытанні, звязаныя з агітацыйнай работай і работай кіраўнікоў агіткалектываў. Так далей працягвацца не можа.

Райкомы партыі і пярвічныя партыйныя арганізацыі павінны зразумець, што калі яны зараз не перабудуюць пастаноўку паліт-

масавай работы, яны не змогуць забяспечыць большэвіцкага правядзення выбарчай кампаніі.

Партыйныя, комсамольскія, профсаюзныя, грамадскія арганізацыі павінны зараз-жа прадумаць, што неабходна прадпрыняць, каб забяспечыць правядзенне выбараў у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных на высокім ідэйна-палітычным узроўні.

Неабходна пераглядзець састаў агітатараў і кіраўнікоў агіткалектываў. Трэба вылучыць новых таварышоў з лепшых людзей рэспублікі—ордэнаносцаў, перадавікоў сельскай гаспадаркі, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія змогуць забяспечыць шырокае разгортванне масава-палітычнай работы і на вытворчасці і па месцу жыхарства працоўных.

Партыйныя арганізацыі павінны наладзіць вучобу саміх агітатараў. Совецкі народ палітычна расце і прад'яўляе да агітатара ўсё большыя і большыя патрабаванні. Ён цікавіцца добрай інфармацыяй аб міжнародным жыцці і ўнутранай палітыцы СССР, аб развіцці навукі, мастацтва. Каб поўнасцю задаволіць палітычныя і культурныя запросы працоўных, агітатары павінны нястомна працаваць над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню, упарта авалодваць марксісцка-ленінскай тэорыяй, вучыцца майстэрству большэвіцкай агітацыі ў правадыроў сусветнага пролетарыята—Леніна і Сталіна.

Райкомы партыі, пярвічныя партарганізацыі павінны не толькі падбіраць агітатараў і дапамагаць у іх падрыхтоўцы, але і ўстанавіць штодзенны неаслабны кантроль за іх работай, арганізаваць абмен вопытам.

Неабходна цяпер-жа шырока разгарнуць сярод насельніцтва вывучэнне Палажэння аб выбарах у мясцовыя советы. Зараз-жа прадумаць, якую колькасць турткоў, з каго і дзе арганізаваць, каб ахапіць пагалоўна ўсё насельніцтва. На былых выбарчых участках, ў дамах соцыялістычнай культуры, у клубах сістэматычна праводзіць масавыя лекцыі, даклады, бяседы аб міжнародным становішчы, аб рашэннях партыі і ўрада, аб задачах умацавання абароназдольнасці краіны, аб Сталінскай Канстытуцыі, аб выніках IV Сесіі Вярхоўнага Совета СССР, аб шляхах далейшага ўмацавання калгаснага ладу, аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы.

На пярвічныя партыйныя арганізацыі ўскладаецца ўся адказнасць за масава-палітычную работу сярод насельніцтва. Райкомы партыі павінны праверыць, як партыйныя арганізацыі праводзяць масавую работу на былых выбарчых участках і, калі яна аслабла, безадкладна ўзмацніць.

У выбарчай кампаніі вялікая роля адводзіцца раённым, заводскім друкаваным і насценным газетам. Яны павінны будуць асвятляць палітычную работу сярод насельніцтва, вопыт лепшых агітатараў, весці агітацыю за кандыдатаў у дэпутаты мясцовых советаў. Гэтыя задачы кладуцца ў першую чаргу на нізавы друк, паколькі рэспубліканскія, абласныя і раённыя газеты не змогуць папулярызаваць усю велізарную колькасць кандыдатаў у дэпутаты. Трэба своечасова і як след падрыхтавацца да гэтай адказнай работы, правесці нарады рэдактароў газет—раённых, фабрычна-заводскіх, насценных.

Трэба безадкладна наладзіць наглядную агітацыю. Кіноарганізацыі павінны асвятляць агітацыйна-масавую работу сярод працоўных, нашы дасягненні на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва, ход падрыхтоўкі да выбараў на прадпрыемствах, у соўгасах, калгасах, установах і на выбарчых участках.

Агітпункты на выбарчых участках трэба зрабіць цэнтрам агітацыйна-масавай работы, размножыць вопыт работы агітмашын і агітбрыгад, працаваўшых у Мінскай вобласці. Партыйныя, комсамольскія і грамадскія арганізацыі павінны безадкладна праверыць, як у іх праводзіцца масава-палітычная работа, намеціць мерапрыемствы, якія-б забяспечылі стопроцантны ўдзел выбаршчыкаў у выбарчай кампаніі.

Для паспяховага разгортвання агітацыйна-масавай работы Аддзел прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б намеціў рад арганізацыйных мерапрыемстваў. Па ўсіх гарадах і раёнах рэспублікі праведзены ўжо дзесяцідзённыя курсы, на якіх падрыхтавана 2.608 агітатараў. Намечана правесці па ўсіх раёнах і гарадах пяцідзенныя курсы-семінары з ахватам каля 7.000 чалавек. Выдана 600-тысячным тыражом «Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных БССР». Распрацован прыкладны план гурткоў па вывучэнню палажэння аб выбарах.

Пры ЦК КП(б)Б адбыліся дзве нарады агітатараў, якія падвялі вынікі агітацыйна-масавай работы па растлумачэнню рашэнняў XVIII з'езда партыі.

Абласныя, гарадскія і раённыя камітэты партыі намячаюць правесці інструкцыйныя нарады, спецыяльныя семінары, дзесяці, пяці і трохдзённыя курсы для агітатараў, узмацняюць сваё кіраўніцтва агітацыйнай работай на фабрыках і заводах, у калгасах і соўгасах.

Зараз агіткалектывы папаўняюцца лепшымі людзьмі, якія праявілі сябе пры выбарах у Вярхоўныя Советы СССР і БССР. У Добрушскім раёне да апошняга часу ў 11 агіткалектывах працавала 487 агітатараў. Пры пераглядзе 50 чалавек вызвалены ад агітацыйнай работы, як не апраўдаўшыя сябе. Вылучана новых 400 агітатараў і створана 11 новых агіткалектываў. Такім чынам, у раёне працуе цяпер 22 агіткалектывы з 837 агітатарамі. 16 лепшых агітатараў пасланы на Усесаюзную сельскагаспадарчую выстаўку.

Падбор і ўзмацненне агіткалектываў праводзіцца на ўсіх прадпрыемствах гор. Гомеля. На Гомсельмашы партбюро зацвердзіла 45 новых агітатараў, на Лесакамбінаце—30. На Гомсельмашы 6 жніўня адбылася нарада парторгаў па пытанню падрыхтоўкі да выбараў. Па гораду створана каля 3.000 гурткоў для вывучэння палажэння аб выбарах. Для работы ў гуртках партарганізацыя Паравоза-рамонтнага завода вылучыла 70 агітатараў, фабрыка «Везувій»—54, паравознае дэпо—60. Пры доме партасветы праведзен аднадзённы семінар агітатараў горада на 500 чалавек. Праз аднадзённыя семінары намечана падрыхтаваць звыш тысячы агітатараў.

У Рагачоўскім раёне ўжо вылучана 800 агітатараў. У раённым цэнтры працуюць курсы для падрыхтоўкі 30 агітатараў без адрыву ад вытворчасці. У Ціхінскім сельсовеце арганізуюцца кустывыя курсы для агітатараў аддаленых сельсоветаў і калгасаў. У 50 гуртках ужо вывучаецца выбарчы закон.

Рагачоўскі райком партыі і райпарткабінет сістэматычна дапамагаюць у рабоце кіраўнікам агіткалектываў і агітатарам. У Рагачове і Добрушы адбыліся пленумы райкомаў партыі па пытанню аб выбарах.

Мінскі абком намеціў правесці сходы хатніх гаспадынь, вартавых, пенсіянераў і іншых груп насельніцтва. На сходах будуць зроблены даклады аб выбарчым законе і задачах падрыхтоўкі да выбараў у мясцовыя советы.

Больш 200 агітатараў Барысава разгарнулі шырокую агітацыйна-масавую работу на былых выбарчых участках. Усе гэтыя таварышы маюць велізарны вопыт бальшэвіцкай агітацыі.

У Магілеўскім раёне створана 40 агіткалектываў. больш 700 агітатараў растлумачваюць рабочым і калгаснікам палажэнне аб выбарах. Актыўны ўдзел у гэтай рабоце прымаюць комсамольцы. Лепшыя комсамольцы соўгаса «Вейно» кіруюць гурткамі па вывучэнню матэрыялаў II сесіі Вярхоўнага Совета БССР і палажэння аб выбарах у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных. Заняткі наведваюць больш 30 калгаснікаў. Настаўніца тав. Шумейка, узнагароджаная медаллю «За трудовую доблесть», праводзіць бяседы з калгаснікамі калгаса «Чырвоны сцяг». Добра паставіў работу настаўнік-ордэнаносец тав. Малышаў у калгасе «Кастрычнік» Горацкага раёна. На заняткі гуртка прыходзіць больш 30 калгаснікаў.

Выбары ў мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных трэба правесці, шырока ўцягваючы ў арганізацыйную і агітацыйную работу найшырэйшыя слаі перадавых беспартыйных людзей, выхоўваючы і загартоўваючы на гэтай усенароднай палітычнай кампаніі новую армію беспартыйнага актыва.

Уся палітычная агітацыя ў сувязі з выбарамі ў мясцовыя советы павінна быць цеснейшым чынам увязана з папулярызацыяй нашых дасягненняў, з Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкай і падрыхтоўкай да 22 гадавіны вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі. Узнімаючы ўзровень масава-палітычнай работы, неабходна ўсямерна павышаць рэволюцыйную пільнасць і нянавісць працоўных мас да ворагаў народа.

Арганізацыйная і масава-палітычная работа павінна забяспечыць у надыходзячых выбарах аднадушнае галасаванне працоўных за сталінскі блок комуністаў і беспартыйных, за лепшых прадстаўнікоў нашай вялікай краіны, актыўных будаўнікоў комуністычнага грамадства

Партыйная арганізацыя Совецкай Беларусі, узброеная гістарычнымі рашэннямі XVIII з'езда партыі і ўказаннямі таварыша Сталіна, з гонарам выканае задачу далейшага разгортвання арганізацыйнай і агітацыйна-палітычнай работы ў сувязі з падрыхтоўкай да выбараў у мясцовыя Советы дэпутатаў працоўных.

---

**Д. Фішбейн**

# Вышэй сцяг соцыялістычнага спаборніцтва.

Найшырэйшыя народныя масы нашай неабсяжнай радзімы, натхнёныя сусветна-гістарычнымі рашэннямі XVIII з'езда партыі Леніна—Сталіна, ахоплены новым магутным творчым уздымам. На заводах і фабрыках, у соўгасах і калгасах, у навучальных і навуковых установах, на транспарце і ў Чырвонай Арміі—усюды высока лунае пераможны сцяг соцыялістычнага спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

XVIII з'езд партыі паставіў перад намі велізарнай важнасці задачу—перагнаць галоўныя капіталістычныя дзяржавы ў эканамічных адносінах, у галіне вытворчасці прадметаў на душу насельніцтва.

Таварыш Сталін у сваім геніяльным дакладзе на XVIII з'ездзе заклікаў партыю і ўвесь совецкі народ:

> «Разгарнуць далей уздым нашай прамысловасці, рост прадукцыйнасці працы, удасканаленне тэхнікі вытворчасці з тым, каб пасля таго, як перагналі ўжо галоўныя капіталістычныя краіны ў галіне тэхнікі вытворчасці тэмпаў прамысловасці,—перагнаць іх таксама эканамічна на працягу бліжэйшых 10—15 год».

Магутны творчы ўздым, які ахапіў працоўных нашай краіны, з'яўляецца яркім выражэннем поўнай гатоўнасці совецкага народа самаафярна змагацца пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі за паспяховае ажыццяўленне гэтай задачы.

Соцыялістычнае спаборніцтва стала пераможным сцягам дзесяткаў мільёнаў будаўнікоў комунізма. З кожным днём шырацца рады спаборнічаючых, мацнее стаханаўскі рух—вышэйшая форма соцыялістычнага спаборніцтва.

Рабочыя, калгаснікі, совецкая інтэлігенцыя, служачыя, спаборнічаючы за датэрміновае выкананне вытворчых планаў, за перавыкананне колькасных паказчыкаў, разам з тым шырока разгортваюць спаборніцтва за лепшае выкананне якасных паказчыкаў: зніжэнне сабекошту, эканомію сыравіны, павышэнне якасці прадукцыі і т. д. У гэтых адносінах знамянальным з'яўляецца рух за чэсць фабрычнай маркі.

Краіна наша пажынае ўжо плады вялікага творчага ўздыму народных мас. За першую палавіну 1939 года прадукцыя соцыялістычнай прамысловасці Совецкага Саюза вырасла ў параўнанні з першай палавінай мінулага года на 15,2 проц. або на 5.949.200 тыс. рублёў. Усе прамысловыя наркаматы павялічылі выпуск прадукцыі. Прамысловасць такіх наркаматаў, як машынабудаўніцтва і абароны, выканала поўгадавую праграму на 127,7 проц. Значны рост прадукцыі далі нарка-

маты хімічнай, тэкстыльнай, лёгкай, рыбнай, харчовай прамысловасці. Ідзе ўперад мясцовая прамысловасць.

Вялікі рост мы маем і ў прамысловасці нашай рэспублікі.

Усе асноўныя галіны прамысловасці БССР датэрмінова закончылі вытворчую праграму першай палавіны 1939 года. Па рэспубліцы налічваецца ўжо не мала прадпрыемстваў, якія значна раней тэрміну выканалі сямімесячную праграму. Пад сцягам соцыялістычнага спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі калгаснае сялянства паспяхова змагаецца за сталінскі ўраджай, за далейшы ўздым калгаснай вытворчасці. Пад гэтым-жа сцягам расце і мацнее баявая магутнасць краіны соцыялізма. У воінскіх часцях і на караблях, на падводных лодках і самалётах, на палігонах і пагранічных заставах—усюды, дзе знаходзяцца воіны Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі, развяваецца сцяг соцыялістычнага спаборніцтва.

* * *

Першага верасня наша краіна адзначае чацвертую гадавіну ўзнікнення стаханаўскага руху, які адкрыў бліскучую гераічную старонку ў гісторыі соцыялістычнага будаўніцтва, узняў на вышэйшую ступень усенароднае соцыялістычнае спаборніцтва.

Амаль 4 годы таму назад, на першай Усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў, таварыш Сталін гаварыў: «Сёння стаханаўцаў яшчэ мала, але хто можа сумнявацца, што заўтра іх будзе ўдзесяцёра больш». Гэтыя прарочыя словы вялікага правадыра народаў цалкам апраўдаліся. Пераможны, стаханаўскі рух шырока разгарнуўся ва ўсіх галінах прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Няма такога ўчастка ў нашай народнай гаспадарцы, дзе стаханаўскія метады работы не прабілі-б сабе дарогу. Самае выдатнае ў стаханаўскім руху—гэта тое, што ён, развіваючыся ўшыр, ахапляючы ўсё больш шырокія слаі рабочых і калгаснікаў, разам з тым расце і ўглыб. Адбываецца працэс пераходу ад стаханаўцаў-адзіночак да стаханаўскіх брыгад, цэхаў і цэлых прадпрыемстваў, да калектыўнай стаханаўскай работы; барацьба за павышэнне колькасці прадукцыі спалучаецца з актыўнай барацьбой за высокую яе якасць, за чэсць фабрычнай маркі.

XVIII з'езд партыі паставіў перад намі сусветна-гістарычную задачу—перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны таксама і ў эканамічных адносінах, г. зн. у галіне вытворчасці прадметаў на душу насельніцтва.

Стаханаўскі рух заклікан адыграць каласальную ролю ў ажыццяўленні гістарычных рашэнняў XVIII з'езда нашай партыі, у якіх дана баявая праграма пераходу ад соцыялізма да комунізма, бо стаханаўскі рух прадстаўляе ўзор вышэйшай, у параўнанні з капіталізмам, прадукцыйнасці працы, бо ён «ламае старыя тэхнічныя нормы, як недастатковыя, перакрывае ў цэлым радзе выпадкаў прадукцыйнасць працы перадавых капіталістычных краін і адкрывае, такім чынам, практычную магчымасць далейшага ўмацавання соцыялізма ў нашай краіне, магчымасць ператварэння нашай краіны ў найбольш заможную краіну» **(Сталін).**

Па ўсёй рэспубліцы разгортваецца рух за датэрміновае выкананне плана другога года трэцяй сталінскай пяцігідкі, за дастойную сустрэчу 4-ай гадавіны стаханаўскага руху і выбараў у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных. Партыйныя і профсаюзныя арганізацыі абавязаны

узначаліць гэты ўздым палітычнай і вытворчай актыўнасці народных мас і дабіцца новых рашаючых перамог на ўсіх участках будаўніцтва социялізма.

Усенароднае спаборніцтва мільёнаў труженікаў краіны социялізма з'яўляецца выражэннем велізарных поспехаў нашай партыі ў справе выхавання социялістычнай дысцыпліны працы. Пераважная большасць працоўных адносіцца да сваёй справы добрасумленна і чэсна, штодзенна праяўляючы гераізм у социялістычнай працы. Праца ў нашай краіне стала справай чэсці, доблесці і геройства. Партыя і совецкі ўрад акружылі велізарнай увагай і гонарам чэсных труженікаў, якія аддана служаць справе комунізма. Совецкі народ адказвае на гэту ўвагу і клопаты самаафярнай і чэснай работай над выкананнем задач будаўніцтва комуністычнага грамадства. Совецкі народ ведае, што ён працуе на сябе, на социялістычнае грамадства, на карысць сваёй радзімы. У гэтым—крыніца яго працоўнага гераізма.

На першай усесаюзнай нарадзе стаханаўцаў правадыр і настаўнік народаў усяго свету—вялікі Сталін гаварыў:

> «Пры капіталізме праца мае прыватны, асабісты характар. Выпрацаваў больш, атрымлівай больш і жыві сабе, як ведаеш. Ніхто цябе не ведае і ведаць не хоча. Ты працуеш на капіталістаў, ты іх узбагачаеш. А як-жа інакш?. Для таго цябе і нанялі, каб ты ўзбагачаў эксплуататараў. Ты не згодзен з гэтым,—ступай ў рады беспрацоўных і гібей, як ведаеш,—знойдзем другіх, больш згаворчывых. Вось чаму праца людзей не высока цэніцца пры капіталізме... Іншая справа—ва ўмовах совецкага ладу. Тут працоўны чалавек не можа адчуваць сябе закінутым і адзінокім. Наадварот, працоўны чалавек адчувае сябе ў нас свабодным грамадзянінам сваёй краіны, свайго роду грамадскім дзеячом. І, калі ён працуе добра і дае грамадству тое, што можа даць,—ён герой працы, ён авеян славай».

Социялістычнае спаборніцтва развівае творчую ініцыятыву, узнімае актыўнасць, энтузіязм народных мас, з'яўляецца магутным фактарам няўхільнага ўздыму прадукцыйнасці працы. Социялістычнае спаборніцтва **«ёсць комуністычны метад будаўніцтва социялізма** на аснове максімальнай **актыўнасці** мільённых мас працоўных» **(Сталін).**

Вялікія правадыры пролетарыята—Ленін і Сталін заўсёды падкрэслівалі велізарнае значэнне социялістычнага спаборніцтва ў справе комуністычнага выхавання народных мас. Уладзімір Ільіч Ленін ужо ў першым суботніку ў 1919 годзе бачыў расткі комуністычнай працы. Геніяльны прадаўжальнік справы Леніна—таварыш Сталін заўсёды вучыў і вучыць партыю ўсямерна развіваць социялістычнае спаборніцтва шырокіх працоўных мас, як адну з асноўных сіл нашага руху ўперад.

Гаворачы аб асноўных сілах, якія забяспечылі выкананне першай пяцігодкі ў 4 годы, таварыш Сталін указваў:

> «Гэта, перш за ўсё, актыўнасць і самаафярнасць, энтузіязм і ініцыятыва мільённых мас рабочых і калгаснікаў, развіўшых разам з інжынерна-тэхнічнымі сіламі каласальную энергію па разгортванню социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва» *).

*) Сталін, „Пытанні ленінізма“, стар. 511.

Дзесяць год таму назад XVI партыйная канферэнцыя ў сваім звароце «Да ўсіх рабочых і працоўных сялян Совецкага Саюза» пісала:

«Таварышы рабочыя і працоўныя сяляне!

Для пераадолення цяжкасцей соцыялістычнага будаўніцтва, для разгортвання далейшага наступлення на капіталістычныя элементы ў горадзе і вёсцы, для выканання пяцігадовага плана арганізуйце спаборніцтва ва ўсіх галінах будаўніцтва, арганізуйце спаборніцтва заводаў, фабрык, шахт, чыгунак, соўгасаў, калгасаў, совецкіх устаноў, школ і больніц.

Арганізуйце спаборніцтва за зніжэнне сабекошту, за павышэнне прадукцыйнасці працы, за ўмацаванне працдысцыпліны, за расшырэнне пасеўных плошчаў, за ўздым ураджайнасці, за ўцягненне сялянства ў калгасы і кааперацыю, за спрашчэнне дзяржапарата і ўмацаванне яго сувязі з масамі, за паляпшэнне работы культурна-бытавых устаноў, абслугоўваючых масы працоўных» *).

За мінуўшае дзесяцігоддзе соцыялістычнае спаборніцтва стала сапраўды ўсенародным рухам. Пад сцягам соцыялістычнага спаборніцтва першая сталінская пяцігодка індустрыялізацыі краіны выканана ў 4 годы. Соцыялістычнае спаборніцтва адыграла каласальную ролю ў паспяховым выкананні другой сталінскай пяцігодкі, калі яно перарасло ў вышэйшую форму свайго развіцця—стаханаўскі рух. Стаханаўскі рух адыграў і адыгрывае велізарную ролю ў пераадоленні аджыўшых, устарэлых тэхнічных норм. Ён паказвае ўзоры такой прадукцыйнасці, якая ва многа раз перакрывае прадукцыйнасць працы ў капіталістычных краінах. Ён з'яўляецца магутным фактарам умацавання пазіцый соцыялізма, нашай соцыялістычнай эканомікі, нашага руху ўперад—да комунізма.

* *
*

Самае выдатнае, што характарызуе сучасны этап соцыялістычнага спаборніцтва,—гэта тое, што яно стала метадам работы не толькі перадавых будаўнікоў соцыялізма, але і пераважнай большасці працоўных.

1939 год, другі год трэцяй сталінскай пяцігодкі, праходзіць пад знакам новага ўздыму соцыялістычнага спаборніцтва і далейшага росту стаханаўскага руху. Выраслі новыя сотні і тысячы выдатных майстроў соцыялістычнай працы.

Вось завод «Большэвік» (Мінск). Поўгадовую праграму завод выканаў 11 чэрвеня. Рабочы калектыў спаборнічае за выкананне гадавога плана к 12 снежня—гадавіне выбараў у Вярхоўны Совет СССР. Стаханавец-строгаль тав. Канапацкі выконвае норму на 300—320 проц., тав. Фельман—на 215 проц., тав. Барыбін—на 200 проц. Уся брыгада тав. Барыбіна дае прадукцыю выдатнай якасці. Укараненне рацыяналізатарскіх прапаноў тт. Пашкоўскага, Плышэўскага, Ярышка, Сімянчыка і раду іншых рабочых дасць заводу звыш 60.000 рублёў эканоміі.

Стаханавец Мінскай аўтарамонтнай станцыі тав. Жывіца выконвае новыя нормы на 200 проц., тав. Славук—на 250 проц., тав. Казееў—на 350 проц., тт. Позняк і Берман—на 200—250 проц., тт. Бельскі і Бельская—на 300—350 проц.

*) „ВКП(б) у рэзалюцыях", ч. II, стар. 364. Партвыдат ЦК ВКП(б). 1936.

На кожным заводзе, на кожнай фабрыцы такіх стаханаўцаў— дзесяткі і сотні.

Пафасам соцыялістычнага спаборніцтва ахоплены шырокія калгасныя масы. Прыкладам можа служыць калгас «Перамога», Талачынскага раёна,—адзін з многіх удзельнікаў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Вось што расказвае старшыня калгаса—ордэнаносец тав. Зайцаў:

«Уступаючы ў соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, мы заключылі соцыялістычны дагавор з калгасам «13 год Кастрычніцкай рэволюцыі», Талачынскага раёна. Калгаснікі нашага калгаса ўзялі на сябе абавязацельства дабіцца атрымання ў 1939 годзе сталінскага ўраджаю—18-ці цэнтнераў зернавых і 250 цэнтнераў бульбы з гектара. Такім чынам, павысіцца аплата працадня калгасніка на 4 кілограмы зернавых і 16 кілограмаў бульбы. Кожны калгаснік атрымае, апрача таго, па тры з палавінай рублі грашыма. Гэта абавязацельства мы здолеем выканаць. Ужо ў 1938 годзе нашы калгаснікі паказалі прыклады ўзорнай работы. Так, калгаснік Міцкевіч Фадзей у мінулым годзе зарабіў 120 цэнтнераў зернавых і 300 цэнтнераў бульбы. Калгаснік Купрыянец Якаў (пры трох працаздольных) атрымаў на свае працадні 300 цэнтнераў зернавых і 600 цэнтнераў бульбы.

Шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі паміж брыгадамі і звеннямі калгаса. У перыяд веснавой пасеўнай кампаніі кожная брыгада на свой участак вывезла па 2 тысячы вазоў гною і па 30 цэнтнераў попелу.

Перадавымі брыгадамі калгаса з'яўляюцца брыгада ордэнаносца Грыгаровіча Сяргея і брыгада Кудзіна Ананія. Не адстае ад іх і брыгада тав. Зязюлевіча.

Шырока разгорнута соцыялістычнае спаборніцтва і паміж асобнымі калгаснікамі. Ініцыятар соцыялістычнага спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі, звеннявая першага звяна другой брыгады, Купрыянец Зіна выклікала на соцспаборніцтва звеннявую першага звяна трэцяй брыгады Яніну Мачульскую. Купрыянец Зіна ўзяла на сябе абавязацельства атрымаць з ураджаю 1939 года 7 цэнтнераў ільнонасення і 20 цэнтнераў ільнотрасты.

Мы ганарымся такімі знатнымі людзьмі калгаса, як Сяргей Грыгаровіч, узнагароджаны за сваю стаханаўскую работу ордэнам «Знак почета». Кудзін Ананій—брыгадзір трэцяй брыгады, Міцкевіч Фадзей, Купрыянец Агафія паказваюць сапраўдныя ўзоры стаханаўскай работы на соцыялістычных калгасных палях.

У нашым калгасе добра пастаўлена працоўная дысцыпліна. Устаноўлен распарадак дня, які строга захоўваецца самімі калгаснікамі. Ужо к пачатку работы ўсе калгаснікі знаходзяцца на сваіх участках. Арганізацыя працы ў нашым калгасе служыць прыкладам многім калгасам нашага раёна.

Зараз шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва на дастойнае правядзенне ўборкі ўраджаю».

Пад знакам соцыялістычнага спаборніцтва ідзе ўборка сталінскага ўраджаю і выкананне іншых сельскагаспадарчых работ.

Вялікіх вытворчых поспехаў дабілася сацыялістычная прамысловасць нашай ордэнаноснай рэспублікі ў выніку велізарнага энтузіязма, які ахапіў усю нашу краіну ў дні работы XVIII з'езда ВКП (б). Рабочыя, служачыя. і інжынерна-тэхнічныя работнікі, натхнёныя ўказаннямі вялікага Сталіна і гістарычнымі рашэннямі XVIII з'езда партыі, высока ўзнялі пабеданосны сцяг сацыялістычнага спаборніцтва імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі.

Сотні цэхаў, участкаў, прадпрыемстваў, цэлыя галіны прамысловасці датэрмінова выканалі свае шасцімесячныя вытворчыя заданні і далі краіне дадатковай прадукцыі на сотні тысяч рублёў.

Прадпрыемствы лёгкай прамысловасці БССР датэрмінова выканалі свой поўгадавы план. За 5 месяцаў і 20 дзён выпушчана прадукцыі на 172 мільёны рублёў. Да канца месяца фабрыкі і заводы Наркамлегпрома БССР здалі дадаткова прадукцыі на 7 мільёнаў рублёў.

Датэрмінова, са значным перавыкананнем, закончыла план мясцовая прамысловасць. Таксама датэрмінова выканан поўгадавы план прадпрыемствамі харчовай і лясной прамысловасці.

Да першага ліпеня ўся наркамацкая прамысловасць Совецкай Беларусі перавыканала поўгадавы план на 5,6 процанта. Выпушчана прадукцыі на 524,1 мільёна рублёў. Кааператаваная прамысловасць БССР выканала поўгадавы план на 107,8 процанта. У выніку перавыканання плана наша рэспубліка атрымала ад наркамацкай прамысловасці дадатковай прадукцыі на 28.412.000 і ад промкааперацыі— на 25.400.000 рублёў.

Добра працавалі ў першым паўгоддзі харчавікі і чыгуначнікі, работнікі лёгкай і мясцовай прамысловасці, промкааперацыі і воднага транспарта.

Рост стаханаўцаў і ўдарнікаў наглядаецца амаль ва ўсіх галінах вытворчасці. На прадпрыемствах мясцовай прамысловасці колькасць стаханаўцаў узрасла з 4.270 да 6.606 чалавек і ўдарнікаў—з 1.942 да 2.906 чалавек. На прадпрыемствах харчовай прамысловасці—6.186 стаханаўцаў і ўдарнікаў, што складае 54,5 процанта агульнай колькасці рабочых. Удзельная вага стаханаўцаў усё больш і больш узрастае.

Але на гэтым агульным фоне поспехаў нашай народнай гаспадаркі яшчэ не мала ўчасткаў адстае.

Прадпрыемствы раённай і абласной прамысловасці, якія павінны забяспечыць узросшы попыт насельніцтва на тавары шырокага спажывання, выканалі план першага паўгоддзя толькі на 91,4 процанта.

Прадпрыемствы трэста Белторф не дадалі краіне на першае ліпеня 83.100 тон торфу. Не выконваюць свае календарныя заданні і торфарцелі промкааперацыі.

На торфзаводах Слабада, Радзічава і іншых слаба разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва, дрэнна скарыстоўваюцца механізмы, прастоі дасягаюць значных размераў. Вопыт перадавых прадпрыемстваў і стаханаўцаў не стаў яшчэ здабыткам усіх работнікаў тарфяной прамысловасці.

Камандзіры вытворчасці, стаханаўцы і інжынерна-тэхнічныя работнікі павінны мабілізаваць усе сілы, каб поўнасцю выканаць сезонны план торфаздабычы. Стварэнне паліўных запасаў для патрэб прамысловасці і насельніцтва мае выключна важнае гаспадарчае і палітычнае значэнне. Мясцовыя партыйныя і совецкія арганізацыі павінны дапамагчы тарфянікам ліквідаваць адставанне.

Прамысловасць будаўнічых матэрыялаў выканала поўгадавы план толькі на 97,7 процанта. Яе запазычанасць перад краінай расце. Меха-

нізмы і абсталяванне простойваюць. Механічны парк у цагельнай прамысловасці выкарыстоўваецца толькі на 49 процантаў.

У даўгу перад краінай засталіся і такія галіны прамысловасці, як баваўняна-папяровая, якая выканала план на 94,3 проценты, горнахімічная—на 95,3, рыбная—на 92,3, мясная—на 92,7, тарная—на 83,3 проценты і некаторыя іншыя.

Дрэнная работа гэтых галін прамысловасці тлумачыцца, галоўным чынам, адсутнасцю штодзённага сістэматычнага гаспадарча-тэхнічнага кіраўніцтва, слабым разгортваннем соцыялістычнага спаборніцтва і яго вышэйшай формы—стаханаўскага руху.

Супакоеныя поспехамі першага квартала, некаторыя кіраўнікі прадпрыемстваў спачылі на лаўрах, а ў выніку—план у другім квартале выконваецца горш. Так, Наркамлеспром план першага квартала выканаў на 108,4, а другога—толькі на 105,6 проценты.

Значны крок уперад зрабіла наша прамысловасць у справе палепшання якасці прадукцыі.

Гістарычны XVIII з'езд партыі паставіў перад краінай гіганцкую задачу—у бліжэйшыя 10—15 год перагнаць у эканамічных адносінах галоўныя капіталістычныя краіны, дабіцца выпуску на душу насельніцтва прадукцыі больш, чым у любой іншай краіне. Для гэтага трэба не толькі ўсямерна расшырыць выпуск тавараў, але і многа папрацаваць над павышэннем якасці прадукцыі, пашырэннем яе асартымента.

Сярод шматтысячнай арміі работнікаў прамысловасці гарачы водгук знайшло пісьмо калектыва работнікаў Ленінградскага станкабудаўнічага завода імені Свердлова, якія заклікалі арганізаваць соцыялістычнае спаборніцтва за чэсць фабрычнай маркі. Калектывы нашых фабрык і заводаў шырокім фронтам разгортваюць барацьбу за высокую якасць прадукцыі, за чэсць совецкай фабрычнай маркі, свайго прадпрыемства.

Аднак, яшчэ не ўсе кіраўнікі нашых прадпрыемстваў умеюць пасапраўднаму спалучаць барацьбу за выкананне вытворчых планаў са штодзённымі клопатамі аб высокай якасці. У пагоні за колькасцю яны забываюць, што нізкая якасць прадукцыі ганьбіць чэсць прадпрыемства, яго фабрычную марку. Трэба раз назаўсёды запомніць, што ў нашай краіне выпуск недобраякаснай прадукцыі з'яўляецца антынародным злом.

Вельмі слаба змагаюцца за якасць многія прадпрыемствы Наркамлегпрома, выпускаючы на рынак бракаваную прадукцыю.

Характэрнай у гэтых адносінах з'яўляецца работа мінскай абутковай фабрыкі імені Кагановіча, якая выпускае першасортнага абутку ў сярэднім толькі 81—82 проц. замест 89 проц. па плану. Але і гэты абутак з'яўляецца далёка не першасортным. Вядомы такі факт, калі Варонежская база перавяла ў ніжэйшыя сарты 743 пары бацінак, паступіўшых ад гэтай фабрыкі пад выглядам першасортных.

Цікава адзначыць, што ўсе выяўленыя базай дэфекты з'яўляюцца вынікам выключна нядбайных адносін паасобных рабочых да працэсаў сваёй працы. У дзесятках пар бацінак дрэнна апрацаваны наскі, крыва прыстрочаны заднія рэмні. Белскуртрэст не наладзіў да гэтага часу сістэматычнага кантролю за якасцю выпускаемага фабрыкай абутку. Міжцэхавы кантроль і сістэма бракеражу пастаўлены выключна дрэнна.

Не спраўляецца з выкананнем плана па сортнасці і шклопрамысло-

васць БССР. Бой і брак яшчэ вельмі вялікі. Нормы выхаду перша-сортнай прадукцыі груба парушаюцца.

Дрэнную прадукцыю выпускае Нова-Барысаўскі шклозавод імені Дзержынскага. У маі шклозавод адгрузіў у Маскву 27 вагонаў перша-сортнай пасуды, з якіх пяць вагонаў гандлюючымі арганізацыямі былі пераведзены ў ніжэйшыя разрады. Многія шклянкі аказаліся з вострымі, вышчарбленымі краямі, з нягладкім дном.

Не лепш якасць вырабаў і некаторых нашых швейных фабрык. Буйнейшая ў рэспубліцы фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі» выпускае сотні касцюмаў са скрыўленымі бартамі, рознай даўжыні рукавамі і т. д. За 4 месяцы гандлюючыя арганізацыі прад'явілі фабрыцы штрафаў на 150 тысяч рублёў.

Па асобных відах прадукцыі мясцовай прамысловасці брак увесь час павялічваецца. Брак чыгунных труб у красавіку раўняўся 16 проц., а за дзве дэкады мая ўзрос да 24 проц. На прадпрыемствах Наркамцяжпрома наглядаецца значнае адхіленне ад устаноўленай сортнасці. Побач з перавыкананнем плана па такіх вырабах, як сталовыя вагі, расчоскі, абоі, па асноўнаму асартыменту план недавыканан. За другі квартал план выпуску матораў недавыканан на 24,2, бочак жалезных—на 13,8, ланцугоў веласіпедных—на 33,7 процанта.

Асабліва дрэнна выконваецца планавы асартымент па сістэме кааперавanай прамысловасці. Не гледзячы на неаднаразовыя папярэджанні СНК БССР, сістэматычна не выконваецца план выпуску прадметаў шырокага спажывання.

Камандзірам вытворчасці нельга забываць, што пераможцамі ў са-цыялістычным спаборніцтве імені Трэцяй Сталінскай Пяцігодкі выйдуць толькі тыя фабрыкі і заводы, якія дадуць шырокім масам спажыўцоў прадукцыю выключна высокай якасці, лепшую ў свеце.

Партыйныя, прафсаюзныя і гаспадарчыя арганізацыі павінны ўзначаліць барацьбу за чэсць маркі свайго прадпрыемства. Іх абавязак—выхоўваць усю масу рабочых на прыкладах перадавых стаханаўцаў, выдатнікў якасці.

За першую палавіну 1939 года прамысловасць БССР дасягнула значных поспехаў у павышэнні прадукцыйнасці працы. Па Наркаммясцпрому план павышэння прадукцыйнасці працы выканан на 106 проц., па Галоўнаму ўпраўленню будматэрыялаў—таксама на 106, па Наркамлегпрому—на 113,5, па Наркамхарчпрому—на 109,2 процанта.

Пастанову СНК СССР, ЦК ВКП (б) і ВЦСПС аб умацаванні працоўнай дысцыпліны ўсе працоўныя сустрэлі з вялікім задавальненнем.

Барацьба за працоўную дысцыпліну шырока разгарнулася на ўсіх прадпрыемствах. Рэзка скараціліся прагулы і спазненні. Але ўперадзе яшчэ не мала работы.

Моцная працоўная дысцыпліна, барацьба з летунамі і дэзарганізатарамі вытворчасці—неабходная ўмова для таго, каб наша прамысловасць дабілася новых поспехаў, датэрмінова і поўнасцю выканала гадавы план.

XVIII з'езд партыі патрабаваў ад работнікаў усёй прамысловасці далейшага ўмацавання гаспадарчага разліку, барацьбы з безгаспадарчасцю, павышэння рэнтабельнасці ўсіх галін народнай гаспадаркі.

Нядаўна работнікі кантрольна-рэвізійнага апарата Наркамфіна СССР праверылі работу многіх прадпрыемстваў і наркаматаў БССР. Праверка паказала, што і ў гэтым годзе ва многіх прадпрыемствах груба парушаецца фінансавая дысцыпліна. Мясцовая прамысловасць закончыла першы квартал бягучага года з нездавальняючымі якаснымі па-

казчыкамі, дапусціўшы па сабекошту перарасход 1.346.000 руб. У другім квартале план зніжэння сабекошту таксама недавыканан.

Штодзённая барацьба за зніжэнне сабекошту, павышэнне прадукцыйнасці працы, рост соцыялістычных накапленняў—свяшчэнны абавязак кожнага гаспадарніка. За ажыццяўленне гэтых задач павінны змагацца кіраўнікі прадпрыемстваў, партыйныя арганізацыі, фабзаўкомы, інжынерна-тэхнічныя работнікі, бухгалтары і планавікі. Гаспадарчы разлік неабходна ўкараніць ва ўсе звенні нашай прамысловасці.

Адказныя задачы стаяць перад прамысловасцю БССР у другім паўгоддзі. Цяпер, калі большасць фабрык і заводаў пачала выконваць і перавыконваць вытворчыя планы, не павінна быць ні аднаго адстаючага прадпрыемства. Паспяхова выканаўшы план першага паўгоддзя, кіраўнікі фабрык, заводаў, інжынерна-тэхнічныя работнікі, стаханаўцы не павінны аслабіць барацьбы за далейшае колькаснае і якаснае выкананне вытворчых планаў. Агульнымі сілам трэба энергічна змагацца за далейшы росквіт прамысловасці БССР.

Рабочыя, работніцы, стаханаўцы прамысловасці БССР горача адгукнуліся на заклік гарнякоў шахты «Цэнтральная-Ірміно»—азнаменаваць чацвертую гадавіну стаханаўскага руху новымі вытворчымі перамогамі.

> «Наш Сталін. наша партыя,—гаворыцца ў звароце,—клічуць народ на новыя грандыёзныя справы. Настаў час для новага ўздыму стаханаўскага руху. Трэба ва ўсю шыр разгарнуць спаборніцтва ў народнай гаспадарцы».

Гэты заклік перадавых гарнякоў нашай краіны горача падхоплен работнікамі ўсіх галін нашай рэспублікі. Мы з'яўляемся сведкамі новага магутнага ўздыму невычэрпнай энергіі, ініцыятывы і творчасці народных мас, новага ўздыму ленінска-сталінскага соцыялістычнага спаборніцтва. Задача кіраўнікоў партыйных, профсаюзных, гаспадарчых арганізацый заключаецца ў тым, каб канкрэтна і штодзённа кіраваць спаборніцтвам, усямерна дапамагчы стаханаўцам у іх рабоце.

> «Трэба, нарэшце, зразумець, што поспех спаборніцтва залежыць ад якасці кіраўніцтва ім. Мала аб'явіць спаборніцтва, распрацаваць абавязацельствы, зацвердзіць дагавор. Самацёкам справа не пойдзе. Толькі там, дзе ўдумчыва, сур'ёзна адносяцца да арганізацыі стаханаўскай работы, дзе клапоцяцца аб масавасці соцыялістычнага спаборніцтва і дапамагаюць адстаючым рабочым узняцца да ўзроўню стаханаўцаў,—толькі там перамога забяспечана» *).

---

*) „Правда“ ад 22/VIII 1939 г.

**Д. Леўчэнка**
Герой Савецкага Саюза, капітан, удзельнік баёў ля возера Хасан.

# Разгром японскіх самураяў ля возера Хасан

Год назад японскія самураі задумалі нарушыць граніцы нашай неабсяжнай соцыялістычнай радзімы. Яны нагла спрабавалі захапіць кусок совецкай зямлі, пасягаючы на светлае, шчаслівае, заможнае жыццё нашага народа. Але яны жорстка пралічыліся. 6 жніўня 1938 г. часці Першай Асобнай Чырвонасцяжнай арміі прадпрынялі генеральную атаку супроць японскіх захватчыкаў. Не вытрымаўшы аб'яднанага ўдару чырвоных артылерыстаў, лётчыкаў, танкістаў і доблеснай нашай пяхоты, японскія правакатары вайны ганебна беглі з совецкай зямлі, усцілаючы шлях трупамі сваіх салдат і афіцэраў.

Згодна ўказу прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР, дзень 6 жніўня адзначаецца, як свята гераічнай Першай Асобнай Чырвонасцяжнай арміі. Гэтую незабываемую дату ўвесь совецкі народ радасна адзначае, як дзень перамогі над японскімі самураямі, калі байцы, камандзіры, палітработнікі, натхнёныя клопатамі ўсяго совецкага народа, асабіста таварыша Сталіна, знішчылі японскіх самураяў у раёне возера Хасан.

Падзеі на возеры Хасан маюць сусветнае значэнне. Яны паказалі несакрушымую сілу нашай доблеснай Чырвонай Арміі, мужнасць і храбрасць яе байцоў, камандзіраў, палітработнікаў. Яны паказалі сілу і магутнасць тэхнікі Чырвонай Арміі, высокую баявую вывучку яе часцей. Яны паказалі пастаянную гатоўнасць усяго совецкага народа адказаць двайным ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны.

Перш, чым перайсці да апісання данага канфлікта, неабходна адзначыць, у якіх умовах ён адбываўся.

Падзеі ля возера Хасан разгарэліся ў перыяд новай імперыялістычнай вайны, якую пачалі ў розных канцах свету фашысцкія правячыя кругі трох агрэсіўных дзяржаў—Германіі, Італіі і Японіі, калі «вайна, якая так непрыкметна падкралася да народаў, уцягнула ў сваю арбіту звыш 500 мільёнаў насельніцтва, пашырыўшы сферу свайго дзеяння на велізарную тэрыторыю ад Цяньцзіна, Шанхая і Кантона праз Абісінію да Гібралтара» *).

Што штурхала японскую ваеншчыну на ваенную правакацыю супроць СССР?

Яна хацела прашчупаць штыком моцнасць граніц нашай соцыя-

*) Сталін, справаздачны даклад на XVIII з'ездзе партыі.

лістычнай радзімы і сілу нашай Чырвонай Арміі. Японскі ўрад штурхалі на правакацыю яго фашысцкія прыяцелі з Берліна. Германскі фашысцкі штаб, які рыхтаваў ажыццяўленне сваіх захватніцкіх планаў у Еўропе, хацеў паказаць так званым дэмакратычным краінам Англіі і Францыі, што ўвага СССР прыкавана да Усхода, і Совецкі Саюз не зможа аказаць уплыў на заходнія краіны. Але планы фашыстаў рухнулі ад першага сакрушальнага ўдару часцей Чырвонай Арміі. Падзеі ля возера Хасан з выключнай сілай ускрылі неразумную пазіцыю японскага ўрада, які пусціўся на ваенную правакацыю.

Рыхтуючы правакацыю на граніцы з Совецкім Саюзам, японская ваеншчына загадзя апрацоўвала грамадскую думку вымысламі аб тым, што быццам-бы граніцу парушаюць совецкія пагранічнікі, што сопка Заазёрная (Чанкуфын) належыць... японцам, што на гэтую вышыню бацькі і прадзеды карэйскага насельніцтва хадзілі... богу маліцца і інш.

Калі японскі пасол Сігеміцу яшчэ 20 ліпеня 1938 года афіцыяльна прад'явіў ультыматум Совецкаму ўраду аб ачышчэнні вышыні Заазёрнай, Совецкі ўрад адхіліў гэты ультыматум і растлумачыў паслу, што права на ўладанне данай сопкай належыць Совецкаму Саюзу. У пацверджанне гэтага японскаму дыпламату была прад'яўлена карта, прыкладзеная да Хунчунскага пагаднення. Наперакор відавочным фактам, наперакор міжнародным дагаворам, японскія самураі працягвалі крычаць, што вышыня Заазёрная належыць ім і што яны займуць гэтую тэрыторыю пры дапамозе ваеннай сілы.

Совецкі ўрад заявіў мовай 170-мільённага народа, што мы не будзем цярпець ніякіх правакацый з боку японa-манчжурскіх ваенных часцей і на ўдар адкажам трайным ударам, што яны маюць справу з магутным Совецкім Саюзам, цвёрдая і нязменная палітыка якога можа быць у любую мінуту падмацавана ўсёй магутнасцю непераможнай Чырвонай Арміі, што совецкі народ, узброены сучаснай тэхнікай, натхнёны вялікай Сталінскай Канстытуцыяй, прадстаўляе сабой грозную сілу, якая ўшчэнт разаб'е любога ворага, які пасмее пасягнуць на вялікі Совецкі Саюз.

Але, выходзіць, што для цвёрдалобых недастаткова было гэтай заявы, што яна не ацвярозіла сумазбродныя галавы японскіх самураяў. 29 ліпеня а чацвертай гадзіне дня на вышыню Безымянную, дзе было ўсяго 9 пагранічнікаў на чале з лейтэнантам Алексеем Махаліным і камандзірам аддзялення Трафімам Шляхавым, напаў атрад самураяў, які налічваў 120 чалавек і складаўся з адборных галаварэзаў, якія ў гэтыя дні здавалі залік на атрыманне афіцэрскіх чыноў. Самураі думалі: што зробяць 11 чалавек? Кінуць вінтоўкі, пабягуць. Такім чынам, а чацвертай гадзіне ім удасца заняць вышыню Безымянную, а шостай гадзіне яны возьмуць вышыню Заазёрную, аназаўтра японскі дыпламат зможа заявіць: раз аддалі вышыню Заазёрную, «куды хадзілі карэйцы богу маліцца», аддайце і возера Хасан, «куды яны хадзілі анучкі мыць»... Але яны жорстка абмануліся. Нават невялікая жменька совецкіх патрыётаў геройчна супраціўлялася праціўніку, які ва многа раз перавышаў іх па колькасці. Гэтыя 11 чалавек—выхаванцы сталінскай эпохі, пітомцы ленінска-сталінскага комсамола—біліся да апошняй каплі крыві, абараняючы соцыялістычную радзіму.

Несучы вялікія страты ад агня нашых геройчных пагранічнікаў, японскія самураі раз'юшана насядалі, звужвалі вогненнае кальцо. Лейтэнант Махалін прыняў рашэнне прарваць варожае кальцо і

выйсці з акружэння. У рукапашнай сутычцы з ворагам палі смерцю герояў пяць нашых слаўных пагранічнікаў, сярод іх і лейтэнант Махалін. Яны аддалі самае дарагое, што ёсць у чалавека,—жыццё, за шчасце нашага савецкага народа, за соцыялістычную радзіму. Астатнія 6 савецкіх патрыётаў, расчышчаючы сабе дарогу штыком і прыкладам, вырваліся з японскага кальца. Многія з іх былі цяжка ранены, але, сагрэтыя бацькаўскімі клопатамі ўсяго нашага савецкага народа, усе яны паправіліся і адчуваюць сябе добра. Многія вучацца, некаторыя зноў вярнуліся на далёкаўсходнюю граніцу. Так, снайпер Міхаіл Куўшынаў быў сярод 11 герояў, сустрэўшых першы націск японскіх самураяў. Хутка паправіўшыся ад ран, ён зноў стаў у строй пагранічнікаў.

Японскім самураям толькі на некалькі мінут удалося захваціць вышыню Безымянную. Падаспеўшая група нашых пагранічнікаў на чале з лейтэнантам Быхаўцовым вышвырнула японцаў з савецкай зямлі, і гэтыя гора-героі, выпускнікі, уцякалі ў панічным страху, пакідаючы на полі бойкі зброю, амуніцыю, забітых і раненых. Калі сяму-таму з самурайскіх ваяк і ўдалося застацца ў жывых, то ім на ўсё жыццё запомніцца дзень, у які яны ледзь уносілі свае касалапыя ногі, ратуючыся бегствам. Няхай аб гэтым дні яны раскажуць сваім жонкам, сынам, унукам і праўнукам.

Пацярпеўшы няўдачу, японцы пачалі рыхтавацца да ваенных дзеянняў у больш шырокіх маштабах. 31 ліпеня яны кінулі ў наступленне на савецкія сопкі адборныя часці 19-ай імператарскай дывізіі, узброеныя артылерыяй, мінамётамі, кулямётамі і т. д. Нашы пагранічныя часці гераічна адстойвалі кожную пядзю савецкай зямлі. Не гледзячы на вялікую колькасную перавагу, увод у дзеянне палявой артылерыі і мноства кулямётаў, японскія самураі за двое сутак—31 ліпеня і 1 жніўня—змаглі прасунуцца з боем толькі на 4 кілометры. А суадносіны сіл выражаліся, прыблізна, так: адзін савецкі пагранічнік супроць 100—120 самураяў. І ўсё-ж нашы героі-пагранічнікі адбівалі атаку за атакай. Былі адбіты тры атакі японскай ваеншчыны. А адбіць тры атакі пры такіх суадносінах сіл—задача вельмі адказная, яе мог выканаць толькі савецкі народ, у якога ёсць любімая радзіма, у якога ёсць партыя Леніна—Сталіна, у якога ёсць клапатлівы бацька—родны вялікі Сталін.

Пачынаючы з 31 і па 6 жніўня ўключна, у раёне возера Хасан ішлі баі, якіх не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва. Наш народ памятае не мала гераічных боек. Усяму свету вядомы гераічная абарона Царыцына, бай за Перакоп, за Кахоўку, Валачаеўскія дні. Там адбываліся гераічныя бітвы. Але з таго часу мінула 20 год, за якія тэхніка ўзрасла неймаверна. У раёне возера Хасан было сабрана столькі тэхнікі, колькі яе не было на фронтах імперыялістычнай вайны, ад Балтыйскага і да Чорнага мора.

Японцы былі ў лепшых умовах па мясцовасці. На іх баку былі чыгункі, шасе, добрыя грунтовыя дарогі, яны займалі больш зручныя камандныя вышыні. Сопка Заазёрная была ўжо ў іх руках. І самае важнае, што меў праціўнік, гэта магчымасць наглядаць за малейшым прасоўваннем нашых часцей, якія знаходзіліся як-бы ў мяшку дыяметрам у 10—12 кілометраў. З дапамогай тэлефона і радыё праціўнік дасканала ведаў аб тым, колькі ідзе нашых байцоў, колькі гармат яны вязуць, колькі вышла танкаў. Каб нанесці ворагу сакрушальны ўдар, трэба было адцягнуць яго ў бок і абыйсці месца яго распалажэння. Умовы-ж мясцовасці ніяк не дазвалялі зрабіць гэта.

І ўсё-ж, не гледзячы на гэта, калі была атрымана тэлеграма за подпісам усіх членаў Палітбюро і таварыша Сталіна, у якой гаварылася, што байцы і камандзіры Першай Асобнай Чырвонасцяжнай арміі павінны праявіць мужнасць і адвагу і к 6 жніўня ачысціць совецкую зямлю ад японскіх самураяў, то нашы байцы і камандзіры парашылі ва што-б там ні стала знішчыць самураяў. Натхнёныя клопатамі ўсяго совецкага народа і таварыша Сталіна, яны ўзялі абавязацельства перад радзімай, перад партыяй і таварышом Сталіным к вечару ачысціць ад захватчыкаў совецкую зямлю. 6 жніўня, к 8 гадзінам вечара, сопкі Безымянная і Заазёрная зноў і назаўсёды сталі совецкімі.

На іх вяршынях запалымнеў чырвоны сцяг. Пад баявымі лозунгамі «Няхай жыве наш вялікі непераможны совецкі народ!», «Няхай жыве тварэц шчасця чалавецтва—мудры Сталін!» авеяны славай сцяг краіны советаў горда ўзняўся над свабоднай совецкай зямлёю, сцвярджаючы магутнасць і непераможнасць Чырвонай Арміі.

Гэты сцяг быў устаноўлен рукамі большэвіка—адказнага сакратара палітбюро адной часці, лейтэнанта тав. Машляка, цяпер Героя Совецкага Саюза, слухача Ваеннай Акадэміі імені Фрунзе.

Японскія самураі памкнуліся было ў атаку яшчэ і 11 жніўня, але ў іх ужо нічога не вышла—яны былі біты. Японскі пасол у Маскве пачаў прасіць перамір'я. К гэтаму часу на тэрыторыі Совецкага Саюза не аставалася ні аднаго японца. Перамір'е было назначана на 12 гадзін. Але японскі ўрад рашае адно, а армія—другое. Не гледзячы на дагаворанасць аб перамір'і, японцы павялі агонь. Мы выконваем рашэнне ўрада, а яны кажуць, што ў іх па далёкаўсходняму час перамір'я яшчэ не наступіў. І калі ў адказ тав. Мехліс загадаў зрабіць па аднаму стрэлу з кожнай гарматы, японцы ўзмаліліся: «Давайце заключаць перамір'е, і па-нашаму, далёкаўсходняму, час ужо наступіў».

У хасанскіх баях узоры мужнасці і геройства праявілі жывыя людзі—байцы, камандзіры, палітработнікі, жоны начсастава, піонеры, школьнікі. Вось некалькі эпізодаў.

31 ліпеня, досвіткам, калі самураі напалі на вышыню Заазёрную, лейтэнант Церошкін, ранены, сцякаючы крывёй, не пакінуў строя. Ён рынуўся на ворага з воклічам: «За нашу совецкую радзіму, за Сталіна, уперад!». Жменька байцоў, натхнёная прыкладам камандзіра, памкнулася ўперад і закідала гранатамі п'яных азвярэлых японцаў. Уцякаючы ў паніцы з Заазёрнай, яны забыліся пра «банзай» і замест гэтага крычалі: «уцякай!»

За храбрасць і мужнасць у баі партыя і ўрад прысвоілі тав. Церошкіну званне Героя Совецкага Саюза.

Наступны эпізод. Адзін наш лётчык, трапіўшы пад зенітны абстрэл праціўніка, рашыў з выключаным маторам штопарам кінуцца на батарэю. Самураі ўзрадаваліся: мала стралялі, а самалёт падае. Афіцэры, відаць, паабяцалі ўжо наводчыкам па лішняй чарцы гарэлкі за «выдатную» стральбу. А ў гэты час совецкі лётчык—горды сокал нашай радзімы—на вышыні 200—220 метраў ад зямлі дае кантакт, скідае некалькі «варашылаўскіх кілаграмаў»,—і ад усёй батарэі самураяў не астаецца і следу.

У баях ля возера Хасан удзельнічала толькі невялікая частка нашых ваенна-паветраных сіл. Але дзеянні гераічных сталінскіх сокалаў з'явіліся грозным папярэджаннем усім, хто вынашвае подлыя

планы нападу на шчаслівы совецкі народ. Баявым агнём нашых самалётаў японскія ўмацаванні былі літаральна ўзняты ў паветра, размецены і знішчаны цэлыя батарэі. Ад бліжэйшых рэзерваў праціўніка засталіся толькі ўспаміны. Некаторыя падмацаванні не паспелі выгрузіцца і былі знішчаны на месцы. У паветранай атацы праявілі сябе не толькі бамбардыроўшчыкі, але і знішчальнікі, якія пікіравалі над японскімі пазіцыямі да 50 метраў і кулямётным агнём знішчалі захватчыкаў.

Аб гераічных дзеяннях нашай авіяцыі ў дзень генеральнай атакі совецкіх войск на сопку Заазёрную брыгадны камісар тав. Іванчанка піша наступнае:

> «Безымянныя сопкі на поўнач ад Заазёрнай да бамбёжкі прадстаўлялі сабой круглыя, пакрытыя зелянінай, умацаваныя, непрыступныя для пяхоты вышыні, з якіх японцы абстрэльвалі нашы сопкі, самі астаючыся ўкрытымі. Японцы трымалі ўсе падступы пад забойчым кулямётным, гранатамётным і мінамётным агнём. Просім дапамогі авіяцыі. Праз гадзіну-паўтары гэтыя сопкі ператвараюцца ў мора варонак; трава, хмызнякі змешваюцца з зямлёю. Там, адкуль гадзіну назад вёўся шалёны агонь, валяюцца разбітыя рэшткі кулямётаў, процітанкавых гармат, мінамётаў, чуюцца пісклівыя стогны раненых японцаў, валяюцца трупы, скаверканыя каскі, разарваныя штаны, гімнасцёркі, шынелі, процівагазы, кацялкі».

Цудоўная меткасць бамбардыроўкі, страшэнная выбуховая сіла нашых бомб пасеялі ў стане самураяў панічны страх.

Гордыя сокалы совецкай краіны паказалі гераізм, адвагу і майстэрства ўладання самалётам. Іх заслугі ў разгроме японскіх самураяў на Хасане высока ацаніў Совецкі ўрад, узнагародзіўшы сотні лётчыкаў, тэхнікаў, штурманаў, паветраных стралкоў ордэнамі і медалямі.

Наступны эпізод. Кулямётчык тав. Гальянаў за час баёў вывеў са строю 10 непрыяцельскіх кулямётных гнёзд, знішчыў 2 японскія гарматныя разлікі. Некалькі сутак падрад просты і скромны баец не адыходзіў ад свайго кулямёта, адбіваючы націск японцаў.

Прыблізна за месяц да бою, праважаючы нас на граніцу, камандзір тав. Базараў сказаў: «Вы ідзеце на адказны ўчастак. Памятайце, што ад вашай пільнасці залежыць шчасце нашых працоўных, іх адпачынак і вяселле. Таму кожны баец, і камандзір у рукапашнай сутычцы супроць 10-15 самураяў павінен быць упэўнен, што выйдзе пераможцам. А вы, тав. Гальянаў, у барацьбе супроць 30—40 самураяў павінны выйсці пераможцам». Гальянаў сказаў: «Ёсць».

Месяц прайшоў. Настаў дзень 31 ліпеня, калі на вышыні Безымяннай на нас напалі японскія самураі. Ва ўзводзе, якім я камандаваў, аставалася ўсяго толькі 12 байцоў. Нас акружылі 2 японскія батальёны. Пытанне рашалася ў вельмі напружанай абстаноўцы: нас акружала не якія-небудзь 10—20 чалавек, а сотні ворагаў. Што рабіць? Тады я скамандаваў: «На ворага! Калі паміраць, то героямі. Наша краіна герояў ніколі не забудзе». Нашы гераічныя байцы з іменем Сталіна на вуснах, з воклічам: за радзіму, за партыю—абрушыліся на японскіх захватчыкаў. Адважны кулямётчык, комсамолец Гальянаў заўсёды быў там, дзе пагражала небяспека, дзе патрэбным быў яго кулямёт. У момант атакі, калі я, стоячы, аддаваў загады, група японцаў, выкарыстаўшы дымавую заслону, падкралася зусім блізка. Японцы ўжо бралі мяне на мушку. Але ў гэты момант падбег да мяне

Гальянаў. Ён, стоячы, даў чаргу з ручнога кулямёта і знішчыў усю групу японцаў. Гальянаў знішчаў японцаў не адзінкамі, а дзесяткамі. К вечару Гальянаў падыходзіць і гаворыць: «Таварыш камандзір, ваша заданне выканана на 160—170 проц.». Пасля ўсіх баёў высьнілася, што адзін толькі тав. Гальянаў больш 150 японцаў улажыў, а сам жывым астаўся. Некалькі раз яго зямлёй засыпала, а ён зноў—устане і пайшоў далей. Будучы кантужаным, ён адмовіўся пайсці ў лазарэт. «Я,—гаварыў ён,—нікуды не пайду, я сын радзімы і буду абараняць яе да апошняй каплі крыві».

За храбрасць і мужнасць Гальянаў узнагароджан совецкім урадам вышэйшай узнагародай—ордэнам Леніна.

Чырвонаармейцы не ведалі страху. Памятаю, як комсамолец Гарэлаў, акружаны п'янымі японцамі, кінуўся на іх з вінтоўкай наперавес і ярасна знішчаў ворагаў у штыкавым баю.

Адзін наш пагранічнік захваціў у палон 10 японцаў і прывёў іх на заставу. А было гэта так. Яшчэ ў пачатку канфлікта на двух нашых байцоў у цемені напалі японскія самураі. Перабягаючы з месца на месца, байцы закідвалі японцаў гранатамі, расстрэльвалі іх з вінтовак. Самураям удалося забіць аднаго з нашых байцоў, а другі працягваў кружыць вакол японцаў і кідаць у іх гранаты. Японцы падумалі, што супроць іх дзейнічае цэлая чырвонаармейская часць. І калі наш баец крыкнуў: «Рукі ўгору»—дзесяць застаўшыхся ў жывых японцаў пакідалі зброю і здаліся. На заставе камандзір запытаў японцаў: «Як-жа вы, дзесяць чалавек, здаліся ў палон аднаму нашаму байцу?»—«Што-ж мы маглі зрабіць, калі ён нас акружыў?»—адказалі японцы пад дружны смех чырвонаармейцаў.

Лгуны з Токіо і Осакі ўсялякім чынам выхвалялі «свае поспехі». Захлёбваючыся ад уласнай хлусні, яны расказвалі аб тым, як «пераможна» самурайскае войска вядзе баі з Чырвонай Арміяй. Але хутка яны ахрыплі, бо бачыў цэлы свет, што «пераможнымі» назваць іх можна толькі ў двукоссях. Газетчыкі з Токіо так апісвалі адну атаку: «Праціўнік моцны, здаровы. У часе рукапашнай сутычкі пад дажджом цяжка было адрозніць праціўніка ад сваіх. Але салдаты адрознівалі праціўніка тым, што раз ён большага росту, то, значыць,—праціўнік». Многія газеты пісалі, што японскія салдаты баяцца чырвонаармейцаў таму, што яны веліканы.

Так, нашы чырвонаармейцы—веліканы. Але справа не ў вялікім росце. Наш чырвонаармеец выхаван па-сталінску. Ён вялік сваімі баявымі якасцямі, сваім высокім маральным духам, любоўю да свайго вялікага 170-мільённага народа. І зусім правільна гаворыць прыказка: «у здаровым целе—здаровы дух». У нашым народзе прыказка гэта выконваецца, і гэтага нікуды не схаваеш.

Совецкіх веліканаў радзіма забяспечыла не толькі здаровым целам і высокім маральным духам, яна ўручыла ім высокую тэхніку. Іменна таму самураі былі на-галаву разбіты на сопцы Заазёрнай.

Японскія самураі прабавалі, «запэўніць» грамадскую думку ў тым, што перамір'е яны заключылі нібыта з-за тайфуна, які перашкодзіў ваяваць. Але тайфун пачаўся толькі 14, а перамір'е было заключана 11 жніўня. Супроць гэтага факта яны нічым не маглі казырнуць і вымушаны былі са скрэжатам зубоўным прызнаць, што Чырвоная Армія моцна пабіла іх на возеры Хасан.

Аб тым, якое ўздзеянне аказала на самураяў совецкая зброя, сведчаць запісныя кніжкі забітых японскіх афіцэраў. Аб гэтых запіс-

ках нарком абароны СССР тав. Варашылаў гаварыў на XVIII з'ездзе ВКП(б):

«1) Маёр Хірабары, камандзір батальёна 75-га пяхотнага палка, запісвае ў сваю запісную кніжку:

«Нямала прышлося пацярпець ад совецкіх танкаў. Яны скарыстоўвалі мясцовасць, падыходзячы на блізкую адлегласць і ведучы агонь. Агонь быў жудасны і вельмі меткі...».

2) Маёр Накана (камандзір 1-га батальёна, 75-га пяхотнага палка) (запісная кніжка):

«Ужо другі дзень, як мы сядзім у акопах, а совецкая армія праяўляе актыўнасць... Трудна высунуць галаву. Раней нам гаварылі, што гэта не сільная армія, але калі мы сутыкнуліся на фронце, то я бачу, што гэта было памылкай. Чырвоныя войскі часта паўтаралі ярасныя атакі.

Учора раніцой у трэцяй роце было 137 чалавек, сёння асталося 50, і яе ўжо звялі ў адзін узвод.

31-га ліпеня раніцой на світанні мы 1-й ротай атакавалі сопку Сяцаофын. 14 салдат праціўніка на працягу 5 гадзін упорна стрымлівалі атаку нашай 1-й роты, наносячы ёй вялікія паражэнні...»

Адзін японскі унцер у сваім дзённіку ад 2 жніўня запісаў:

«У гэты дзень было нешта жудаснае: бесперапынна рваліся бомбы, мы толькі і рабілі, што перабягалі з акопа ў акоп. Паўтара сутак нічога не елі, ды і думаць пра абед некалі было—бой працягваўся; удалося паесці толькі агуркоў і запіць мутнай вадой. Дзень быў сонечны, але сярод дня не было відаць сонца. Настрой быў падаўлены, усе адчувалі сябе дрэнна. Не, так ваяваць немагчыма. Я не думаю, што вярнуся на радзіму»...

Карацей кажучы, японскія самураі ад доблеснай Чырвонай Арміі атрымалі тое, што ім належала. Совецкія граніцы былі поўнасцю адноўлены. Свята захоўваючы баявыя традыцыі Чырвонай Арміі, байцы, камандзіры і палітработнікі грамілі ворага з лозунгамі: «За радзіму!», «За Сталіна!» Адважныя пехацінцы, бясстрашныя танкісты, меткія артылерысты, сталінскія сокалы-лётчыкі накіравалі супроць ворага сваю дасканалую баявую тэхніку і знатна пачаставалі няпрошаных «гасцей» поўнаважнымі «варашылаўскімі залпамі». Над вышынямі Заазёрнай і Безымяннай горда рэе сцяг соцыялістычнай дзяржавы.

Смехатворная японская легенда аб «неперАможнасці імператарскай арміі» была развеяна як дым. «Горды дух» ганарыстых самураяў улятучыўся пад сакрушальнымі ўдарамі нашай пяхоты, артылерыі і авіяцыі. Японцы труслівa і ганебна беглі з поля бою. Масаваму гераізму совецкіх байцоў, камандзіраў, камісараў, палітработнікаў японская ваеншчына магла проціпаставіць толькі бізун ды бутэльку гарэлкі, без якой японскія салдаты баяліся ісці ў бой.

Доблесць, геройства і адвагу ўдзельнікаў хасанаўскіх баёў, іх бязмежную адданасць соцыялістычнай радзіме і партыі Леніна—Сталіна совецкі ўрад ацаніў дастойна. Указам прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР 26 камандзірам, палітработнікам, урачам і чырвонаармейцам прысвоена званне Героя Совецкага Саюза, 95 хасанаўцаў узнагароджаны ордэнам Леніна, 1.982—ордэнам «Красное знамя», 1.935—ордэнам «Красная звезда», 1.326—медаллю «За отвагу».

Гераізм байцоў, камандзіраў, палітработнікаў Чырвонай Арміі—удзельнікаў баёў у раёне возера Хасан—залатымі літарамі ўпісан у гісторыю нашай радзімы. Аб іх народ складае песні і легенды. Мільёны совецкіх маладых людзей, рыхтуючыся ў асовіяхімаўскіх гуртках да ваеннай службы, мараць стаць такімі-ж хасанаўцамі. «Працаваць па-стаханаўску,—біць ворага па-хасанаўску»—стала ўсенародным лозунгам.

Японскія самураі, а разам з імі і ўсе агрэсары, атрымалі на Хасане нагляднае пацверджанне таго, што Совецкі Саюз не любіць жартаваць. Чырвоная Армія на справе пацвердзіла словы таварыша Сталіна: «... сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддадзім нікому».

Але, відаць, хасанаўскі ўрок не абразуміў японскіх генералаў. Аб гэтым сведчыць правакацыя японa-манчжурскай ваеншчыны на граніцах дружаственнай Совецкаму Саюзу Мангольскай Народнай Рэспублікі. Японскія самураі, як відаць, забылі гістарычныя словы тав. Сталіна, сказаныя ім яшчэ 1 сакавіка 1936 г. у гутарцы са старшынёй амерыканскага газетнага аб'яднання «Скрыпс-Говард ньюспейперс» Рой Говардам:

«У выпадку, калі Японія адважыцца напасці на Мангольскую Народную Рэспубліку, робячы замах на яе незалежнасць, нам прыдзецца дапамагчы Мангольскай Народнай Рэспубліцы... Мы дапаможам МНР гэтак сама, як мы дапамаглі ёй у 1921 годзе».

Вядома, што 12 сакавіка 1936 г. паміж СССР і МНР, па просьбе ўрада МНР, быў заключан дагавор аб узаемнай дапамозе.

31 мая бягучага года глава Совецкага ўрада тав. Молатаў з трыбуны III сесіі Вярхоўнага Совета СССР аўтарытэтна заявіў:

«Здаецца, пара ўжо зразумець, каму след, што Совецкі ўрад не будзе цярпець ніякіх правакацый з боку японa-манчжурскіх воінскіх часцей на сваіх граніцах. Зараз трэба аб гэтым напомніць і ў адносінах граніц Мангольскай Народнай Рэспублікі. Па існуючаму паміж СССР і Мангольскай Народнай Рэспублікай дагавору аб узаемадапамозе, мы лічым сваім абавязкам аказваць Мангольскай Народнай Рэспубліцы патрэбную дапамогу ў ахове яе граніц. Мы сур'ёзна адносімся да такіх рэчаў, як дагавор узаемадапамогі, які падпісан Совецкім урадам. Я павінен папярэдзіць, што граніцу Мангольскай Народнай Рэспублікі, у сілу заключанага паміж намі дагавора аб узаемадапамозе, мы будзем абараняць гэтак сама рашуча, як і сваю ўласную граніцу».

У сур'ёзнасці гэтай заявы главы Совецкага ўрада пераканаўся цяпер увесь свет і японская ваеншчына. Верны сваім абавязацельствам, Совецкі Саюз у першую-ж хвіліну пагражаючай для Мангольскай Народнай Рэспублікі небяспекі прышоў ёй на дапамогу. Падзеі апошніх тыдняў на мангольскай граніцы паказалі, наколькі важкімі былі словы таварыша Сталіна і папярэджанне тав. Молатава. У бальшэвікоў словы ніколі не разыходзяцца са справай.

Совецкі народ умее і любіць ваяваць. Ён упэўнен у сваіх сілах і не дапусціць ні малейшага парушэння свяшчэнных граніц сваёй радзімы.

Калі наступіць час вайны, совецкія патрыёты пакажуць усяму свету, якія цуды яны могуць тварыць у імя радзімы, у імя Сталіна, у імя комунізма.

———

Б. Шпітальнік

# Аб мове раённых газет

*(Некаторыя заўвагі)*

Многамільённыя масы працоўных краіны соцыялізма з кожным нашым крокам уперад прад'яўляюць усё большыя і большыя запатрабаванні да газет, журналаў, кніг. Старыя і маладыя вучацца, авалодваюць ведамі, імкнуцца пашырыць свой кругазор.

Найярчэйшым прыкладам росквіту культуры можа служыць наша рэспубліка—БССР, якая з цёмнай, забітай і непісьменнай да рэволюцыі стала за годы соцыялістычнага будаўніцтва рэспублікай суцэльнай пісьменнасці. У 7 084 школах навучаецца 1 184 тысячы дзяцей, у 22 вышэйшых навучальных установах і 97 тэхнікумах—48.840 студэнтаў. Дзесяткі і сотні тысяч працоўных навучаюцца ў школах для дарослых, на розных курсах, завочна і т. д. Нябачана вырасла сетка клубаў, дамоў соцыялістычнай культуры, хат-чытальняў, кіно і тэатраў. З года ў год павялічваецца колькасць назваў газет, кніг, журналаў, расце іх тыраж.

Попыт на кнігу, газету з кожным днём узрастае, а разам з тым растуць і патрабаванні да якасці работы рэдакцый і выдавецтваў.

Мова раённых газет, як і ўсёй совецкай літаратуры, адлюстроўвае велізарныя соцыяльныя зрухі, што адбыліся ў нашай краіне. Многія словы зусім зніклі з ужытку; маладое пакаленне можа сустрэць іх хіба толькі ў кніжках. Паявіліся зусім новыя словы з розных галін навукі, тэхнікі, мастацтва, вытворчасці. Хто ў нашай краіне не ведае такіх слоў, як камбайн, трактарыст, стаханавец, ударнік, соцыялістычнае спаборніцтва, агрыкультура, доктар навук, знатныя людзі, агрэгат, піонерважаты, прапагандыст, агітатар, тэарэтычная канферэнцыя, кансультацыя, семінар, партыйны кабінет і т. д. і т. д. Гэтыя новыя словы сталі агульна-зразумелымі і патрэбнымі.

Значная праца праароблена навуковымі работнікамі, вялікай арміяй выкладчыкаў літаратуры і мовы, пісьменнікамі, работнікамі газет па ўзбагачэнню літаратурнай мовы і ачышчэнню яе ад таго смецця, якое імкнуліся ўнесці ў мову ворагі народа.

Ужо нярэдка ва многіх нашых раённых газетах можна сустрэць верш, літаратурную старонку, нарыс; паступова знікаюць з мовы газет бюракратычныя, канцылярскія звароты, непатрэбныя паўтарэнні і т. д. Так яно і павінна быць, бо «друк,—як гаварыў таварыш Сталін,—адзіная зброя, пры дапамозе якой партыя штодзённа, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй патрэбнай ёй мове».

Каб быць баявым органам партыйнай арганізацыі, папулярным прапагандыстам, агітатарам і арганізатарам, газета павінна з дня ў дзень змагацца за ўдасканаленне, за паляпшэнне мовы, за тое каб-

кожны артыкул, кожны радок, кожнае слова даходзіла да мас, было для іх зразумелым і пераканаўчым.

В. І. Ленін гаварыў:

> «... Не падлягае ні малейшаму сумненню, што комуністычная **партыя,** якая хоча быць на справе авангардам, перадавым атрадам рэволюцыйнага **класа,** пролетарыята, і якая, звыш таго, хоча навучыцца кіраваць шырокай **масай** не толькі пролетарскай, але і **не**пролетарскай, масай працоўных і эксплуатуемых, абавязана ўмець і прапагандаваць і арганізаваць і агітаваць найбольш даступна, найбольш зразумела, найбольш ясна і жыва як для гарадской, фабрычнай «вуліцы», так і для вёскі» *).

Зразумела, што гэтыя задачы, пастаўленыя В. І. Леніным перад комуністычнай партыяй, маюць непасрэднае дачыненне да нашых газет. Адсюль вынікае, што работнікі газет павінны сістэматычна працаваць над тым, каб кожная газета ўмела прапагандаваць, арганізоўваць і агітаваць найбольш даступна, зразумела, ясна і жыва. Змагацца за якасць мовы газеты—значыць змагацца за тое, каб своечасова мабілізаваць мільённыя масы працоўных на быстрае і няўхільнае выкананне задач комуністычнай партыі і совецкага ўрада, весці пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна масы працоўных уперад, да новых і новых перамог комунізма.

Газетныя работнікі павінны вучыцца на артыкулах, творах і выступленнях правадыроў нашай партыі яснасці і даступнасці, вобразнасці і прастаце, сцісласці і яркасці выкладання самых складаных пытанняў. Таварыш Сталін гаварыў: «Толькі Ленін умеў пісаць аб самых заблытаных рэчах так проста і ясна, сцісла і смела, калі кожная фраза не гаворыць, а страляе». У гэтай яркай характарыстыцы сфармулявана сутнасць большэвіцкага літаратурнага стылю, задачы работы нашых газет.

Кожны большэвік-журналіст павінен сістэматычна авалодваць майстэрствам сваей справы, навучыцца пісаць «ясна, сцісла і смела».

У тым-жа артыкуле аб Леніне таварыш Сталін пісаў:

> «Незвычайная сіла пераконання, прастата і яснасць аргументацыі, кароткія і ўсім зразумелыя фразы, адсутнасць рысоўкі, адсутнасць галавакружыцельных жэстаў і эфектных фраз, якія б'юць на ўражанне,—ўсё гэта выгадна адрознівала прамовы Леніна ад прамоў звычайных «парламенцкіх» аратараў» **).

З поўным правам гэту характарыстыку можна аднесці да мовы таварыша Сталіна. У мове таварыша Сталіна мы знаходзім тыя-ж якасці, што ў мове В. І. Леніна. На творах і прамовах таварыша Сталіна нам трэба вучыцца майстэрству пісаць сцісла і ясна, вобразна і проста, пераканаўча і зразумела.

* * *

Работнікі рэдакцый многа зрабілі для паляпшэння якасці мовы раённых газет. Аднак, не мала яшчэ дапускаецца памылак і неахайнасцей, якія робяць газетную мову мала зразумелай, недаступнай для шырокіх мас працоўных.

---

*) Ленін, том XXV, стар. 242.
**) І. Сталін „Аб Леніне", стар. 20. Партвыдат, 1934 г.

Часта рэдактары раённых газет скардзяцца, што з-за малой «плошчы» яны пазбаўлены магчымасці змяшчаць у сваёй газеце вельмі патрэбныя і важныя для чытача матэрыялы. Зразумела, што раённая газета—не рэспубліканская, што магчымасці яе абмежаваны фарматам. Але калі-б кожны супрацоўнік газеты, кожны рэдактар сур'ёзна папрацавалі над матэрыялам, выкінулі з яго ўсё лішняе, непатрэбнае, яны зэканомілі-б многа месца для каштоўнага матэрыялу.

Прывядзем некалькі канкрэтных прыкладаў. Бягомльская райгазета «Савецкі патрыёт» (№ 44 ад 27 мая 1939 г.) у карэспандэнцыі пад загалоўкам «Работу па дзярждаходах паставіць на належную вышыню» піша:

> «Райсаюз не змог забяспечыць правільнага кіраўніцтва ў галіне (чаму **ў галіне?**—*Б. Ш.*) складання балансаў як у самім райсаюзе, так і ў паасобных сельпо, а таму як райсаюз, так і многія сельпо раёна да гэтага часу не склалі баланса за першы квартал 1939 года, тэрмін прадстаўлення якіх ужо даўно скончан».

У даным сказе 45 слоў. Тры разы паўтараецца ў ім слова «райсаюз», два разы аўтар не зусім правільна ўжывае супастаўленне «як—так». Наогул сказ напісан па-канцылярску. Гэту мысль можна выразіць ясней і карацей. Можна напісаць: «Райсаюз не кіраваў складаннем балансаў, а таму за першы квартал 1939 года яшчэ не склалі балансаў некаторыя сельпо і нават сам райсаюз». Так можна пазбавіцца лішніх слоў і паўтораў, якія штучна павялічваюць размер карэспандэнцыі.

Прывядзем яшчэ адзін характэрны прыклад з гэтай-жа газеты. У карэспандэнцыі пад загалоўкам «Палепшыць работу гандлюючай сеткі» ёсць такія два абзацы:

> «Нараду з добрымі паказчыкамі работы паасобных сельпо ёсць і такія, дзе не па-сур'ёзнаму адносяцца да важнейшай справы—усямернага і правільнага разгортвання гандлю на сяле. Аб гэтым красамоўна сведчыць той факт, што ў многіх ларках, крамах Домжарыцкага і Бярэзінскага сельпо адсутнічаюць неабходныя тавары шырокага спажывання.
>
> Старшыня Домжарыцкага сельпо тав. Кульба сваёй непаваротлівасцю і неахайнасцю давёў да таго, што многія крамы і ларкі ў час правядзення веснавой сяўбы не мелі самых неабходных тавараў, як печанага хлеба, цукру, мыла і інш.».

Гэтыя два абзацы занялі ў газеце 25 радкоў, а ўсё, што ў іх сказана, можна было-б выразіць максімум на 10—12 радках.

Разбяром іх больш падрабязна. Як у першым, так і другім абзацах прыводзіцца адна думка—аб дрэннай рабоце Домжарыцкага і Бярэзінскага сельпо. У першым абзацы сказана аб гэтым наогул. У другім таксама няма ніякай канкрэтнасці, за выключэннем таго, што прыведзена прозвішча старшыні Домжарыцкага сельпо і названы недастаючыя тавары. Ці трэба займаць столькі месца ў газеце, калі можна было-б сказаць аб гэтым, прыкладна так:

> «Аднак не ўсе сельпо аднесліся сур'ёзна да арганізацыі гандлю на вёсцы. Той факт, што ў крамах Домжарыцкага і Бярэзінскага сельпо ў час веснавой сяўбы адсутнічалі многія

тавары шырокага спажывання (хлеб, цукар, мыла і інш.), красамоўна гаворыць аб безадказнасці і непаваротлівасці кіраўнікоў тэтых сельпо».

Многаслоўе, штучнае раздуванне матэрыяла—недахоп, на жаль, многіх раённых газет. Нумары Барысаўскай газеты за другую палову чэрвеня напоўнены заметкамі аб выкананні многімі прадпрыемствамі поўгадавога плана. Амаль усе заметкі напісаны па аднаму трафарэту: лічбы, процанты, прозвішчы. Хіба не лепш было-б змяшчаць «Спіс перадавых прадпрыемстваў», як гэта рабіла «Правда».

Толькі ўважлівая літаратурная апрацоўка матэрыяла можа пазбавіць старонкі газет ад непатрэбных паўтораў, лішніх слоў, няправільных, а часам памылковых сказаў.

У нумары ад 24 мая газета «Пагранічная праўда» (Старобінскі раён) змясціла невялікую карэспандэнцыю пад загалоўкам: «Бальшэвіцкую ўвагу сцягванню хутароў», у якой слова «сцягванне» паўтараецца ў розных варыяцыях (сцягванне, сцягванню, сцягнуты, сцягнуць і нават перацягванне) 14 раз і слова «хутароў»—15 раз.

У рэдакцыі Старобінскай газеты літаратурная праўка матэрыяла наогул не ў пашане. На яе старонках паяўляюцца такія «перлы»: «Хаця МТС калгасам у правядзенні сяўбы аказалі вялікую дапамогу, але выступаючы зусім правільна, крытычна аднесліся да недахопаў» *), або такі сказ: «Уборку трэба правесці ў тэрмін і пры добрай пагодзе» *). Выходзіць, што работнікі Старобінскай райгазеты могуць загадзя заказаць добрае надвор'е.

Слуцкая райгазета надрукавала адну за другой, праз 6 дзён, дзве справаздачы аб нарадах дырэктароў сярэдніх і няпоўных сярэдніх школ. Рэдакцыя чамусьці палічыла патрэбным друкаваць справаздачы двух нарад, на якіх абмяркоўвалася адно і тое-ж пытанне: вынікі вучэбна-выхаваўчай работы за 1938—39 і задачы 1939—40 вучэбнага года, адвёўшы для гэтага 250 радкоў. Рэдакцыйныя работнікі не пазбеглі пры гэтым і звычайнага шаблону. Прывядзем некалькі вытрымак:

У № ад 18 чэрвеня: «Аднак у раёне ёсць яшчэ школы, дзе настаўнікі не спраўляюцца са сваімі задачамі».

У № ад 24 чэрвеня: «Нараду з перадавымі, у раёне ёсць і такія школы, якія не справіліся з сваімі задачамі...»

У № ад 18 чэрвеня: «Выступаючыя на нарадзе таварышы крытыкавалі работу райАНА».

У № ад 24 чэрвеня: «Выступаючыя на нарадзе крытыкавалі работнікаў райАНА за дрэннае кіраўніцтва школамі».

Зусім зразумела, калі-б работнікі газеты сур'ёзна адносіліся да рэдагавання, яны-б з двух справаздач зрабілі адну, зэканомілі-б месца і пазбеглі шаблону.

У газеце «Савецкі патрыёт» (Бягомльскі раён) амаль у кожным нумары можна сустрэць такі аблюбаваны рэдакцыяй сказ: «Большасць пярвічных камсамольскіх арганізацый правільна зразумелі вялікія і складаныя задачы» (№ 43), «Многія кіраўнікі сельпо і работнікі спажыўкааперацыі зразумелі пастаўленыя перад імі задачы» (той-жа нумар).

Райгазеты часта недарэчы ўжываюць слова «справа». Газета «Ста-

*) Вытрымкі прыведзены з карэспандэнцыі: „Аб выніках веснавой сяўбы і падрыхтоўцы да ўборачнай", „Пагранічная праўда", № 50.

ханавец» (Цэрахаўскі раён) піша: «Яшчэ горш абстаіць справа з выкананнем паставак воўны», замест: «Яшчэ горш выконваецца план пастаўкі воўны», або: «У профарганізацыі... да гэтага часу нічога не зроблена ў справе падрыхтоўкі да выбараў», замест «Профарганізацыя... яшчэ нічога не зрабіла для падрыхтоўкі да выбараў». У газеце залішне часта паўтараюцца словы «трэба прызнаць», «трэба адзначыць».

За апошнія годы газеты ачысціліся ад усякага роду скарачэнняў, якія затрудняли чытанне, таму і робіцца прыкра, калі іншы раз сустракаеш у газеце: «У адказе на пытанне: «прамысловасць чарназёмнага цэнтра»—не былі названы такія гіганты прамысловасці як варонежскі завод СК...» (Слуцкая газета «За соцыялістычную радзіму» ад 12 чэрвеня, карэспандэнцыя «Іспыты па геаграфіі»).

Сумняваемся, ці ведаюць самі работнікі газеты, што азначае «СК» (сінтэтычны каучук). Чаму-ж яны, не шкадуючы месца для пустаслоўя, шкадуюць яго там, дзе трэба напісаць толкова. Нярэдка сустракаецца «ДСК» (Дом соцыялістычнай культуры) і іншыя скарочаныя словы.

> «Таварыш Сталін часта папракае літаратараў і нашы газеты ў тым, што яны, не лічачыся з узроўнем шырокіх мас, дапускаюць усялякага роду скарочаныя словы. Вось пішуць напрыклад аб Міжнародным Юнацкім Дні, і абавязкова ўбачыце: МЮД...
>
> ...Або вазьміце нашы газеты, там часта сустракаецца слова ІТР. У нас ведаюць, што так скарочана называюць інжынерна-тэхнічных работнікаў. А вось вясковы комуніст чытае ІТР і не ведае, што гэта такое за ІТР. У газетах такое скарачэнне: 4 кв. Што такое 4 кв? Вясковаму комуністу, ды і не толькі яму, цяжка здагадацца, што за гэтым скарачэннем хаваюцца словы: 4-ы квартал. Я гавару гэта не для таго, каб пасмяяцца над чалавекам, які не ведае простых рэчаў. Не, хутчэй смяяцца трэба над тымі, якія так пішуць для рабочых і сялян» *).

Пара рэдакцыйным работнікам сур'ёзна падумаць аб чытачах сваіх газет і аб сваім аўтарытэце.

* * *

У гэтым артыкуле мы спыніліся толькі на некаторых пытаннях палепшання мовы раённых газет, не ставячы перад сабой мэты вычарпаць задачу цалкам. Але і прыведзеныя факты сведчаць аб тым, што над вырашэннем гэтай задачы неабходна працаваць сістэматычна, з дня ў дзень.

Кожны работнік рэдакцыі павінен дабівацца, каб мова газеты, у якой ён працуе, была яснай і зразумелай для кожнага чытача.

«Праўда» у адным са сваіх аглядаў друку пісала:

> «Газету рабочага класа і мільёнаў калгаснікаў павінны рабіць масы. У гэтым—адрозненне совецкага друку ад капіталістычнага. Буржуазная газета—гэта фабрыка, якая вырабляе друкаванае слова і якая прадае на рынку свой тавар. Чытач—гэта спажывец, які сустракаецца з таварам толькі на рынку. Якая-ж капіталі-

*) „Стэнаграфічная справаздача XVII з'езду ВКП(б)", стар. 553—554, Партвыдат, Масква, 1934.

стычная фабрыка пусціць спажыўца на сваю фабрыку і адкрые перад ім таямніцы сваёй вытворчасці!

Наша друкаванае слова—не тавар. Совецкая газета, якая адгарадзілася-б ад чытача, замкнулася ў сваім асяроддзі работнікаў-прафесіяналаў, разгубіць вельмі хутка ўсе сувязі з рабочай масай і немінуча ператворыцца ў бюракратычную ўстанову з немінучай канцылярскай мовай—сухой, нежыццёвай, уродлівай, засмечанай. А гэта значыла-б, што газета здае класавыя пазіцыі, заваяваныя пролетарыятам. Яна не ўмее гаварыць з масамі той моваю, якую патрабаваў Ленін ад усякага пролетарскага агітатара і прапагандыста,—яснай, зразумелай рабочым і сялянам» *).

Кожны работнік павінен разумець, што чытач мяркуе аб газеце, аб ступені выканання пастаўленых перад ёю задач не толькі па колькасці надрукаванага матэрыяла, а галоўным чынам па якасці той мовы, на якой газета гаворыць з масамі. І калі мы хочам, каб наша газета даходзіла да масы чытачоў, каб яна аперацыўна змагалася за ажыццяўленне задач большэвіцкай партыі, мы павінны крапатліва працаваць над палепшаннем мовы друку.

---

*) „Навучымся культурна рабіць газету", стар. 284. Партвыдат ЦК ВКП(б).

# Аграрная праграма большэвізма ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі

Аграрная праграма большэвізма, як састаўная частка ўсёй большэвіцкай праграмы барацьбы за соцыялізм, выпрацоўвалася Леніным на падставе марксісцкага аналіза ўсёй эканомікі дарэволюцыйнай Расіі, эвалюцыі сельскай гаспадаркі, барацьбы класавых сіл і класавых процілегласцей.

У радзе сваіх работ, асабліва ў «Развіцці капіталізма ў Расіі», Ленін дае бліскучае абгрунтаванне эканамічных прадпасылак аграрнай праграмы большэвізма.

У барацьбе з народнікамі, якія сцвярджалі, што капіталізм у Расіі з'яўляецца «выпадковай» з'явай, якая не мае ўмоў для свайго развіцця, Ленін даказваў, што капіталізм у Расіі развіваецца як у галіне прамысловасці і гандлю, так і ў галіне сельскай гаспадаркі, усё больш расчышчаючы рамкі класавай барацьбы не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы.

Для ілюстрацыі развіцця капіталізма ў прамысловасці Расіі даволі прывесці наступныя даныя. Колькасць рабочых буйных фабрык, заводаў і чыгунак павялічылася з 706 тысяч у 1865 годзе да 1.433 тысяч у 1890 годзе, а к канцу 90-х гадоў колькасць рабочых на буйных фабрыках і заводах, у горнай прамысловасці і на чыгунках узрасла да 2.792 тысяч.

К канцу XIX века ў галіне прамысловасці Расія станавілася на шлях манапалістычнай стадыі капіталізма—імперыялізма.

Па канцэнтрацыі прамысловасці Расія ў пачатку рэволюцыі 1905—1907 гг. не ўступала нават больш перадавым капіталістычным краінам, хоць па абсалютнаму аб'ёму прамысловай прадукцыі заставалася адной з адсталых краін. Не гледзячы на рэшткі прыгонніцтва, якія затрымлівалі развіццё капіталізма, развівалася капіталістычная і сельская гаспадарка.

> «Развіццё капіталізма ішло не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Сялянства, самы шматлікі клас дарэволюцыйнай Расіі, распадалася, расслойвалася. У вёсцы з найбольш заможных сялян выдзялялася кулацкая вярхушка, вясковая буржуазія, а, з другога боку, многія сяляне разараліся, павялічвалася колькасць сялянскай беднаты, вясковых пролетарыяў і поўпролетарыяў. Колькасць-жа сярэдніх сялян з кожным годам змяншалася *).

*) Кароткі курс гісторыі ВКП(б), стар. 7—8.

На аснове аналіза земскіх статыстычных даных тагочаснай Расіі Ленін паказаў рознастайнасць форм укаранення капіталізма ў сельскую гаспадарку. З аднаго боку, выдзяляецца вясковая вярхушка (15—20 проц. двароў), якая валодае паловай пасеваў, 60—70 проц. купчай і да 50—80 проц. арандаванай зямлі, 92,8 проц. жняярак і касілак, 56,3 проц. коней, 50 проц. усіх прамысловых і гандлёвых устаноў, якія наймаюць да 70 проц. батракоў. З другога боку, каля паловы сялянскіх двароў уладаюць усяго толькі 12 проц. пасеваў, якія не маюць нават простых прылад для апрацоўкі зямлі і прымушаны здаваць яе ў арэнду, прадаваць сваю рабочую сілу. Продаж рабочай сілы з'яўляецца для іх галоўнай крыніцай існавання. Гэта—тыя-ж самыя наёмныя рабочыя, але толькі з надзелам. Ленін называў іх вясковымі пролетарыямі або поўпролетарыямі.

Прамежнае, сярэдняе сялянства, якое хісталася паміж крайнімі групамі, пастаянна дыферэнцыруючыся, вылучала нязначную меншасць заможных гаспадарак, а большасць пролетарызавалася. Такім чынам, у рускай вёсцы, якая пачала капіталізавацца, было ў наяўнасці абвастрэнне класавых супярэчнасцей.

На капіталістычны лад перабудоўваецца і памешчыцкая гаспадарка. На змену паншчыннай сістэме ідзе сістэма капіталістычная, аснаваная на наёмнай працы і больш высокай сельскагаспадарчай тэхніцы. І тут ў наяўнасці рост і абвастрэнне класавых процілегласцей капіталістычнай гаспадаркі.

Уся сельская гаспадарка тагочаснай Расіі развівалася ў капіталістычным напрамку. Аднак развіццё яе моцна затрымлівалася рэшткамі прыгонніцтва, у аснове якога ляжала памешчыцкае землеўладанне. 30 тысяч сямей памешчыкаў уладала 70 мільёнамі дзесяцін зямлі, і ў той-жа час 10,5 мільёна сялянскіх двароў мелі толькі 75 мільёнаў дзесяцін. Калі на адзін сялянскі двор прыпадала ў сярэднім 7 дзесяцін зямлі, то на адно памешчыцкае ўладанне—2.333 дзесяціны. 5 мільёнаў маламоцных сялянскіх гаспадарак мела на двор не больш 1—2 дзесяцін зямлі.

Прыгонніцкія латыфундыі і панаванне рознастайных форм кабалы ў вёсцы выклікалі і адпаведную палітычную пабудову—сваявольства чорнасоценнага памешчыка, бяспраўе насельніцтва і т. д. Але гэтым далёка не вычэрпвалася наяўнасць прыгонніцкіх перажыткаў у рускай вёсцы.

Руская абшчына з яе земленадзяленнем, якую народнікі ідэалізавалі, прымаючы за амаль гатовую «соцыялістычную» форму, таіла ў сабе таксама шмат прыгонніцкіх перажыткаў. Увесь яе ўнутраны ўклад у перыяд прыгонніцтва быў прыстасаван да паншчыннай гаспадаркі. Яна з'яўлялася прыдаткам паншчыннай гаспадаркі, часткай усёй прыгонніцкай сістэмы, адным з яе полюсаў.

Надзяленне сялян зямлёй у абшчыне падпарадкавалася прынцыпу забеспячэння прыгонніка рабочай сілай, якая-б дарэмна апрацоўвала зямлю прыгонніка сваім інвентаром і жывёлай, ствараючы для яго дадатковы прадукт.

І пасля рэформы 1861 г. памешчыкі прадаўжалі прыгнятаць сялян. Пры «вызваленні» ад прыгону яны адабралі ў іх значную частку зямлі, якою сяляне карысталіся раней. Толькі па 14 губерніях чорназемнай паласы ў выніку гэтай рэформы ў сялян было адрэзана 2.799 тыс. дзесяцін зямлі. У 5 стэпавых губернях у сялян адрэзалі

каля 1/3 зямлі ў карысць памешчыкаў. У некаторых губерніях было адрэзана ў сялян да 2/5 усёй зямлі.

Гэтыя «адрэзкі» служылі ў руках памешчыкаў сродкам закабалення сялян, эканамічнай умовай адпрацовачнай сістэмы. Як правіла, у сялян адразаліся лепшыя землі, без якіх немагчыма было весці гаспадарку (выган, выпасы, дарогі і інш.). Пры гэтым стараліся, каб сялянская зямля ўкліньвалася ў памешчыцкую вузкімі палоскамі, або памешчыцкія землі падыходзілі-б да сялянскіх сядзіб. Такім чынам, селяніну не было куды выпусціць і куранё. Уся сістэма такога надзелу зямлёй вымушала сялян хадзіць да памешчыка на пастаянныя адработкі.

> «Сялянскі «надзел» з'яўляўся пры такой гаспадарчай сістэме спосабам забеспячэння памешчыка рабочымі рукамі і не толькі рабочымі, але і інвентаром, які, як-бы мізэрны ён ні быў, служыў для апрацоўкі памешчыцкай зямлі. *).

У абшчынным уладанні існаваў цэлы рад перагародак. Сялянскія землі адметны былі празмернай цераспалосіцай. На адзін душавы надзел часам прыпадала да 170 палос. У сяленні Популава, Владзімірскай губерніі, былі 4 зямельныя абшчыны, зямля якіх была раскідана цераспалосна, а ўнутры кожнай абшчыны існавала свая цераспалосіца. Пры гэтым ворная зямля была разрэзана на палоскі даўжынёй па 4 вярсты, а шырынёй усяго ад 4 да 20 аршын. Пры такіх умовах дробная сялянская гаспадарка не мела магчымасці карыстацца самымі простымі агратэхнічнымі прыёмамі апрацоўкі зямлі. У аснове-ж усіх прыгонніцкіх перажыткаў ляжала памешчыцкае землеўладанне, прыгонніцкія латыфундыі. На гэтым грунтавалася адпрацовачная сістэма і іншыя формы кабальнай эксплаатацыі сялянства. Сяляне прымушаны былі несці памешчыцкую кабалу за адрэзкі, за выпас і т. д.

> «На гэтым асноўным фоне немінуча здзіўляючая адсталасць тэхнікі, закінутае становішча земляробства, прыдаўленасць і забітасць сялянскай масы, бясконца featured розныя формы прыгонніцкай, паншчыннай эксплуатацыі **).

Толькі аграрная рэвалюцыя магла вызваліць сялян ад усіх прыгонніцкіх перажыткаў і перагародак. Знішчэнне прыгонніцкага землеўладання, прыгоннішкіх латыфундый і пераход зямель да сялян, як указваў Ленін, з'яўлялася аб'ектыўна немінучай тэндэнцыяй барацьбы. Гэтая барацьба была «асялкам» буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў Расіі.

> «Гваздом барацьбы з'яўляюцца прыгонніцкія латыфундыі, як самае адметнае ўвасабленне і самая моцная апора рэштак прыгонніцтва ў Расіі» ***).

Знішчэнне латыфундый знішчыла-б аснову існавання прыгоннікаў, а разам з ёю і ўсе іншыя перажыткі прыгонніцтва ў рускай вёсцы. Ачысцілася-б дарога для развіцця капіталізма, для росту прадукцыйных сіл, для свабоднай класавай барацьбы.

З глыбокага аналізу эканомікі дарэвалюцыйнай Расіі, з аналізу класавых сіл і процілегласцей паміж імі Ленін робіць наступны вывад:

*) Ленін, т.. XVI, стар. 503.
**) Ленін, т. XI, стар. 337.
***) Ленін, т. XII, стар. 169.

«...У сучаснай рускай вёсцы сумяшчаюцца дваякага роду класавыя процілегласці: па-першае, паміж сельскімі рабочымі і сельскімі прадпрыемцамі, па-другое, паміж усім сялянствам і ўсім памешчыцкім класам. Першая процілегласць развіваецца і расце, другая—паступова аслабявае. Першая—уся яшчэ ў будучым, другая ў значнай ступені ўжо ў мінулым. І, не гледзячы на гэта, для сучасных рускіх соцыял-дэмакратаў іменна другая процілегласць мае найбольш істотнае і найбольш практычна важнае значэнне» *).

* * *

Большэвіцкая аграрная праграма на этапе буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ёсць праграма пролетарыята—гегемона ў рэволюцыі, разлічаная на сялянства як саюзніка ў гэтай рэволюцыі. Яе сутнасцю, асновай з'яўляецца прызнанне і расчыстка дарогі для развіцця класавай барацьбы ў вёсцы з мэтай заваявання дыктатуры пролетарыята.

Гэтая сутнасць найлепшым чынам выражана ў наступных словах Леніна:

«Цэнтральным фактам і ў галіне аграрных парадкаў Расіі мы прызнаем класавую барацьбу. Мы будуем усю сваю аграрную палітыку (а, значыць, і аграрную праграму) на няўхільным прызнанні гэтага факта... Наша галоўная бліжэйшая мэта—расчысціць дарогу для свабоднага развіцця класавай барацьбы ў вёсцы, класавай барацьбы пролетарыята, накіраванай к ажыццяўленню канчатковай мэты сусветнай соцыял-дэмакратыі, к заваяванню палітычнай улады пролетарыятам і к стварэнню асноў соцыялістычнага грамадства **).

Гэтае ўказанне Леніна праходзіць чырвонай ніццю праз усе аграрныя патрабаванні большэвіцкай партыі на працягу ўсяго перыяда буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Першая большэвіцкая аграрная праграма, вядомая як праграма адрэзкаў, прынята на ІІ з'ездзе партыі.

У праграме выстаўлены патрабаванні адмены выкупных і аброчных плацяжоў і іншых павіннасцей, адмены кругавой парукі і іншых законаў, якія перашкаджаюць сялянам распараджацца іх зямлёю, звароту сялянам выкупных і аброчных плацяжоў, для чаго прапанавалася аблажыць падаткам дваран—буйных землеўладальнікаў, якія карысталіся выкупной ссудай, і канфіскаваць манастырскія маемасці і ўдзельныя маёнткі. Нарэшце, патрабаваўся зварот сялянам тых зямель, якія адрэзаны ў іх пры адмене прыгоннага права, і ўтварэння для гэтай мэты сялянскіх камітэтаў.

Усе патрабаванні гэтай праграмы былі накіраваны на ажыццяўленне адной мэты: знішчыць усе прыгонніцкія астаткі, расчысціць дарогу для свабоднага развіцця класавай барацьбы ў вёсцы, паскорыць працэс развіцця і перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Ажыццяўленне аграрных патрабаванняў было разлічана на шлях рэволюцыйнага паўстання сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыята супроць прыгонніцтва і самадзяржаўя.

«... Пачнецца барацьбой,—пісаў Ленін,—з вясковымі прыгоннікамі, а скончыцца—паўстаннем супроць таго магутнейшага і агід-

*) Ленін, т. IV, стар. 102.
**) Ленін, т. V, стар. 120.

нейшага астатку прыгонніцтва, які завецца царскім самадзяржаўем *).

Найбольш важным патрабаваннем гэтай праграмы было патрабаванне аб адрэзках. Адрэзкі з'яўляліся адною з важнейшых эканамічных умоў, на якіх у асноўным грунтавалася кабальная прыгонніцкая сістэма адработку. Зварот адрэзкаў сялянам падарваў-бы аснову адработачнай сістэмы, паскорыў-бы развіццё капіталізма ў сельскай гаспадарцы, расчысціў-бы дарогу развіццю класавай барацьбы ў вёсцы. Карэнным патрабаваннем аграрнай праграмы Ленін лічыў утварэнне рэволюцыйных сялянскіх камітэтаў, якія-б самі правялі сапраўды карэнныя аграрныя пераўтварэнні.

Патрабуючы звароту адрэзкаў і арганізацыі сялянскіх камітэтаў, Ленін ніякім чынам не звужаў задач сялянскага руху. Наадварот, гэта патрабаванне было толькі першым крокам на шляху актывізацыі сялянства, зброяй падштурхоўвання яго на барацьбу з прыгонніцтвам і самадзяржаўем. Гэта былі толькі дзверы, праз якія можна было-б ісці далей уперад—да перамогі пролетарскай рэволюцыі.

«Патрабаванне стварыць сялянскія камітэты для абмежавання кабалы і для звароту адрэзкаў не ёсць загародка. Яно ёсць **дзверы.** У гэтыя дзверы перш за ўсё трэба выйсці **для таго, каб ісці далей,** для таго, каб па адкрытай, па шырокай дарозе ісці **да самага канца,** да поўнага вызвалення працоўнага рабочага народа на Русі **).

Было-б зусім памылкова процістаўляць ленінскія патрабаванні аб адрэзках патрабаванню нацыяналізацыі зямлі.

«Ленін ужо тады стаяў за нацыяналізацыю зямлі, але на першым этапе барацьбы ён лічыў неабходным высунуць патрабаванне звароту сялянам «адрэзкаў», гэта значыць тых зямель, якія памешчыкі пры «вызваленні» сялян адрэзалі ад сялянскіх зямель» ***).

Для больш ранняй ступені разгортвання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі Ленін высунуў патрабаванне адрэзкаў. Пры ўздыме-ж буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі Ленін замяніў патрабаванне адрэзкаў патрабаваннем канфіскацыі памешчыцкай зямлі з паслядоўнай нацыяналізацыяй усёй зямлі.

Аб тым, што Ленін стаяў на пазіцыях нацыяналізацыі зямлі яшчэ да выпрацоўкі першай аграрнай праграмы, ясна відаць з яго найбольш ранняй работы «Прыяцелі народа», дзе ён гаворыць аб «поўнай экспрапрыяцыі памешчыцкага землеўладання». Затым у артыкуле аб аграрнай праграме, напісаным у 1902 годзе, ён прама указвае:

«Іншая справа—нацыяналізацыя зямлі... У прынцыпе мы ў поўнай меры раздзяляем гэта патрабаванне. У пэўны рэволюцыйны момант мы не адмовімся, зразумела, яго высунуць ****).

Ленінскае ўказанне аб нацыяналізацыі зямлі «ў пэўны рэволюцыйны момант» прыведзена ў выкананне. Стоячы на прынцыповых пазіцыях, Ленін усё-ж лічыў немэтазгодным высоўваць для таго перыяда праграму нацыяналізацыі зямлі.

---

*) Ленін, т. V, стар. 122.
**) Там-жа, стар. 308.
***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 38.
****) Ленін, т. V, стар. 113.

Ленін выказаў апасенне, што ў перыяд адсутнасці рэвалюцыйнага ўздыму і нявыяўленасці характару сялянскага руху, у перыяд поўнага панавання самадзяржаўя патрабаванне нацыяналізацыі зямлі магло адцягнуць увагу ад самых дзікіх перажыткаў прыгонніцтва, ад рэвалюцыйнай расправы з імі ў бок «бязглуздых эксперыментаў дзяржаўнага соцыялізма».

У сваім праграмным артыкуле Ленін пісаў:

«Але цяперашнюю сваю праграму мы складаем не толькі і нават не столькі для эпохі рэвалюцыйнага паўстання, колькі для эпохі палітычнага рабства, для эпохі, папярэдняй палітычнай свабодзе» *).

У перыяд уздыму рэволюцыі 1905—1906 гг., якая пахіснула царскае самадзяржаўе і выявіла характар сялянскага руху, наша партыя паставіла патрабаванне нацыяналізацыі зямлі ў парадак дня.

* * *

Другая аграрная праграма большэвізма ёсць працяг і развіццё першай, складзенай у перыяд уздыму буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі (1905—1917).

«Характэрнай рысай гэтага перыяда з'яўляецца высвабаджэнне сялянства з-пад уплыву ліберальнай буржуазіі, **адыход** сялянства ад кадэтаў, **паварот** сялянства ў бок пролетарыята, у бок партыі большэвікоў» **).

Стрыжнем большэвіцкай аграрнай праграмы гэтага перыяда з'яўляўся захват улады, устанаўленне рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства, як пераходнай ступені да дыктатуры пролетарыята.

Асабліва ярка выражана гэта ў трох ленінскіх парадах пролетарыяту і сялянству. У іх сціслa перадана сутнасць большэвіцкай аграрнай праграмы. У артыкуле «Перагляд аграрнай праграмы рабочай партыі», напісаным у пачатку 1906 года, Ленін указваў:

«Наша аграрная праграма павінна складацца з трох асноўных частак: па-першае, з фармуліроўкі самага рашучага закліку да рэволюцыйнага сялянскага націску на памешчыцкае землеўладанне; па-другое, з дакладнага ўказання далейшага кроку, які можа і павінен зрабіць рух для замацавання сялянскіх заваяванняў і для пераходу ад перамогі дэмакратыі да пролетарскай непасрэднай барацьбы за соцыялізм; па-трэцяе, з указання класавых пролетарскіх задач партыі, якія тым настойлівей насоўваюцца на нас і тым настойлівей патрабуюць яснай пастаноўкі іх, чым бліжэй перамога сялянскага паўстання» ***).

У першай парадзе Ленін заклікае накіраваць усе намаганні да поўнай перамогі сялянскага паўстання.

Без такой перамогі немагчыма было-б ні адабраць зямлю ў памешчыкаў, ні стварыць сапраўды дэмакратычную дзяржаву. Лозунгам, які заклікаў сялян да рашучага выступлення, з'яўлялася патрабаванне:

«Канфіскацыя ўсіх памешчыцкіх зямель... і абавязкова канфіскацыя сялянскімі камітэтамі яшчэ да Устаноўчага Сходу ****).

*) **Ленін**, т. V, стар. 113.
**) **Сталін**, „Пытанні ленінізма“, стар. 35.
***) **Ленін**, т. IX, стар. 73.
****) **Ленін**, т. IX, стар. 72.

Ленін тлумачыць, што ўсякія іншыя заклікі—лозунгі буржуазных лібералаў і меншавікоў аб «адчуждзенні» і т. п.—не заклікаюць сялянства да рашучых выступленняў і разлічаны на здзелку з памешчыкамі і рэакцыйнаю ўладай.

Другая ленінская парада заклікае не спыняцца на поўдарозе, не абмяжоўвацца адным толькі захватам зямлі ў памешчыкаў, а рухацца далей—да рэспублікі, да рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства, бо толькі гэтым шляхам можна замацаваць заваёвы і зрабіць крок да соцыялізма.

> «Гэта значыць,—піша далей Ленін:—пры ўмове заваявання рэспублікі нацыяналізацыя ўсёй зямлі, як магчымы максімум буржуазна-дэмакратычнага перавароту, як натуральны і неабходны крок уперад ад перамогі буржуазнага дэмакратызма к пачатку сапраўднай барацьбы за соцыялізм» *).

Тут найбольш ярка сфармулявана ленінская ідэя перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную і паказана, якое вялікае рэволюцыйнае значэнне мае пры гэтым большэвіцкі лозунг нацыяналізацыі ўсёй зямлі. Высоўваючы гэты лозунг, пролетарыят і яго партыя становяцца на чале аграрнага сялянскага руху. Аднак, Ленін выстаўляе патрабаванне нацыяналізацыі зямлі не пры любым выніку рэволюцыі, а пры давядзенні яе да канца, пры ўстанаўленні рэволюцыйна-дэмакратычнай улады, здольнай выконваць гэта патрабаванне.

Ажыццяўленне нацыяналізацыі зямлі ў рускай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі азначае для Леніна максімум буржуазна-дэмакратычных заваёў і разам з тым неабходны крок да соцыялістычнай рэволюцыі, адзін з момантаў, які садзейнічае перарастанню буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

Патрабаванне нацыяналізацыі зямлі ставілася ў праграме нашай партыі не для таго, каб умацаваць сялянскую уласнасць і буржуазныя парадкі, а каб рухаць рэволюцыю далей і, дабіўшыся «магчымага максімума буржуазна-дэмакратычнага перавароту», зрабіць нацыяналізацыю зямлі натуральным і неабходным крокам уперад у барацьбе за соцыялістычную рэволюцыю.

У сваёй трэцяй парадзе Ленін заклікае да самастойнай арганізацыі сельскага і гарадскога пролетарыята, да барацьбы за поўны соцыялістычны пераварот, за дыктатуру пролетарыята. Пролетарыят падтрымлівае ўсё сялянства ў яго барацьбе супроць цара і памешчыкаў у перыяд буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі. Гэта знайшло выражэнне ў лозунгу нашай партыі: «Разам з усім сялянствам супроць цара і памешчыкаў, пры нейтралізацыі буржуазіі, за перамогу буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі». Але ўнутры сялянства ідзе барацьба паміж процілеглымі класавымі групамі. Пролетарыят і поўпролетарыят вёскі павінны арганізавацца асобна і весці барацьбу супроць кулацтва.

Партыя павінна арганізоўваць сельскі пролетарыят і беднату ў іх барацьбе з кулацтвам, згуртоўваць іх у свядомую класавую сілу і рыхтаваць да барацьбы за дыктатуру пролетарыята.

На аснове гэтых ленінскіх указанняў былі сфармуляваны патрабаванні большэвіцкай аграрнай праграмы:

«У мэтах знішчэння рэштак прыгоннага парадку, якія цяжкім

*) Ленін, т. IX, стар. 72.

гнётам ляжаць непасрэдна на сялянах, і ў інтарэсах свабоднага развіцця класавай барацьбы ў вёсцы партыя патрабуе:

1) канфіскацыі ўсіх царкоўных, манастырскіх, удзельных, дзяржаўных, кабінецкіх і памешчыцкіх зямель;

2) стварэння сялянскіх камітэтаў для неадкладнага знішчэння ўсіх слядоў памешчыцкай улады і памешчыцкіх прывілеяў і для фактычнага распараджэння канфіскаванымі землямі да часу ўстанаўлення ўсенародным Устаноўчым Сходам новага зямельнага ўстройства;

3) адмены ўсіх падаткаў і павіннасцей, якія падаюць у цяперашні час на сялянства, як на падатковае саслоўе;

4) адмены ўсіх законаў, якія сцясняюць селяніна ў распараджэнні яго зямлёй;

5) прадастаўлення выбарным народным судам права паніжаць непамерна высокія арэндныя платы і аб'яўляць несапраўднымі здзелкі, якія маюць кабальны характар.

Калі-ж рашучая перамога сучаснай рэволюцыі ў Расіі забяспечыць поўнасцю самадзяржаўе народа, г. зн. створыць рэспубліку і ўпаўне дэмакратычны дзяржаўны лад, то партыя будзе дабівацца адмены прыватнай уласнасці на зямлю і перадачы ўсіх зямель у агульную уласнасць усяго народа» *).

Другі варыянт апошняга абзаца сфармулёван так:

«...партыя будзе падтрымліваць імкненне рэволюцыйнага сялянства к адмене прыватнай уласнасці на зямлю і дабівацца перадачы ўсіх зямель ва ўласнасць дзяржавы».

Гэтыя праграмныя патрабаванні дапаўняліся наступным палажэннем:

«Пры гэтым Расійская Соцыял-Дэмакратычная Рабочая Партыя ва ўсіх выпадках і пры ўсякім становішчы дэмакратычных аграрных пераўтварэнняў ставіць сваёй задачай няўхільна імкнуцца да самастойнай класавай арганізацыі сельскага пролетарыята, тлумачыць яму непрымірымую процілегласць яго інтарэсаў інтарэсам сялянскай буржуазіі, перасцерагаць яго ад спакушэння сістэмай дробнай гаспадаркі, якая ніколі, пры існаванні таварнай вытворчасці, не зможа знішчыць галечы мас, і, нарэшце, указваць на неабходнасць поўнага соцыялістычнага перавароту, як адзінага сродку знішчыць усякую галечу і ўсякую эксплуатацыю» **).

Большэвіцкая аграрная праграма адпавядала рэволюцыйным патрабаванням самаго сялянства і заклікала яго да паўстання. Яна была разлічана на поўны разварот усіх рэволюцыйных буржуазна-дэмакратычных сіл, закладзеных у сялянскім руху. На чале гэтага руху стаяў пролетарыят, які вёў закабаленую і эксплаатуемую масу вясковай беднаты да пролетарскай рэволюцыі. Па выражэнню таварыша Сталіна, «гегемонія пролетарыята была зародкам і пераходнай ступенню да дыктатуры пролетарыята» ***).

Гэта аграрная праграма большэвізма складалася ў ходзе рэволюцыі 1905 года і ўвайшла ў гісторыю, як праграма нацыяналізацыі

*) Ленін, т. IX, стар. 75.
**) Там-жа, стар. 76.
***) Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 36.

зямлі. Асноўныя яе палажэнні былі прыняты на III большэвіцкім з'ездзе партыі ў 1905 г., а поўны праект прадастаўлен большэвікамі Стокгольмскаму аб'яднаўчаму з'езду партыі ў 1906 г. Меншавіцкая большасць з'езда адвергла праект і замяніла яго сваёй блытанай праграмай «муніцыпалізацыі зямлі». Аднак, адвергнутая меншавікамі праграма служыла для большэвікоў кіраўніцтвам к дзеянню.

Не трэба змешваць і процістаўляць праграмныя патрабаванні канфіскацыі памешчыцкіх, царкоўных і іншых земель патрабаванням нацыяналізацыі ўсёй зямлі. Канфіскацыя зямлі не пакрывае поўнасцю патрабавання нацыяналізацыі ўсёй зямлі, бо азначае гвалтоўны і дармовы захват памешчыцкіх, царкоўных і іншых земель пануючых класаў, як прыватнай уласнасці, так і аб'екта гаспадаркі, і перадачу іх у распараджэнне рэволюцыйных сялянскіх камітэтаў. Канфіскацыя зямлі не закранае дробнай зямельнай уласнасці сялян. Нацыяналізацыя зямлі азначае перадачу ўсёй зямлі, у тым ліку і дробнай сялянскай, як аб'екта ўласнасці, у рукі дзяржавы.

Аднак, нацыяналізацыя ні ў якім разе не азначае адабрання зямлі ў дробных сялян супроць іх волі. Пры нацыяналізацыі сяляне працягваюць карыстацца зямлёй, як аб'ектам гаспадаркі, хоць яна і пераходзіць у рукі дзяржавы, як аб'ект уласнасці.

> «Нацыяналізацыя,—піша Ленін,—ёсць перадача рэнты дзяржаве. Сяляне ў большасці выпадкаў ніякай рэнты з зямлі не атрымліваюць. Значыць, пры нацыяналізацыі ім плаціць нічога не прыдзецца... Нацыяналізацыя палегчыць мабілізацыю земель, але ніякага адабрання зямлі ў дробных сялян супроць іх волі яна ніколькі не азначае» *).

Як мы ўжо адзначалі, патрабаванне нацыяналізацыі ўсёй зямлі высоўвалася нашай партыяй у сувязі з давядзеннем буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі да канца, пры ўмове поўнага дэмакратычнага пераварота. Ідучы-ж непасрэдна ў бой з царызмам і ўсімі рэшткамі прыгонніцтва, партыя вяла за сабою сялянства пад лозунгам канфіскацыі ўсёй памешчыцкай, царкоўнай, удзельнай і іншых земель.

Пяройдзем да разбору эканамічных асноў нацыяналізацыі зямлі, як важнейшага пытання большэвіцкай аграрнай праграмы. Зямельная ўласнасць у капіталістычным грамадстве праяўляецца ў форме эканамічнай сілы—рэнты, якая тармозіць развіццё сельскай гаспадаркі ва многіх адносінах.

Па-першае, яна выступае ў форме зямельнай цаны. За зямлю трэба плаціць, бязмэтна адцягваць з сельскай гаспадаркі значную частку сродкаў у карысць землеўладальнікаў, у дадатак купля зямлі становіцца не пад сілу дробнаму вытворцу і служыць крыніцай яго закабалення.

Маркс піша, што пры дробным землеўладанні

> «цана зямлі, форма і рэзультат прыватнай уласнасці на зямлю, выступае як граніца самой вытворчасці. Пры земляробстве ў буйных размерах і пры буйнай зямельнай уласнасці... уласнасць таксама выступае як граніца, таму што абмяжоўвае арандатара ў вытворчым прымяненні капітала, якое ў канчатковым выніку ідзе на карысць не яму, а зямельнаму ўласніку»

---

*) **Ленін**, т. IX, стар. 66.
**) **Маркс**, „Капітал", т. III, стар. 715, выд. 8-е.

Па-другое, на глебе прыватнай уласнасці развіваецца арэндная сістэма, якая служыць не толькі крыніцай закабалення дробных вытворцаў, але вядзе да драпежніцкага выкарыстоўвання зямлі ва ўмовах капіталізма.

Пры арэндзе зямлі ўсе нявыкарыстаныя ўкладанні капітала на працягу тэрміна арэнднага дагавора вядуць да павышэння арэнднай платы пры перазаключэнні дагавораў, павялічваючы тым самым дань землеўладальнікам. Зямельныя ўласнікі прыбіраюць да сваіх рук прыбытак, які атрымліваецца ў выніку грамадскага развіцця без усякай садзейнасці з іх боку. У арандатара прападае зацікаўленасць у тым, каб укладаць капітал у зямлю, а тым больш на працяглы тэрмін, і ён стараецца самым драпежніцкім чынам выкарыстоўваць пладароддзе зямлі.

Асабліва цяжкай становіцца арэндная плата для дробных вытворцаў у годы крызісаў, калі цэны на сельскагаспадарчыя прадукты рэзка падаюць, а арэндная плата застаецца нязменнай да канца дагавора, які заключаўся, зыходзячы з больш высокага, дакрызіснага ўзроўню цэн і рэнты.

Акрамя таго, капіталістычная вытворчасць патрабуе канцэнтрацыі зямлі. Спадчыннае права, якое грунтуецца на прыватнай уласнасці, вядзе да раздраблення зямлі, што супярэчыць інтарэсам капіталістычнага спосабу вытворчасці. Такім чынам прыватная ўласнасць на зямлю тармозіць развіццё сельскай гаспадаркі і да крайнасці паглыбляе адсталасць земляробства, якое і без таго заціснута ў абцугі ўсеагульнага закона капіталістычнага накаплення.

Выступаючы, як эканамічная сіла, у форме абсалютнай рэнты, прыватная ўласнасць абумоўлівае павышэнне цэн на сельскагаспадарчыя прадукты, паніжае жыццёвы ўзровень рабочага класа ў карысць землеўладальнікаў. Эканамічна прыватная ўласнасць на зямлю зусім не выцякае з капіталістычнага спосабу вытворчасці. Наадварот, яна тармозіць развіццё не толькі сельскай гаспадаркі,—яна звужае эканамічную базу аднаўлення ўсяго грамадскага капітала. Манаполія зямлі патрэбна капіталізму толькі ў якасці аб'екта гаспадаркі, але не ў якасці прыватнай уласнасці.

Ліквідацыяй прыватнай уласнасці на зямлю ва ўмовах капіталізма не знішчаецца капіталістычны спосаб вытворчасці, наадварот—ствараюцца яшчэ лепшыя ўмовы для яго развіцця. Нацыяналізацыя зямлі ва ўмовах капіталізма, не закранаючы манаполіі гаспадаркі на зямлю і самой капіталістычнай вытворчасці, перадала-б толькі дыферэнцыяльную рэнту дзяржаве, знішчыла-б прыватную уласнасць на зямлю і яе эканамічнае выражэнне—абсалютную рэнту і разам з тым ачысціла-б шлях да свабоднага ўкладання капітала ў земляробства для больш прадукцыйнага яго выкарыстання, для больш хуткага развіцця класавай барацьбы ў вёсцы.

Ва ўмовах перадрэвалюцыйнай Расіі, дзе прыгонніцкія перажыткі былі асабліва моцны не толькі ў памешчыцкім землеўладанні, але і ў надзельным землекарыстанні сялян, у масе markers роду саслоўных перагародак, якія раздзялялі сялян,—нацыяналізацыя зямлі была вельмі неабходнай мерай для выкарчоўкі ўсіх пут прыгонніцтва ў рускай вёсцы. Гэтага патрабавала рэвалюцыйнае сялянства.

Абагульняючы патрабаванні рэвалюцыйнага сялянства, Ленін пісаў:

«Не павінна быць ні памешчыцкага, ні надзельнага землеўла-

дання, павінна быць толькі новае, свабоднае землеўладанне,— такі лозунг радыкальнага селяніна» *).

Тым не менш, буржуазія ні ў адной краіне не магла адважыцца на тое, каб правесці нацыяналізацыю зямлі, бо баялася, што напад на адну форму прыватнай уласнасці створыць небяспеку для другой. У дадатак буржуазія сама абзавялася зямлёй, тэрытарыялізавалася.

«Радыкальны буржуа,—піша Маркс,—тэарэтычна прыходзіць да адмаўлення прыватнай уласнасці на зямлю... Аднак на практыцы ў яго не хапае адвагі, бо напад на адну форму ўласнасці... быў-бы вельмі небяспечны і для другой формы. Акрамя таго буржуа сам абзавёўся зямлёю» **).

Тым больш не магла адважыцца руская буржуазія перад тварам наспяваўшых рэволюцыйных падзей, перад пагрозай выступлення пролетарыята. Трэба прыняць пад увагу і тое, што інтарэсы буржуазіі і памешчыкаў цесна перапляталіся. Часта капіталісты самі з'яўляліся землеўладальнікамі, а памешчыкі—капіталістамі, удзельнікамі акцыянерных прадпрыемстваў.

Цесна звязаныя з фінансавым замежным капіталам рускія банкі, укладаючы велізарныя сумы ў пазямельны крэдыт, былі зацікаўлены ў захаванні прыватнай уласнасці на зямлю.

Прыбыткі рускай буржуазіі ў вялікай меры залежалі ад ваенных заказаў царскага ўрада. Яе інтарэсы цесна перапляталіся з інтарэсамі фінансавага капітала Еўропы, які падтрымліваў самадзяржаўе—гэтага «вартавога сабаку імперыялізма на ўсходзе Еўропы». І гэта было адной з прычын рэакцыйнасці рускай буржуазіі, яе няздольнасці падтрымаць радыкальныя патрабаванні сялянства і выступіць супроць самадзяржаўя.

Свайго адзінага і да канца паслядоўнага саюзніка, кіраўніка і арганізатара сялянства бачыла толькі ў асобе пролетарыята. Атрымаць зямлю, пазбавіцца ад поўпрыгонніцкай кабалы і царскага самавольства яно магло толькі ў саюзе і пад кіраўніцтвам рабочага класа. А прыгонніцкія рэшткі ў рускай вёсцы былі настолькі пакутны для масы сялянства, што толькі нацыяналізацыя ўсёй зямлі магла пазбавіць яго ад гэтых путаў і стварыць умовы для прагрэса ў земляробстве.

Рускі селянін глядзеў яшчэ ўперад, а не назад. Ён у той час яшчэ не «тэрытарыялізаваўся» і не баяўся пролетарскага «нападу». Ён патрабаваў нацыяналізацыі зямлі.

Нацыяналізацыя зямлі ва ўмовах тагочаснай Расіі магла быць праведзена толькі пры поўнай перамозе буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі пад кіраўніцтвам рабочага класа, пры ўстанаўленні рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства.

Ленін ускрыў рухаючыя сілы рэволюцыі і тыя ўмовы, пры якіх магло быць ажыццёўлена патрабаванне нацыяналізацыі зямлі—пралога да сапраўднай барацьбы за соцыялізм.

Вось умовы рашэння гэтай задачы: пролетарыят—гегемон, сялянства—саюзнік, рэволюцыйна-дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства—неабходная ўмова яе ажыццяўлення.

Рэволюцыйна-дэмакратычная дыктатура пролетарыята і сялянства—

*) Ленін, т XI, стар, 38 .
**) Маркс, „Тэорыя дадатковай вартасці", стар. 142.

гэта яшчэ не соцыялістычная дыктатура пролетарыята. Гэта толькі найбольш паслядоўна дэмакратычны ўрад, у якім кіруючую ролю адыгрывае пролетарыят. Правядзенне такім урадам нацыяналізацыі зямлі палегчыла-б пролетарыяту ў саюзе з вясковай беднатой ажыццявіць пераход да соцыялістычнай рэволюцыі. Удар, нанесены па зямельнай уласнасці, палегчыў-бы ў далейшым выкарчоўванне ўласнасці наогул.

Такое, у агульных рысах, значэнне большэвіцкай аграрнай праграмы ў буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі і ў прыватнасці нацыяналізацыі зямлі, паколькі гэта даступна перадаць у адным журнальным артыкуле.

*Ф. Міхалап*

# Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя 1917 г. у Расіі*)

27 лютага (12 сакавіка па новаму стылю) 1917 г. паўстаўшыя рабочыя разам з сялянамі, апранутымі ў салдацкія шынелі, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, назаўсёды скінулі ненавісны рускі царызм, які звыш трыста год залівау краіну крывёй рабочых і сялян, душыў нацыянальныя меншасці. **Ганебна закончыла сваё існаванне** «дынастыя Раманавых».

Рускі царызм быў самай варварскай формай манархічнага дэспатызма, злейшым ворагам народа. Рабочыя і сяляне пры панаванні царызма не мелі ніякіх палітычных праў. Над імі стаяла цэлая армія ўраднікаў, стражнікаў, жандармаў, паліцэйскіх, якія абаранялі цара, капіталістаў і памешчыкаў. Прамысловая буржуазія прыслужвала царызму, бо ён ахоўваў панаванне капіталістаў над рабочымі. Шматмільённае сялянства задыхалася ў цэпкай кабале ў памешчыкаў і кулакоў.

Царская Расія была турмой народаў. Нацыянальная палітыка царызма заключалася ў гвалтоўнай русіфікацыі і пагромах, у натраўліванні адных народаў на другія.

Царызм быў агентурай міжнароднага імперыялізма, але ён і сам вёў імперыялістычную заваёўчую палітыку. Ён з'яўляўся пагрозай для свабоды і незалежнасці народаў усяго Усхода, аплотам рэакцыі на ўсім зямным шары.

Наша большэвіцкая партыя з самага пачатку свайго ўзнікнення вяла барацьбу за звяржэнне самадзяржаўя, каб расчысціць дарогу пролетарыяту ў яго барацьбе супроць капіталізма, за соцыялізм.

Лютаўскія падзеі падрыхтоўваліся доўга і ўпарта. Яшчэ ў 1894 годзе аснавальнік і правадыр большэвіцкай партыі В. І. Ленін у сваёй геніяльнай рабоце «Што такое «прыяцелі народа» і як яны ваююць супроць соцыял-дэмакратаў» указваў, што іменна рабочы клас Расіі ў саюзе з сялянствам зваліць абсалютызм, пасля чаго рускі пролетарыят у саюзе з працоўнымі і эксплуатуемымі масамі, побач з пролетарыятам іншых краін, прамой дарогай адкрытай палітычнай барацьбы **пойдзе да пераможнай комуністычнай рэвалюцыі.** Ужо тады Ленін высунуў ідэю рэвалюцыйнага саюза рабочых і сялян, як галоўнага сродку звяржэння самадзяржаўя, памешчыкаў, буржуазіі. **Рабочы клас—гегемон, сялянства—яго саюзнік—вось тая сіла, перад якой не мог устаяць стары, спарахнелы будынак царызма.**

---

*) Лекцыя, прачытаная аўтарам для партактыва Дзяржынскага раёна.

З гэтага відаць, што Ленін ужо звыш 40 год таму назад правільна ўказаў шлях барацьбы рабочага класа, вызначыў яго ролю, як перадавой, да канца паслядоўнай рэвалюцыйнай сілы грамадства, вызначыў ролю сялянства, як саюзніка рабочага класа.

У другой геніяльнай рабоце Леніна «Што рабіць?», напісанай у 1902 годзе, мы знаходзім прарочыя ўказанні аб тым, што:

> «Гісторыя паставіла цяпер перад намі (рускімі марксістамі.— *І. С.)* бліжэйшую задачу, якая з'яўляецца найбольш рэвалюцыйнай з усіх бліжэйшых задач пролетарыята якой-бы там ні было іншай краіны. Ажыццяўленне гэтай задачы, разбурэнне самага магутнага аплота не толькі еўрапейскай, але таксама і азіяцкай рэакцыі зрабіла-б рускі пролетарыят авангардам міжнароднага рэвалюцыйнага пролетарыята» *).

Гэта прадсказанне Леніна бліскуча пацвердзілася ходам рэвалюцыі:

> «У Расіі ўзнімалася велізарнейшая народная рэвалюцыя, на чале якой стаяў рэвалюцыйнейшы ў свеце пролетарыят, які меў у сваім распараджэнні такога сур'ёзнейшага саюзніка, як рэвалюцыйнае сялянства Расіі» **).

Але каб рэвалюцыя магла аказацца пераможнай, каб можна было падрыхтаваць і рушыць на штурм самадзяржаўя, а затым і капітала пролетарскія масы і мабілізаваць неабходныя рэвалюцыйныя рэзервы, на чале рэвалюцыйнага руху павінна была стаяць партыя «новага тыпу», партыя рэвалюцыйная, выпрабаваная, сапраўды баявая, партыя, узброеная перадавой рэвалюцыйнай тэорыяй, уладаючая ведамі законаў грамадскага развіцця. І такой партыяй з'явілася наша большэвіцкая партыя, а яе правадыром— геніяльны тэарэтык і правадыр рускага і міжнароднага рабочага рэвалюцыйнага руху—В. І. Ленін.

Апіраючыся на вядомае палажэнне Маркса і Энгельса аб бесперапыннай рэвалюцыі, данае ў канцы 40-х гадоў мінулага стагоддзя ў «Звароце да саюза комуністаў», Ленін абгрунтаваў новую тэорыю перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў рэвалюцыю социялістычную. У 1905 годзе ў артыкуле «Адносіны соцыял-дэмакратыі да сялянскага руху» Ленін растлумачыў:

> «Ад рэвалюцыі дэмакратычнай мы зараз-жа пачнем пераходзіць і якраз у меру нашай сілы, сілы свядомага і арганізаванага пролетарыята, пачнем пераходзіць да соцыялістычнай рэвалюцыі. Мы стаім за бесперапынную рэвалюцыю. Мы не спынімся на поўдарозе» ***).

Разам з Леніным гэты пункт погляду абараняў і праводзіў у жыццё таварыш Сталін. У артыкуле «Лонданскі з'езд Расійскай Соцыял-Дэмакратычнай Рабочай Партыі (запіскі дэлегата)», надрукаваным у сярэдзіне 1907 года ў большэвіцкай газеце «Бакинский Пролетарий», тав. Сталін, падкрэсліўшы, што рускі пролетарыят з'яўляецца дастаткова спаяным і моцным, што ў яго сільнейшая ў Расіі партыя з вытрыманай рэвалюцыйнай праграмай, тактыкай і правільнымі арганізацыйнымі прынцыпамі, наступным чынам характарызаваў ролю і задачы пролетарыята ў будучай рэвалюцыі:

*) Ленін, т. IV, стар. 382.
**) Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 5.
***) Ленін, т. VIII, стар. 186.

«Адзіным правадыром нашай рэволюцыі, які зацікаўлен і можа павесці за сабой рэволюцыйныя сілы Расіі на штурм царскага самадзяржаўя,—з'яўляецца пролетарыят. Толькі пролетарыят згуртуе вакол сябе рэволюцыйныя элементы краіны, толькі ён давядзе да канца нашу рэволюцыю. Задачай соцыялдэмакратыі з'яўляецца—зрабіць усё магчымае для падрыхтоўкі пролетарыята да ролі правадыра рэволюцыі.

У гэтым гвозд большэвіцкага пункту погляду» *).

У гэтых указаннях таварыша Сталіна з усёй чоткасцю сфармулявана пытанне аб гегемоніі пролетарыята ў рэволюцыі, аб давядзенні яе да канца, да поўнай перамогі.

На працягу многіх год наша большэвіцкая партыя на чале з Леніным і Сталіным настойліва і ўпарта кавала саюз рабочага класа з сялянствам, вяла рашучую барацьбу за ўсямернае ўмацаванне гэтага саюза, вырываючы сялянства з-пад уплыву буржуазіі ў асобе партыі кадэтаў і з-пад уплыву дробна-буржуазных партый эсэраў і меншавікоў—гэтых агентаў буржуазіі.

* * *

На падставе глыбокага вывучэння імперыялізма Ленін прышоў да вываду і навукова даказаў, што імперыялізм—гэта апошняя стадыя капіталізма, калі ён паспеў ужо з «прагрэсіўнага» ператварыцца ў паразітычны, загніваючы, паміраючы.

Вызначыўшы імперыялізм, як паміраючы капіталізм, Ленін разам з тым паказаў, што «Імперыялізм ёсць пярэдадзень соцыяльнай рэволюцыі пролетарыята». Гэта ленінскае палажэнне ўказвае, што капіталізм не адамрэ сам па сабе, а яго неабходна знішчыць рэволюцыйным шляхам.

У лекцыях «Аб асновах ленінізма», чытаных у Свердлоўскім універсітэце ў пачатку красавіка 1924 г., тав. Сталін абагуліў у адну цэльную стройную сістэму ленінскае вучэнне аб імперыялізме, як загніваючым і паміраючым капіталізме, як пярэдадні пролетарскай рэволюцыі.

Таварыш Сталін указвае, што «імперыялізм даводзіць супярэчнасці капіталізма да апошняй мяжы, да крайніх граніц, за якімі пачынаецца рэволюцыя». Падвяргаючы глыбокаму марксісцка-ленінскаму аналізу прыроду імперыялізма, таварыш Сталін указаў на тры найбольш важныя супярэчнасці, уласцівыя імперыялістычнай стадыі развіцця капіталізма.

Перш за ўсё—гэта **супярэчнасць паміж працай і капіталам.** Імперыялізм ёсць капіталізм на той стадыі развіцця, калі склалася панаванне манаполіі і фінансавага капітала. Велізарныя аб'яднанні капіталістаў (манапалістычныя трэсты і сіндыкаты) дзеляць паміж сабою унутраны рынак, камандуюць цэлымі галінамі прамысловасці. Імперыялістычная вайна надзвычай паскорыла рост манаполій. Ленін, гаворачы аб манаполіях, адзначаў: «Вайна падзесяцярыла іх кольказсць, ролю і значэнне» **). Уся сістэма дзяржаўна-манапалістычнага капіталізма перыяда вайны, вырасшая з панавання манаполій, была ў той-жа час магутнейшым рычагом узмацнення гэтага панавання. Панаванне манаполій узмацняе гнёт над рабочым класам і ўсімі працоўнымі. Манапольнае становішча адкрывае перад кучкамі буйней-

---

*) „Пратаколы V з'езда РСДРП", стар. XXI, Партвыдат 1935 г.
**) Ленін, т. XXI, стар. 187.

шых капіталістаў магчымасць нечуванага ўзбагачэння за кошт усямернага ўзмацнення эксплаатацыі шырокіх мас працоўных, а гэта абвастрае супярэчнасці паміж працай і капіталам, параджаючы і выклікаючы паўстанні пролетарыята супроць сваіх прыгнятальнікаў. **Імперыялізм ушчыльную падводзіць рабочы клас да рэволюцыі.**

**Другая супярэчнасць**—гэта **супярэчнасць паміж рознымі клікамі фінансавых акул і імперыялістычнымі дзяржавамі** ў іх пастаяннай барацьбе за захват чужых тэрыторый, крыніц сыравіны, рынкаў збыту, рынкаў прылажэння капітала.

К пачатку XX стагоддзя ўвесь зямны шар аказаўся падзеленым паміж буйнейшымі капіталістычнымі драпежнікамі. Велізарныя манаполіі захапілі сусветныя крыніцы сыравіны і цэпка трымаюць іх у сваіх руках, усе «месцы пад сонцам» захоплены. Здабыць новыя землі можна толькі ў крывавай, жорсткай вайне, адабраўшы іх у другіх дзяржаў. Адсюль шалёная барацьба за перадзел падзеленага ўжо свету, за захват чужых тэрыторый. Гэта барацьба немінуча вядзе да рабаўнічых, гвалтоўных, заваявальных войн, у якіх праліваецца мора крыві працоўных інтарэсах нажывы капіталістычных магнатаў. Барацьба паміж імперыялістамі ў сваю чаргу вядзе да ўзаемнага іх аслаблення, да аслаблення пазіцый капіталізма наогул і тым самым набліжае момант пролетарскай рэволюцыі, робіць яе зусім неабходнай для таго, каб выратаваць чалавецтва ад жахаў капіталістычнага рабства.

Нарэшце, **трэцяя супярэчнасць**—гэта **супярэчнасць паміж невялікай колькасцю так званых «цывілізаваных» нацый і велізарнай масай насельніцтва каланіяльных і залежных краін.**

Для капіталізма даманапалістычнай стадыі характэрным быў **вываз тавараў**. У эпоху манапалістычнага капіталізма велізарнае значэнне набывае **вываз капітала,** у адрозненне ад вывазу тавараў. Накапляемыя манапалістычныя барышы капіталісты накіроўваюць у больш адсталыя ў капіталістычных адносінах краіны з мэтай больш выгаднага прымянення капітала.

У пагоні за звышпрыбыткам імперыялісты будуюць у калоніях і залежных краінах фабрыкі і заводы, порты і станцыі, пракладваюць чыгункі. Але з прычыны ўсяго гэтага там паяўляецца мясцовы пролетарыят, здольны згуртаваць і ўзначаліць разрозненыя, закабаленыя масы, зараджаецца мясцовая інтэлігенцыя, расце нацыянальная самасвядомасць. Рост імперыялістычнай эксплаатацыі вядзе да ўзмацнення вызваленча-рэволюцыйнага руху ва ўсіх калоніях і залежных краінах, да абвастрэння супярэчнасцей паміж кучкай імперыялістычных рабаўнікоў і мільёнамі рабоў. Рэволюцыйны рух у калоніях і залежных краінах аслабляе пазіцыі капіталізма ва ўсім свеце, падрывае яго карэнні і вядзе да ператварэння гэтых краін, як указвае таварыш Сталін, «з рэзерваў імперыялізма ў рэзервы пролетарскай рэволюцыі». Нацыянальна-вызваленчы рух у калоніях становіцца пагрозай для імперыялізма, падтрымкай для рэволюцыйнага пролетарыята.

Надзвычайнае абвастрэнне ўсіх супярэчнасцей вядзе да таго, што імперыялізм з'яўляецца пярэдаднем соцыялістычнай рэволюцыі. Капіталістычныя супярэчнасці абвастраюцца да такой ступені, што далейшае існаванне капіталістычных адносін становіцца невыноснай перашкодай на шляху далейшага развіцця чалавечага грамадства.

У эпоху імперыялізма развіццё капіталізма праходзіць вельмі нераўнамерна, не так, каб адна краіна ішла ўвесь час уперадзе,

а другая адставала; яно адбываецца скачкападобна, так, што краіна, якая раней развівалася марудна, паскарае тэмпы свайго развіцця, даганяе і пераганяе сваіх сапернікаў, трацячых былыя тэмпы развіцця. «Нероўнамернасць эканамічнага і палітычнага развіцця ёсць безумоўны закон капіталізма» *). З прычыны гэтай нероўнамернасці і скачкападобнасці абвастраюцца процілегласці паміж краінамі. Суадносіны сіл паміж рознымі імперыялістычнымі дзяржавамі безупынна мяняюцца, што немінуча вядзе да канфліктаў, да імперыялістычных войн, якія, безумоўна, аслабляюць сілы імперыялізма і робяць магчымым прарыў звяна ў ланцугу імперыялізма там, дзе яно акажацца ўсяго слабей.

З закона нероўнамернага і скачкападобнага развіцця капіталізма Ленін зрабіў геніяльны вывад аб магчымасці прарыву імперыялістычнага фронта пролетарыятам і магчымасці перамогі соцыялізма ў адной краіне. Вядома, што ў 1917 годзе імперыялістычны фронт быў прорван у найбольш слабым яго месцы—у Расіі.

> «У 1917 годзе ланцуг імперыялістычнага сусветнага фронта аказаўся слабей у Расіі, чым у іншых краінах... Чаму? Таму, што ў Расіі разгортвалася велізарнейшая народная рэволюцыя, на чале якой ішоў рэволюцыйны пролетарыят, які меў такога сур'ёзнага саюзніка, як многамільённае сялянства, прыгнятаемае і эксплаатуемае памешчыкам. Таму, што супроць рэволюцыі стаяў там такі агідны прадстаўнік імперыялізма, як царызм, пазбаўлены ўсякай маральнай вагі і заслужыўшы агульную нянавісць насельніцтва» **).

На падставе найглыбейшага вывучэння імперыялізма Ленін прышоў да вываду, што ў сілу закона нероўнамернага развіцця капіталізма, які (закон нероўнамернасці) з асобаю сілай выступае ў імперыялістычную эпоху, соцыялізм не можа перамагчы адначасова ва ўсіх краінах, што магчыма перамога соцыялізма першапачаткова ў адной або ў некалькіх краінах, а астатнія краіны на працягу некаторага часу астануцца буржуазнымі або дабуржуазнымі.

> «Гэта была **новая,** закончаная тэорыя соцыялістычнай рэволюцыі, тэорыя аб магчымасці перамогі соцыялізма ў асобных краінах, аб умовах яго перамогі, аб перспектывах яго перамогі, тэорыя, асновы якой былі намечаны Леніным яшчэ ў 1905 годзе ў брашуры «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі».
>
> ...Неацанімае значэнне ленінскай тэорыі соцыялістычнай рэволюцыі заключаецца не толькі ў тым, што яна ўзбагаціла марксізм новай тэорыяй і рушыла яго ўперад. Яе значэнне заключаецца яшчэ ў тым, што яна дае рэволюцыйную перспектыву пролетарыям асобных краін, развязвае іх ініцыятыву ў справе націску на сваю, нацыянальную, буржуазію, вучыць іх скарыстоўваць абстаноўку вайны для арганізацыі такога націску і ўмацоўвае іх веру ў перамогу пролетарскай рэволюцыі» ***).

Большэвіцкая партыя ішла да лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, узброеная ленінска-сталінскім вучэннем аб перара-

*) Ленін, т. XVIII, стар. 232.
**) Сталін, „Пытанні ленінізма", стар. 18.
***) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 162.

станні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў рэвалюцыю соцыялістычную, аб магчымасці перамогі соцыялізма ў нашай краіне; яна ішла з сапраўды рэвалюцыйнай праграмай барацьбы і стойкімі кадрамі, выхаванымі і загартаванымі Леніным і Сталіным. Гэтыя кадры былі гатовы беззаветна змагацца за давядзенне рэвалюцыі да пераможнага канца.

Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя поўнасцю пацвердзіла ленінска-сталінскія палажэнні аб гегемоніі пролетарыята, аб саюзе яго з сялянствам, аб узброеным паўстанні, як галоўным метадзе і сродку сакрушэння царызма, аб немінучасці перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную.

У «Кароткім курсе гісторыі ВКП(б)» дана вычарпальная характарыстыка ўмоў, якія забяспечылі перамогу лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі:

> «Рэвалюцыя перамагла таму, што рабочы клас быў застрэльшчыкам рэвалюцыі і ўзначальваў рух мільённых мас сялян, пераадзетых у салдацкія шынелі—«за мір, за хлеб, за свабоду». Гегемонія пролетарыята абумовіла поспех рэвалюцыі.
>
> «Рэвалюцыю зрабіў пролетарыят, ён праявіў гераізм, ён праліваў кроў, ён пацягнуў за сабою самыя шырокія масы працоўнага і бяднейшага насельніцтва...»,—пісаў Ленін у першыя дні рэвалюцыі (**Ленін,** т. XX, стар. 23—24).
>
> Першая рэвалюцыя 1905 года падрыхтавала быструю перамогу другой рэвалюцыі 1917 года» *).

Перамога лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, наступальны характар барацьбы, амаль маланкавая хуткасць падзей у лютаўскія дні 1917 года былі падрыхтаваны ўсім папярэднім перыядам рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа і шырокіх мас сялянства, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, супроць самадзяржаўя.

У сваім вядомым першым «Пісьме здалёк», напісаным 20 (7) сакавіка 1919 года, Ленін указваў:

> «Без трох год найвялікшых класавых бітв і рэвалюцыйнай энергіі рускага пролетарыята 1905—1907 годаў была-б немагчыма настолькі хуткая, у сэнсе завяршэння яе **пачатковага** этапа, у некалькі дзён, другая рэвалюцыя...
>
> Без рэвалюцыі 1905—1907 годаў, без контр-рэвалюцыі 1907—1914 годаў немагчыма было-б такое дакладнае «самавызначэнне» усіх класаў рускага народа і народаў, насяляючых Расію, вызначэнне адносін гэтых класаў адзін да другога і да царскай манархіі, якое праявіла сябе ў восем дзён лютаўска-сакавіцкай рэвалюцыі 1917 года. Гэтая васьмідзённая рэвалюцыя была, калі дазволена так метафарычна выразіцца, «разыграна» нібы пасля дзесятка галоўных і другарадных рэпетыцый; «акцёры» ведалі адзін другога, свае ролі, свае месцы, сваю абстаноўку ўдоўж і поперак, наскрозь, да ўсякага колькі-небудзь значнага адцення палітычных кірункаў і прыёмаў дзеяння **).

Рэвалюцыя 1905 года была генеральнай рэпетыцыяй і падрыхтоўкай да надыходзячых вялікіх баёў. У гэтай рэвалюцыі большэвіцкая партыя, на чале з Леніным і Сталіным, вучыла рабочы клас майстэр-

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 168—169.
**) **Ленін**, т. XX, стар. 13 і 14.

ству ўзброенага паўстання—вышэйшай форме пролетарскай барацьбы. На вопыце рэволюцыі 1905 года рабочы клас, працоўныя масы нашай краіны накапілі гіганцкі запас рэволюцыйнай боездольнасці.

* * *

Рэволюцыя 1905—1907 гг. не вырашыла пастаўленых перад ёю задач, яна скончылася паражэннем. Але большэвікі ні на мінуту не спынілі сваёй рэволюцыйнай дзейнасці. Яны былі глыбока ўпэўнены ў новым уздыме рэволюцыі і нястомна збіралі сілы рабочага класа.

Першая сусветная імперыялістычная вайна, якая спачатку часова затрымала разгортванне рэволюцыйнага руху, з'явілася ў далейшым магутным паскаральнікам рэволюцыі.

Вайна была народжана капіталізмам, які ўступіў у вышэйшую стадыю свайго развіцця—імперыялізм; яна з'явілася несправядлівай, захватніцкай, рабаўнічай як з боку Англіі, Францыі і Расіі, так і з боку Германіі і яе саюзнікаў. Капіталісты ўсіх краін аднолькава рыхтавалі напад. Яны гналіся за новымі землямі, за новымі прыбыткамі. У той-жа час буржуазія кожнай краіны імкнулася выдаць гэту вайну за «нацыянальную». Падпальшчыкі вайны і іх пасобнікі соцыял-шавіністы крычалі, што яны змагаюцца за бацькаўшчыну. Фразамі аб абароне бацькаўшчыны ў імперыялістычнай вайне яны нагла абманвалі народ.

Вайна знішчала мільёны чалавечых жыццяў. Выключна вялікай была колькасць забітых, раненых, пакалечаных, памёршых ад эпідэмій. Буржуазія і памешчыкі нажываліся на вайне. Але рабочыя і сяляне цярпелі ўсё большыя пакуты і нястаткі. Вайна разбурыла народную гаспадарку Расіі. Каля 14 мільёнаў здаровых работнікаў было ўзята ў армію, адарвана ад гаспадаркі. Фабрыкі і заводы закрываліся. Скараціліся пасевы зярна: нехапала работнікаў. Насельніцтва ў тылу, разутыя і раздзетыя салдаты на фронце галадалі. Вайна пажырала ўсе рэсурсы краіны.

> «Царская армія цярпела паражэнне за паражэннем. Нямецкая артылерыя засыпала царскія войскі градам снарадаў. У царскай арміі нехапала гармат, нехапала снарадаў, нехапала нават вінтовак. Часамі на трох салдат прыходзілася адна вінтоўка. Ужо ў часе вайны раскрылася здрада царскага ваеннага міністра Сухамлінава, які аказаўся звязаным з нямецкімі шпіёнамі. Сухамлінаў выконваў заданне нямецкай разведкі—сарваць снабжэнне фронта снарадамі, не даваць фронту гармат, не даваць вінтовак. Некаторыя царскія міністры і генералы самі цішком садзейнічалі поспехам нямецкай арміі: разам з царыцай, звязанай з немцамі, яны выдавалі немцам ваенныя тайны. Не дзіўна, што царская армія цярпела паражэнне і вымушана была адступаць. К 1916 году немцы паспелі ўжо захваціць Польшчу і частку Прыбалтыкі.
>
> Усё гэта выклікала нянавісць і азлабленне да царскага ўрада сярод рабочых, сялян, салдат, інтэлігенцыі, узмацняла і абвастрала рэволюцыйны рух народных мас супроць вайны, супроць царызма як у тылу, так і на фронце, як у цэнтры, так і на акраінах» *).

*) „Каротки курс гісторыі ВКП(б)", стар. 165—166.

Гэтыя важнейшыя палажэнні «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» можна праілюстраваць наступнымі фактычнымі данымі:

1. Баявыя страты царскай арміі забітымі, пакалечанымі і палоннымі складалі 4.467.860 чалавек, а санітарныя страты раненымі і хворымі—4.269.500 чалавек. Агульная колькасць раненых у часе вайны дасягала пяці мільёнаў чалавек. Колькасць эвакуіраваных раненых за адзін месяц у сярэднім складала: у 1914 г.—73.674, у 1915 г.—70.177, у 1916 г.—82.258 і ў 1917 г. (за першыя 8 месяцаў)—37.598 чалавек. За ўвесь час вайны ў сярэднім за месяц эвакуіравалася 67.524 раненых. Прыведзеныя лічбы сведчаць аб тым, што больш палавіны ўсёй велізарнай колькасці салдат, што знаходзіліся ў арміі к пачатку вайны, а таксама мабілізаваных у часе вайны, выбыла са строю.

Замярзаўшая ў акопах царская армія, прададаная сваімі генераламі, цярпела паражэнне за паражэннем. Але вайне не было канца. Для папаўнення страт у войсках аб'яўлялі ўсё новыя і новыя мабілізацыі. На вайну пачалі браць старыкоў і малалетніх.

Цяжкія паражэнні азлаблялі салдацкія масы. Недарэчнае знішчэнне чалавечых жыццяў, дзікае сваявольства начальнікаў, хаос і цяжкія ўмовы жыцця абуралі нават самых адсталых салдат.

Ад дзікіх жахаў вайны салдаты самавольна ўцякалі з фронта. Ужо ў 1916 годзе царская армія налічвала больш паўтара мільёна дэзерціраў. Чым далей зацягвалася вайна, тым мацней расла нянавісць мас супроць эксплаатататарскіх класаў.

Арганізаванасць у гэты стыхійны пратэст народных мас супроць вайны ўносіла наша большэвіцкая партыя. Яна выкрывала гнусны рэжым самадзяржаўя і асцярожна, але настойліва падводзіла абуджаючыхся салдат да праграмы рэвалюцыйнага дзеяння—**«ператварэння вайны імперыялістычнай у вайну грамадзянскую».**

Гэты лозунг нашай большэвіцкай партыі заклікаў усіх працоўных на барацьбу супроць эксплаататараў. Гэты лозунг азначаў, што рабочыя і сяляне, і перш за ўсё армія, павінны павярнуць зброю супроць самадзяржаўнага ладу, супроць памешчыкаў і буржуазіі, каб звергнуць іх уладу. Гэта патрабавала працягу і ўзмацнення рэвалюцыйнай барацьбы супроць царызма, дыктавала членам партыі—ісці ў армію, вучыцца валодаць зброяй, ператварыць незадаволенне салдат вайной у свядомую барацьбу супроць царскага самадзяржаўя.

Правадыр і арганізатар большэвіцкай партыі В. І. Ленін патрабаваў у вайну 1914—1918 гг., каб рэвалюцыянеры ўсіх краін праводзілі тую-ж палітыку паражэння сваіх імперыялістычных урадаў.

Супроць Леніна ў гады імперыялістычнай вайны змагаліся аказаўшыяся ворагамі народа Троцкі і Бухарын. Яны выступілі супроць ленінскіх лозунгаў ператварэння імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую, супроць палітыкі, разлічанай на ваеннае паражэнне царскага ўрада, супроць расколу з міжнародным апартунізмам. Іх пацыфісцкія лозунгі па сутнасці былі абаронай і прыкрыццём імперыялізма.

2. Вайна асыпала капіталістаў залатым дажджом. Па падліках афіцыяльнага «Вестника финансов», толькі па 142 найбольш важных тэкстыльных прадпрыемствах прыбытак капіталістаў узрос з 60 млн. у 1913 годзе да 174 млн. у 1915. Ільняная прамысловасць у 1915 годзе атрымала прыбытку ўтрая больш, чым да вайны. З той-жа крыніцы відаць, што падаткі на капіталістаў усё больш змяншаліся прапарцыянальна прыбытку з валавой прадукцыі.

У той час, як прыбытак прадпрыемцаў шалёна рос, вытворчасць пачала скарачацца, нават у галінах, непасрэдна звязаных з работай на вайну. У 1913 годзе ў Расіі было здабыта 282.960 тыс. пудоў чыгуну, 246.550 тыс. пудоў жалеза і сталі і 2.199,3 млн. пудоў каменнага вугалю, а ў 1916 годзе чыгуну было здабыта 231.860 тыс. пудоў, жалеза і сталі 205.860 тыс. пудоў і каменнага вугалю—2.096,17 млн. пудоў. К пачатку 1917 года выпрацоўка чыгуну скарацілася на 19 проц., жалеза і сталі—на 16.

У выніку прыстасавання прамысловасці да патрэб вайны, прамысловыя прадпрыемствы, непасрэдна не звязаныя з работай на вайну (апрацоўка дрэва, каменю, паперы і т. д.), ужо к 1916 году скарацілі сваю вытворчасць увогуле на 21,9 процанта.

3. Катастрафічна расла колькасць неперавезеных грузаў. Ужо ў другой палове 1914 года яна складала 84 тыс. вагонаў. У першым паўгоддзі 1916 года гара неперавезеных грузаў вырасла да 127 тыс. вагонаў. Скарацілася і амаль знікла вытворчасць сродкаў вытворчасці для прамысловасці і сельскай гаспадаркі. Капіталісты, ганяючыся за новымі прыбыткамі, імкнуліся замест недастаючых машын і механізмаў выкарыстаць жывую рабочую сілу. Яны ўзмацнялі націск на рабочы клас, павялічваючы рабочы дзень, пагаршаючы ўмовы працы, пагражаючы рабочым за кожнае выражэнне незадаволенасці высылкай на фронт або беспрацоўем.

4. Адсталая сельская гаспадарка царскай Расіі не магла даць краіне патрэбнай колькасці хлеба. Вёска збяднела канчаткова, бо вайна адабрала ў яе работнікаў, мабілізавала 20 мільёнаў коней, у выніку скарацілася пасеўная плошча, расла колькасць беспасеўных гаспадарак. Запасы хлеба, што яшчэ засталіся ў краіне ад ураджаю мінулых год, нельга было перакінуць, куды трэба, з-за распаду транспарта. На гэтай глебе расла спекуляцыя хлебам. Ужо к канцу 1915 г. цэны на хлеб узраслі больш чым утрая. Насельніцтва і салдаты на фронце галадалі, а спекулянты і кулакі нажываліся, прадаючы хлеб па высокай цане. Спажыванне насельніцтва за першы год вайны скарацілася на 25,3, за другі год—на 45,3 і за трэці год—на 53,6 проц. Пакупальная здольнасць рубля падала. Найбольш цярпелі ад гэтага рабочыя, бо рэальная заработная плата іх моцна знізілася. Так, ужо ў першыя паўтара годы вайны цэны ўзняліся на 50 проц., а заработная плата ўсяго толькі на 19. Сярэдняя заработная плата металістаў з 1914 па 1916 гг. павысілася на 50 проц., а прадукты спажывання к гэтаму часу падаражэлі на 300 проц.

Вывад:

Гаспадарчая разруха і голад у краіне, выключная непапулярнасць вайны сярод працоўных мас і салдат на фронце, усеагульнае нездаволенне царызмам, нябачанае абвастрэнне класавай барацьбы пралетарыята супроць буржуазіі выклікалі ўзмацненне сацыяльных супярэчнасцей і рост рэвалюцыйнага руху ў краіне і арміі.

Уступаючы ў імперыялістычную вайну 1914 года, рускі царызм разлічваў задушыць нарастаючы рэвалюцыйны рух. Але ён жорстка праліčыўся. Барацьба рабочых не спынялася. Рабочы рух у годы вайны безупынна рос, прымаючы пад кіраўніцтвам бальшэвікоў рэзка акрэслены палітычны характар. Нават у пачатку вайны стачкі не спыняліся. Так, у жніўні 1914 года (у самым пачатку вайны) у стачках прымала ўдзел 25 тыс. чалавек. У 1915 годзе было 928 забастовак, у якіх удзельнічала каля 540 тыс. чалавек. У 1916 годзе было каля 1.600 стачак, у якіх прымала ўдзел да 1.300.000 чалавек, пры-

чым 56 проц. гэтых стачак насіла палітычны характар. У 1917 г. (студзень—люты) было 1.360 забастовак, з якіх 1.140 палітычных. У студзені—лютым 1917 г. у палітычных стачках удзельнічала 574.805 чалавек.

Самадзяржаўе было бяссільна ў барацьбе з узрастаючым рэвалюцыйным рухам. Усёй сваёй палітыкай царскі ўрад паскараў ход падзей і набліжаў рэвалюцыйны выбух. Пагроза новай рэвалюцыі ўзнікла перад пануючымі класамі ва ўсёй рэальнасці.

* * *

Каб не дапусціць да рэвалюцыі, царскі ўрад прабаваў заключыць сепаратны мір з Германіяй. У 1916 г. пытанне аб сепаратным міры абмяркоўвалася ў Стакгольме паміж дырэктарам Германскага банка Варбургам і будучым міністрам унутраных спраў Пратапопавым, які ў ліпені 1916 г. дакладваў цару Нікалаю II аб характары гэтых перагавораў. Перагаворы аб сепаратным міры вяліся таксама і ў лютым 1917 г. паміж чынамі рускага і аўстрыйскага міністэрстваў замежных спраў.

Узмоцненыя спробы Германіі заключыць сепаратны мір з Расіяй былі накіраваны на тое, каб адкалоць яе ад саюза з Англіяй, якая з'яўлялася галоўным імперыялістычным сапернікам Германіі, і гэтым самым развязаць сабе рукі для працягу барацьбы з Англіяй, і Францыяй. Вядома, напрыклад, што яшчэ ў сярэдзіне студзеня 1917 г. руская армія стрымлівала на сваім фронце 187 дывізій праціўніка, што складала 49 проц. усіх яго сіл, якія дзейнічалі на еўрапейскіх і азіяцкіх фронтах.

Царскі ўрад улічваў, што сепаратныя дзеянні немінуча выклічуць негадаванне як у асяроддзі саюзнікаў (Англія, Францыя), так і рускай імперыялістычнай буржуазіі, для якой сепаратны мір з Германіяй азначаў крах надзей атрымаць Канстанцінопаль, Дарданелы і страціць велізарныя барышы ад вайны. Самадзяржаўе баялася гэтага негадавання.

У артыкуле «Паварот у сусветнай палітыцы», напісаным Леніным у студзені 1917 года, аб баязні Нікалая II страціць царскую карону ў сувязі з падпісаннем сепаратнага міру, сказана наступнае:

> «Цар мог сказаць Вільгельму: «калі я адкрыта падпішу сепаратны мір, то заўтра табе, о мой аўгусцейшы контрагент, прыдзецца, бадай, мець справу з урадам Мілюкова і Гучкова, калі не Мілюкова і Керэнскага. Бо рэвалюцыя расце, і я не ручаюся за армію, з генераламі якой перапісваецца Гучкоў» *).

Такім чынам В. І. Ленін за два месяцы да лютаўскіх падзей прадсказаў, хто персанальна можа стаць на чале буржуазнага ўрада, калі буржуазія захваціць уладу.

Інтарэсы самазахавання прымусілі царызм сканцэнтраваць сваю барацьбу на ўнутраным фронце. Для ажыццяўлення свайго плана царскі ўрад меў спачатку намер распусціць буржуазныя арганізацыі, каб зрабіць буржуазію больш паслухмянай. 9-га снежня 1916 года былі закрыты з'езды Саюза гарадоў і земстваў. Забараняліся нават самыя нявінныя ў адносінах да палітыкі сходы. 11 снежня быў забаронен сход таварыства дзеячоў перыядычнага друку, а затым— таварыства дзіцячых урачоў. Царызм намерваўся распусціць і IV

---

*) Ленін, т. XIX, стар. 380—381.

Дзяржаўную думу, якая стаяла супроць заключэння сепаратнага міру, разлічваючы на тое, каб, не спыняючы вайны, узмацніць барацьбу з нарастаючай рэвалюцыяй і папярэдзіць яе невялікім дварцовым пераваротам.

Руская буржуазія бачыла, што царскі ўрад Нікалая Раманава не здолен паспяхова весці вайну, што ён можа праіграць яе і пайсці на заключэнне сепаратнага міру з немцамі. Таму яна замышляла ўчыніць дварцовы пераварот: скінуць Нікалая II і пасадзіць на прастол свайго стаўленіка—Міхаіла Раманава. Змоўшчыкі хацелі захваціць Нікалая II у часе яго паездкі на фронт або ў Петраградзе і прымусіць яго адмовіцца ад прастола на карысць свайго брата Міхаіла. Такім чынам буржуазія хацела і захаваць самадзяржаўе, і ў той-жа час зрабіць яго паслухмянай зброяй у сваіх руках.

У змове ўдзельнічалі дзеячы Чацвертай дзяржаўнай думы: старшыня думы—буйны памешчык Радзянка, князь Львоў, кіраўнік партыі кадэтаў Мілюкоў, буйны прамысловец Гучкоў і іншыя вараціла фінансавага і прамысловага капітала.

У арганізацыі дварцовага перавароту руская імперыялістычная буржуазія знайшла поўнае падтрыманне з боку ўрадаў Англіі і Францыі.

> «Яны бачылі, што цар няздолен прадаўжаць вайну. Яны баяліся, што цар скончыць справу сепаратным мірам з немцамі. Калі-б царскі ўрад заключыў сепаратны мір, урады Англіі і Францыі страцілі-б у асобе Расіі саюзніка ў вайне, які не толькі адцягваў на свае фронты сілы праціўніка, але і пастаўляў ва Францыю дзесяткі тысяч адборных рускіх салдат. Таму яны аказалі падтрыманне рускай буржуазіі ў яе спробах зрабіць дварцовы пераварот.
>
> Цар аказаўся, такім чынам, ізаляваным» *).

Урады Англіі і Францыі праз сваіх паслоў у Расіі, Б'юкенена і Палеалога, падштурхоўвалі рускую буржуазію на хутчэйшае ажыццяўленне дварцовага перавароту, разлічваючы на тое, што такім шляхам удасца папярэдзіць рэвалюцыю і зрабіць Расію боездольным саюзнікам. Аб гэтым зусім адкрыта прызнаецца англійскі пасол Джордж Б'юкенен. У сваіх успамінах ён заяўляе, што пытанне ад дварцовым перавароце змоўшчыкі абмяркоўвалі ў яго пасольстве.

Цішком падрыхтоўваючы дварцовы пераварот, руская буржуазія спадзявалася, што вестка аб замене аднаго цара другім супакоіць народныя масы, адцягне іх ад рэвалюцыі і такім чынам дасць ёй магчымасць рушыць салдат у наступленне супроць германцаў і аўстрыйцаў, каб закончыць вайну з выгадамі для буржуазіі.

Але планы буржуазіі праваліліся. Народныя масы не хацелі больш цярпець самадзяржаўя. Гнеў іх дасягнуў свайго найвышэйшага пункту і разразіўся рэвалюцыйнай бурай. Паўстаўшы народ змёў абедзве змовы супроць рэвалюцыі разам з прагніўшым царызмам.

Руская буржуазія і саюзныя ўрады Англіі і Францыі, больш за ўсё баючыся рэвалюцыі, былі нездаволены палітыкай Нікалая II, які аказаўся няздольным паспяховым весці вайну. Іх таксама азлабляла і тое, што пры двары Нікалая гаспадарылі такія прайдохі і мракабесы, як Распуцін, у якім найбольш яркае сваё выражэнне знайшлі ізуверства, разумовае ўбоства і маральнае гніенне, характэрныя для

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 166.

рэжыму Раманавых. А Распуцін і яму падобныя яўна вялі лінію на заключэнне сепаратнага міру з Германіяй. Вось чаму **«27 лютага ўсе класы аказаліся разам супроць манархіі» *).**

Класічную характарыстыку ўдзелу розных класавых сіл у лютаўска-сакавіцкай рэвалюцыі дае таварыш Сталін. На VI з'ездзе бальшэвіцкай партыі ён па гэтаму поваду гаварыў:

> «З чаго пайшла рэвалюцыя? З кааліцыі 4-х сіл: пролетарыята, сялянства, ліберальнай буржуазіі і саюзнага капітала. Чаму ішоў на рэвалюцыю пролетарыят? Таму, што ён—смяротны вораг царызма. Чаму ішло сялянства? Яно давярала пролетарыяту, і яно прагнула зямлі. Чаму ішла ліберальная буржуазія? Таму, што яна ў ходзе вайны расчаравалася ў царызме. Яна думала, што царызм дасць ёй магчымасць заваяваць новыя землі. Не спадзеючыся на павелічэнне ёмкасці ўнутранага рынку, яна выбрала шлях найменшага супраціўлення: шлях расшырэння знешняга рынку. Але яна памылілася: царызм і яго войскі не змаглі нават аградзіць граніцы і аддалі праціўніку 15 губерній. Адсюль—здрада ліберальнай буржуазіі царызму. А саюзны капітал? Ён глядзеў на Расію, як на падсобнае прадпрыемства для сваіх імперыялістычных мэт. Між тым царызм, які першыя 2 годы падаваў надзеі на захаванне адзінства фронта, стаў схіляцца да сепаратнага міру. Адсюль—здрада саюзнага капітала царызму.
>
> Царызм аказаўся ізаляваным і ціха і спакойна памёр.
>
> Гэтыя чатыры сілы Лютаўскай рэвалюцыі, што ішлі разам, мелі розныя мэты. Ліберальная буржуазія і саюзны капітал хацелі маленькай рэвалюцыі для вялікай вайны. Але маса рабочых і сялян ішла не для гэтага на рэвалюцыю. У іх былі іншыя мэты: 1) пакончыць з вайной і 2) перамагчы памешчыкаў і буржуазію.
>
> Вось асновы процілегласці» **).

З гэтых указанняў таварыша Сталіна відаць, што ўсе класы, якія ўдзельнічалі ў рэвалюцыі, удзельнічалі кожны па рознаму і ў кожнага класа былі свае асобныя інтарэсы ў гэтай рэвалюцыі. Рухаючымі сіламі лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі былі пролетарыят і сялянства. Пролетарыят у той-жа час быў не толькі рухаючай сілай,—ён з'яўляўся гегемонам, правадыром рэвалюцыі. Буржуазія-ж зусім не хацела гібелі царскай манархіі, а наадварот—прыкладала ўсе намаганні, каб выратаваць яе.

* * *

Неабходна хоць-бы каротка спыніцца на падзеях, непасрэдна звязаных са звяржэннем ненавіснага царскага самадзяржаўя.

1917 год пачаўся стачкай 9 студзеня ***), прыўрочанай да гадавіны расстрэлу рабочай дэманстрацыі («Крывавая нядзеля») у 1905 годзе. У гэты дзень пад кіраўніцтвам бальшэвікоў рабочыя на многіх фабрыках і заводах арганізавалі мітынгі, а таксама дэманстрацыі на ву-

*) Ленін, т. XXI, стар. 35. (Падкрэслена намі.—*І. С.*)

**) „Пратаколы VI з'езда РСДРП(б), стар. 107, Партвыдат, 1934.

***) Усе даты лютаўскіх падзей указаны па старому стылю (старому календару) прынятаму ў Расіі да Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі. Лічбы месяцаў па старому календару адставалі ад міжнароднага календара на 13 дзён.

ліцах. Дэманстрацыі рабочых адбываліся ў Пецербургу, Маскве, Баку, Ніжнім-Ноўгарадзе. Маскоўскі камітэт большэвікоў, па дырэктыве бюро Цэнтральнага Камітэта, арганізаваў двухтысячную дэманстрацыю на Тверскім бульвары, якая была разагнана коннай паліцыяй. У Петраградзе на Выбаргскім шасе разам з рабочымі прымалі ўдзел у дэманстрацыі і салдаты. Забастоўкі і дэманстрацыі, праведзеныя ў гэты дзень пад кіраўніцтвам большэвікоў, вызначылі далейшы рост рэволюцыйных падзей і паказалі, які велізарны ўплыў мае большэвіцкая партыя на масы рабочых. Усяго за студзень месяц 1917 года баставала ў краіне звыш 200 тысяч рабочых. Такога магутнага забастовачнага руху яшчэ не было за ўвесь час вайны.

«Ідэя ўсеагульнай стачкі,—даносіла паліцыя,—з дня на дзень набывае новых староннікаў і становіцца папулярнай, якой яна была і ў 1905 годзе».

Меншавікі і эсэры выступалі ў ролі гасіцеляў рэволюцыйнага пажару. Яны ўсімі сіламі імкнуліся ўвесці пачаўшыйся рэволюцыйны рух у рамкі, выгадныя ліберальнай буржуазіі. 14 лютага павінна была адкрыць свае паседжанні IV Дзяржаўная дума. Меншавікі і эсэры заклікалі падтрымаць гэтую Думу, згуртавацца вакол яе, арганізаваць шэствіе рабочых да Дзяржаўнай думы ў дзень яе адкрыцця.

У процівагу меншавікам, большэвікі рыхтавалі дэманстрацыю на 10 лютага—у дзень другой гадавіны суда над большэвіцкай фракцыяй Думы. Яшчэ за чатыры дні да гэтай гадавіны Пецербургскі камітэт большэвікоў звярнуўся да рабочых з заклікам адзначыць гэту гадавіну мітынгамі і стачкамі, выступіць супроць вайны і самадзяржаўя. 10 лютага па закліку большэвікоў рабочыя кінулі работу. Адбыліся мітынгі, на якіх выступалі з прамовамі большэвіцкія аратары. Большэвікі распаўсюдзілі ў гэты дзень дзесяць тысяч лістовак.

Большэвікі рашылі выкарыстаць і 14 лютага, заклікаўшы пралетарыят на дэманстрацыю ў знак пратэсту супроць рэакцыйнай Думы. У гэты дзень у Петраградзе баставала 60 прадпрыемстваў з дзесяткамі тысяч рабочых. Рух выліўся ў дэманстрацыю, якая прайшла пад лозунгамі: «Далоў самадзяржаўе! Далоў вайну!» Рабочыя аказалі рашучы адпор паліцыі, якая прабавала разагнаць дэманстрантаў.

18 лютага пачалі забастоўку рабочыя Пуцілаўскага завода, а 22 лютага да іх далучыліся рабочыя большасці буйнейшых прадпрыемстваў Петраграда. Адначасова ў Петраградзе адбываліся вялікія харчовыя хваляванні.

23 лютага, у Міжнародны жаночы дзень большэвікі заклікалі рабочых да новай дэманстрацыі і забастоўкі. Усяго ў гэты дзень забаставала 50 прадпрыемстваў з колькасцю 87.543 рабочых. На большасці фабрык і заводаў адбываліся мітынгі, на якіх выступалі большэвікі з заклікам весці рашучую барацьбу супроць вайны, голаду, царызма. Забастовачны рух рабочых пачаў перарастаць у палітычныя дэманстрацыі супроць царызма. Пасля мітынгаў, прысвечаных Міжнароднаму жаночаму дню, масы рабочых і работніц рушылі на дэманстрацыю з транспарантамі, заклікаючымі звергнуць самадзяржаўе. Конныя і пешыя гарадавыя ўсяляк імкнуліся разагнаць дэманстрантаў. У радзе раёнаў Петраграда адбываліся сутычкі рабочых і работніц з паліцыяй.

24 лютага бюро Цэнтральнага Камітэта партыі большэвікоў

дало дырэктыву падрыхтаваць усеагульную стачку, усямерна развіваць і паглыбляць рэволюцыйны рух, уцягваць у яго салдацкія масы. У гэты дзень дэманстрацыя аднавілася з новаю сілай. Рабочыя выступілі пад чырвонымі сцягамі з лозунгамі: «Далоў цара!» «Хлеба!» «Далоў вайну!». Па няпоўных падліках старой статыстыкі ў забастоўцы ўдзельнічала ў той дзень 197 тысяч рабочых.

Дзень 25 лютага характарызуецца пераходам палітычных стачак па раёнах ва ўсеагульную палітычную забастоўку па ўсяму Петраграду. Баставала ўжо звыш 250 тысяч рабочых. У гэты-ж дзень бюро Цэнтральнага Камітэта большэвіцкай партыі выпусціла адозву, фармулюючую палітычныя задачы руху, заклікаючую рабочых і салдатператварыць выступленне ў апошнюю і рашучую бітву з царызмам. Бюро Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, узначальваемае слаўным саратнікам таварыша Сталіна—В. М. Молатавым, кіравала ўсёй практычнай работай партыі па арганізацыі мас на барацьбу за звяржэнне самадзяржаўя. Большэвікі кіравалі рэволюцыйным рухам, трымаючы цесную сувязь з шырокімі масамі. Яны напружвалі ўсе сілы к таму, каб выклікаць адкрытае выступленне войск на старане народа. Работа большэвікоў сярод салдат дала свае плады: у казармах ішло глухое бражэнне, усё часцей паўтараліся выпадкі адмаўлення салдат праліваць кроў рабочых.

Гераічная барацьба петраградскіх рабочых і работніц прыцягнула і салдат на бок рэволюцыі. Рабочыя і ў асаблівасці работніцы акружалі салдат, хваталіся за штыкі вінтовак і ўгаварвалі не страляць. Стойкасць і самаадданасць рабочых унесла хістанне ў салдацкія масы, рэволюцыянізавала іх. Нават казакі ў асобных выпадках актыўна выступалі супроць паліцыі ў абарону рабочых. Калі на адной з плошчаў Петраграда паліцэйскі прыстаў ударыў шабляй работніцу, якая несла чырвоны сцяг, то да прыстава ў той-жа момант падскочыў казак і зарубіў яго. 25 лютага казакі прымусілі ўцякаць паліцэйскіх, якія прабавалі разагнаць дэманстрацыю рабочых на Знаменскай плошчы. Ля Казанскага сабора ўзвод 4 Данскога казацкага палка вызваліў затрыманых грамадзян і пабіў гарадавых, абараняўшых двор з арыштаванымі.

Сутычкі рабочых з паліцыяй станавіліся ўсё часцей і энергічней. Усеагульная стачка, што пачалася пад кіраўніцтвам большэвікоў, перарастала ва ўзброенае паўстанне. Наступіў момант, аб якім В. І. Ленін яшчэ ў 1906 годзе прароча пісаў у сваім артыкуле «Урокі маскоўскага паўстання»:

> «Будзем памятаць, што блізіцца вялікая масавая барацьба. Гэта будзе ўзброенае паўстанне. Яно павінна быць, па магчымасці, адзіначасова. Масы павінны ведаць, што яны ідуць на ўзброеную, крывавую, адчайную барацьбу. Пагарда да смерці павінна распаўсюдзіцца ў масах і забяспечыць перамогу. Наступленне на ворага павінна быць самае энергічнае; нападзенне, а не абарона, павінна стаць лозунгам мас, бязлітаснае знішчэнне ворага—стане іх задачай; арганізацыя барацьбы складзецца рухавая і гібкая; хістаючыяся элементы войска будуць уцягнуты ў актыўную барацьбу. Партыя свядомага пролетарыята павінна выканаць свой абавязак у гэтай вялікай барацьбе»*).

*) Ленін, т. X, стар. 53.

Прадбачанне Владзіміра Ільіча збылося ў лютаўскія дні 1917 года. Рабочыя, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі, праявілі геразм, бясстрашнасць у барацьбе супроць самадзяржаўя. Стойкасць і геразм рабочых выклікалі спачуванне і падтрымку рэволюцыі з боку салдат. І хоць увечары 25 лютага генералам Хабалавым, які камандаваў Петраградскай ваеннай акругай, была атрымана з горада Магілева ад Нікалая ІІ ґрозная тэлеграма, у якой прапанавалася «...заўтра-ж спыніць у сталіцы непарадкі», усё-ж генералу Хабалаву не ўдалося выканаць загад свайго цара.

26 лютага па ўсяму Петраграду праходзілі магутныя дэманстрацыі. Не гледзячы на абстрэл, рабочыя прарываліся ў цэнтр горада, яны абяззбройвалі паліцэйскіх і жандармаў і ўзбройваліся самі. На Знаменскай плошчы адбылася даволі буйная сутычка з паліцыяй. Сутычка закончылася расстрэлам дэманстрацыі. Па справцы ахраннага аддзялення, на гэтай плошчы было падабрана каля 40 забітых і столькі-ж раненых, не лічачы тых, якіх дэманстранты паспелі забраць з сабою.

У той-жа дзень адбылася падзея, якая вельмі ўстрывожыла ўрадавыя колы. 4 рота запаснога батальёна Паўлаўскага палка, распрапагандаваная большэвікамі, абстраляла конны атрад гарадавых, якія збівалі дэманстрантаў. Ашалелыя афіцэры арыштавалі 19 салдат-зачыншчыкаў і пасадзілі іх у Трубецкі бастыён Петрапаўлаўскай крэпасці. Арыштаваным пагражаў расстрэл. У той-жа час 21 салдат не вярнуўся ў казармы. Яны са зброяй у руках перайшлі на бок народа.

Выступленне паўлаўцаў з'яўлялася паказчыкам росту рэволюцыйных настрояў у арміі, пачаткам арганізаванага пераходу салдат на бок рэволюцыі.

26 лютага за подпісам Цэнтральнага Камітэта партыі большэвікоў быў выпушчан маніфест з заклікам да працягу барацьбы, да ўзброенага выступлення і звяржэння царызма, да стварэння часовага рэволюцыйнага ўрада з рабочых і сялян. Маніфест выражаў цвёрдую ўпэўненасць у поўнай перамозе рэволюцыі. У ім было сказана:

> «...Цвярдыні рускага царызма палі. Раскошнае жыццё царскай шайкі, пабудаванае на касцях народа, рухнула. Сталіца ў руках паўстаўшага народа. Часці рэволюцыйных войск сталі на бок паўстаўшых...
>
> Велізарнымі намаганнямі, крывёй і жыццямі рускі народ страхнуў з сябе спрадвечнае рабства»*).

У гэты-ж час Выбаргскі раённы камітэт, які пасля арышту Пецербургскага камітэта (арышт адбыўся ў ноч на 26 лютага) кіраваў рухам, вынес рашэнне аб разгортванні рэволюцыйнай барацьбы, аб захопе складаў са зброяй і ўзбраенні рабочых.

Расстрэл дэманстрантаў паліцыяй 26 лютага не толькі абвастрыў нянавісць і прагнасць перамогі ў рабочых, але і ўнёс моцнае рэволюцыйнае бражэнне ў салдацкія масы. Усю ноч на 27 лютага салдаты горача абмяркоўвалі падзеі мінулых дзён і рашалі пытанне: на чыім баку павінна быць армія. А з надыходам дня 27 лютага войскі ў Петраградзе адмовіліся страляць у рабочых і самі пачалі пераходзіць на бок рэволюцыі. Калі 26 лютага ў паўстанні ўдзельні-

*) Ленін, т. XX, стар. 600.

чала 600 салдат, то ўжо раніцай 27 лютага да паўстання далучылася 10 тысяч, а ўвечары—звыш 60 тысяч. К вечару 28 лютага да паўстаўшых рабочых далучылася 127 тысяч салдат, а днём 1 сакавіка—каля 170 тысяч.

Першым на бок рэвалюцыі перайшоў Валынскі полк: салдаты цвёрда рашылі не страляць у паўстаўшых рабочых. Сярод валынцаў паявіліся рабочыя і павялі паўстаўшых салдат на вуліцу. З чырвонымі сцягамі, з крыкамі «ўра» валынцы накіраваліся да суседніх палкоў—Прэабражэнскага і Літоўскага. Прэабражэнцы і літоўцы забілі сваіх камандзіраў і далучыліся да валынцаў. Узброеная маса ў колькасці ўжо трох палкоў рушыла да Выбаргскага раёна—галоўнага ачага Петраградскага ўзброенага паўстання.

Рабочыя Выбаргскага раёна разам з паўстаўшымі салдатамі накіраваліся ў цэнтр горада, дзе захвацілі арсенал і раздалі каля 40 тыс. вінтовак. Тут-жа сталі фарміравацца атрады Чырвонай гвардыі, пачаліся арышты царскіх міністраў і генералаў і знішчэнне раскіданых па гораду паліцэйскіх засад. Петрапаўлаўская крэпасць і турмы былі разгромлены. Вызваленыя сотні актыўных рэвалюцыянераў атрымалі магчымасць адразу-ж уключыцца ў справу рэвалюцыйнай барацьбы. Рух захваціў усе раёны Петраграда. Ён ператварыўся ў рэвалюцыю, якая ўзброенай рукою звяргае царызм.

28 лютага ўжо ўвесь Петраград быў у руках рэвалюцыі. Рабочыя ў саюзе з сялянамі, адзетымі ў салдацкія шынелі, атрымалі перамогу над царызмам. Вестка аб рэвалюцыі ў Петраградзе пранеслася па ўсёй краіне. Па прыкладу сталіцы, рабочыя і салдаты іншых гарадоў і на фронце сталі звяргаць царскіх чыноўнікаў. Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя перамагла. Пакінуты усімі, Нікалай II прымушан быў адмовіцца ад прастола за сябе і за свайго сына. Праз некалькі дзён цар быў арыштован.

Такім чынам лозунгі большэвіцкай партыі аб ператварэнні імперыялістычнай вайны ў вайну грамадзянскую і аб звяржэнні царызма ажыццявіліся ў лютым 1917 года. Перамога рэвалюцыі была забяспечана, дзякуючы гераізму паўстаўшых рабочых, а таксама сялянскіх мас, пераадзетых у салдацкія шынелі, дзякуючы гегемоніі пролетарыята ў рэвалюцыі і чоткай лініі большэвіцкай партыі.

Партыя Леніна—Сталіна непасрэдна кіравала барацьбой рабочых і салдацкіх мас, і гэта забяспечыла поспех рэвалюцыі.

> «Факт кіраўніцтва або па крайняй меры беззаветнай дапамогі пецербургскім рабочым у вялікія дні рэвалюцыі з боку нашай партыі павінен быў прызнаць «сам» англійскі гучковец» *).

Не гледзячы на жорсткі тэрор царызма, наша большэвіцкая партыя правяла вялікую работу ў арміі, арганізоўвала рэвалюцыйныя выступленні рабочага класа. Воля большэвіцкай партыі ў звяржэнні царскага самадзяржаўя была надзвычай вяліка.

* * *

У той час як рабочыя і салдаты, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, звяргалі ненавісны царызм і знішчалі корні манархіі, буржуазія прымала ўсе меры, каб дзяржаўная ўлада не трапіла ў рукі рабочых і сялян. Яна імкнулася шляхам лоўкага манеўра захаваць манархічны спосаб праўлення. Калі 27 лютага стала вядома аб тым, якога

*) Ленін, т. XX, стар. 25.

размаху дасягнуў рабочы рух і як многа воінскіх часцей перайшло на бок рэволюцыі, ліберальныя дэпутаты IV Дзяржаўнай думы, дагаварыўшыся тайна з эсэра-меншавіцкімі лідэрамі, стварылі Часовы камітэт Дзяржаўнай думы для «устанаўлення парадку ў Петраградзе і для зносін з установамі і асобамі».

У гэты часовы камітэт увайшлі:старшыня Думы памешчык і манархіст Радзянка (ён-жа быў высунут старшынёй Часовага камітэта), рэдактар чорнасоценнай газеты і я́ры манархіст Шульгін, ідэолаг буржуазіі прафесар Мілюкоў, тэкстыльны фабрыкант мільянер Канавалаў, багаты землеўладальнік князь Львоў, адвакат эсэр Керэнскі, кіраўнік меншавіцкай фракцыі ў IV думе Чхеідзе і іншыя.

Для характарыстыкі састава Часовага камітэта даволі напомніць такія факты: 26 лютага, калі рэволюцыйны рух у сталіцы атрымаў даволі шырокі размах, старшыня Дзяржаўнай думы Радзянка тэлеграфаваў цару: «Становішча сур'ёзнае. У сталіцы анархія... на вуліцах адбываецца беспарадкавая страляніна. Часці войск страляюць адна ў другую. Неабходна безадкладна даручыць асобе, якая карыстаецца давер'ем краіны, скласці новы ўрад. Марудзіць нельга. Усякае запаволенне смерці падобна. Малю бога, каб у гэты час адказнасць не пала на венцаносца».

Аб манархічных настроях Радзянка сведчыць і яго размова з другім дэпутатам Думы—Шульгіным у момант утварэння Часовага камітэта Дзяржаўнай думы: «Ніякай рэволюцыі я не рабіў і не хачу рабіць. Калі яна зрабілася, то іменна таму, што нас не слухаліся. Але я не рэволюцыянер. Супроць вярхоўнай улады я не пайду. Не хачу ісці».

Манархіст Шульгін у сваіх успамінах так перадаў свой настрой і настрой іншых членаў Дзяржаўнай думы ў момант утварэння Часовага камітэта:

> «Кулямётаў—вось чаго мне хацелася, бо я адчуваў, што толькі мова кулямётаў даступна вулічнаму натоўпу, і што толькі яна, свінец, можа загнаць назад у яго бярлогу вырваўшагася на свабоду страшнага звера... Увы—гэты звер быў... яго вялікасць рускі народ!..
>
> Тое, чаго мы так баяліся, чаго ва што-б там ні стала хацелі пазбегнуць, ужо было фактам. Рэволюцыя пачалася» *).

Варта адзначыць, што ў прыведзеных успамінах Шульгіна выказаны пачуцці і настроі ўсёй перапалоханай рэволюцыяй буржуазіі. Гэта пацвярджае тое палажэнне, што буржуазія імкнулася выкарыстаць сваю ўладу для разгрому рэволюцыі і ўстанаўлення манархіі. Пацвярджаецца гэта таксама і тым, што часовы буржуазны ўрад тайком ад народных мас 2 сакавіка 1917 года пасылаў Гучкова і Шульгіна да цара для перагавораў аб перадачы ўлады брату Нікалая Раманава—Міхаілу Раманаву.

> «Але калі на мітынгу чыгуначнікаў Гучкоў закончыў сваю прамову воклічам «Няхай жыве імператар Міхаіл», то рабочыя патрабавалі неадкладнага арышту і вобыску Гучкова, гаворачы з абурэннем: «Хрэн за рэдзьку не саладзей».
>
> Было ясна, што рабочыя не дазволяць аднавіць манархію» **).

Аналагічнае выступленне Мілюкова на мітынгу салдат выклікала

*) „Гісторыя грамадзянскай вайны ў СССР", стар. 70—72.
**) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 173.

абурэнне ў гарнізоне. Бачачы размах руху паўстаўшых рабочых і салдат, Міхаіл Раманаў палічыў за лепшае адмовіцца ад прастола. Пад напорам рабочых мас 9 сакавіка быў арыштован Нікалай II разам з яго сям'ёю. Хутка сям'я Раманавых была адпраўлена ў Табольск.

* * *

У першыя-ж дні Лютаўскай рэвалюцыі, па прыкладу рэвалюцыі 1905 года, былі створаны Советы. Першыя Советы рабочых дэпутатаў паявіліся ў рэвалюцыйныя дні 1905 года, як прадукт творчасці рэвалюцыйнага пролетарыята, рэвалюцыйнага народа. Гэта была новая магутная зброя, якая з'яўлялася «**правобразам** Совецкай улады, створанай пролетарыятам пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі ў 1917 годзе» *).

Ужо рэвалюцыя 1905 года паказала, якое велізарнае значэнне маюць Советы, як органы ўзброенага паўстання і ў той-жа самы час як зародышы сапраўды рэвалюцыйнай улады.

> «Ідэя Советаў жыла ў сазнанні рабочых мас, і яны яе ажыццявілі на другі-ж дзень пасля звяржэння царызма з той, аднак, розніцай, што ў 1905 годзе былі створаны Советы толькі **рабочых** дэпутатаў, а ў лютым 1917 года па ініцыятыве большэвікоў паявіліся Советы **рабочых** і **салдацкіх** дэпутатаў **).

Советы рабочых і салдацкіх дэпутатаў з'яўляліся на справе советамі рабочых і сялянскіх дэпутатаў, бо салдаты ў пераважнай сваёй масе з'яўляліся сялянамі, пераадзетымі з прычыны вайны ў салдацкія шынелі.

Рэвалюцыйны народ чакаў ад Советаў, як органаў народнай улады, ажыццяўлення сваіх патрабаванняў і, перш за ўсё, спынення імперыялістычнай вайны. Але лідэры меншавікоў і эсэраў, засеўшы ў Выканкоме Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, тайком дагаварыліся з буржуазіяй аб добраахвотнай перадачы ей улады. Яны дабіліся адабрэння гэтага здрадніцкага акта ад большасці дэпутатаў совета, не гледзячы на рашучыя пярэчанні і пратэсты большэвікоў. Такім чынам, здраднікі рэвалюцыі—меншавікі і эсэры—далі магчымасць буржуазіі стварыць свой буржуазны Часовы ўрад.

Галоўнай асаблівасцю Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, яе нябачанай у гісторыі своеасаблівасцю з'яўлялася двоеўладдзе, якое стварылася ў першыя дні рэвалюцыі. Сутнасць двоеўладдзя заключалася ў тым, што ў краіне існавалі два ўрады, дзве дыктатуры: дыктатура буржуазіі ў асобе Часовага ўрада, які быў сапраўдным урадам буржуазіі, і дыктатура пролетарыята і сялянства ў асобе Советаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, прадстаўляўшая сабою дадатковы, пабочны ўрад, які не меў у сваіх руках органаў дзяржаўнай улады, але апіраўся непасрэдна на большасць народа, на ўзброеныя масы рабочых і салдат.

Ленін, вызначаючы класавую крыніцу і класавае значэнне двоеўладдзя, пісаў, што яно «... заключаецца ў тым, што руская рэвалюцыя сакавіка 1917 года не толькі змяла ўсю царскую манархію, не толькі перадала ўсю ўладу буржуазіі, але і **дайшла шчыльна** да рэвалюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства» ***).

---

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)" стар. 75.
**) Там-жа, стар. 169.
***) Ленін, т. XX, стар. 113—114.

Такое становішча не магло доўга працягвацца, бо дзве ўлады ў адной дзяржаве існаваць не могуць. Двоеўладдзе павінна было, рана ці позна, вырашыцца ўстанаўленнем адзінаўладдзя, г. зн. пераходам улады цалкам або ў рукі буржуазіі, або ў рукі рабочага класа і бяднейшага сялянства. З самага пачатку буржуазія павяла барацьбу за захват усёй паўнаты ўлады ў свае рукі. Усяляк манеўрыруючы, прыкідваючыся старонніцай рэвалюцыі, яна імкнулася выйграць час з тым, каб з дапамогаю нязначных уступак рабочым і сялянам спачатку супакоіць масы, а затым, сабраўшы сілы, задушыць рэвалюцыю, умацаваць сваё панаванне і аднавіць манархію.

Чым растлумачыць той факт, што на першых парах у Советах аказалася большасць меншавікоў і эсэраў?

Дзе прычыны таго, што перамогшыя рабочыя і сяляне добраахвотна аддалі ўладу буржуазіі?

Вычарпальны адказ на гэтыя пытанні знаходзім у IV раздзеле «Кароткага курса гісторыі ВКП(б)» на падставе абагульнення ўказанняў В. І. Леніна па гэтаму пытанню. Рэвалюцыя ўзняла да актыўнага палітычнага жыцця мільёны працоўных, не спакушаных у палітыцы. Не разабраўшыся ў сутнасці палітычных плыняў, яны паверылі «рэвалюцыйным» фразам меншавікоў і эсэраў. Меншавікі і эсэры абманвалі масы, запэўніваючы, што вайне хутка будзе канец, што скора збярэцца Устаноўчы сход і перадасць зямлю сялянам, што Часовы ўрад, які з'яўляецца быццам-бы рэвалюцыйным урадам, вырашыць усе асноўныя пытанні рэвалюцыі. І масы паддаліся абману.

> «Ап'янёныя першымі поспехамі рэвалюцыі і супакоеныя запэўніваннямі меншавікоў і эсэраў, што з гэтага часу ўсё пойдзе добра, шырокія масы дробнай буржуазіі, салдат, а таксама рабочых пранікаюцца давер'ем да Часовага ўрада, аказваюць яму падтрыманне» *).

У першыя месяцы пасля звяржэння самадзяржаўя меншавікам і эсэрам удавалася іграць на несвядомай даверчывасці мас, удавалася пацягнуць масы пры дапамозе рэвалюцыйнай фразы на шлях добрасумленнага абаронцтва.

Рабочы клас не быў ізаліраван ад прышоўшай у рух дробна-буржуазнай стыхіі. Шматмільённыя дробна-буржуазныя масы давілі сваёй колькаснасцю. Дробна-буржуазныя настроі, згодніцкія ілюзіі ахватвалі значную частку рабочага класа.

> «Гіганцкая дробна-буржуазная хваля захліснула ўсё, падавіла свядомы пролетарыят не толькі сваёй колькаснасцю, але і ідэйна, г. зн. заразіла, захваціла вельмі шырокія кругі рабочых дробна-буржуазнымі поглядамі на палітыку» **).

Другая важнейшая прычына заключалася ў тым, што за час вайны адбыліся значныя змены ў саставе пролетарыята. У рабочы клас уліліся новыя слаі—выхадцы з вёскі. Гэтыя навічкі-рабочыя не прайшлі суровай школы класавай барацьбы, не валодалі той пролетарскай загартоўкай, якую дае фабрыка і завод. Вядома, напрыклад, што каля 40 процантаў усяго састава рабочага класа было мабілізавана на фронт і распылена па воінскіх часцях. Многа кадравых рабочых за рэвалюцыйную работу было пасаджана ў турмы. Акрамя таго, на прадпрыемствах ваеннай прамысловасці нямала працавала і так зва-

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 172.
**) **Ленін**, т. XX, стар. 115.

ных «самаабаронцаў», якія хаваліся ад мабілізацыі, многа было дробных уласнікаў, саматужнікаў, крамнікаў, чуждых пролетарскай псіхалогіі людзей. Усе гэтыя элементы прынеслі з сабою дробна-буржуазныя забабоны, палітычная свядомасць іх была нізкай, а гэта акалічнасць аслабляла арганізаванасць пролетарыята ў пачатку рэволюцыі. Дробна-буржуазныя праслойкі сярод рабочых і з'яўляліся спажыўнай глебай для дробна-буржуазных партый меншавікоў і эсэраў.

* * *

У гэтай надзвычай складанай і адказнай абстаноўцы наша большэвіцкая партыя павяла настойлівую сістэматычную барацьбу за заваяванне мас на свой бок, за адрыў іх ад дробна-буржуазных палітыкаў—меншавікоў і эсэраў. Яна энергічна выкрывала імперыялістычны, контррэволюцыйны характар Часовага ўрада і здрадніцтва згодніцкіх партый эсэраў і меншавікоў. Большэвіцкая партыя цярпліва растлумачвала салдатам, сялянам неабходнасць сумесных дзеянняў з рабочым класам, яна цярпліва растлумачвала шырокім працоўным масам, што да таго часу,

> «пакуль улада знаходзіцца ў руках буржуазнага Часовага ўрада, а ў Советах гаспадараць змоўшчыкі,—меншавікі і эсэры, народу не атрымаць ні міру, ні зямлі, ні хлеба, што для поўнай перамогі неабходна зрабіць яшчэ крок уперад і перадаць уладу Советам» *).

З першых-жа дзён Лютаўскай рэволюцыі наша большэвіцкая партыя заклікала масы давесці рэволюцыю да канца, трымаючы няўхільна курс на перарастанне буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную. Калі адбылася Лютаўская рэволюцыя, вялікі правадыр пролетарыята і большэвіцкай партыі знаходзіўся ў эміграцыі ў далёкай Швейцарыі. Як толькі да Леніна дайшлі весткі аб рускай рэволюцыі, ён у сваіх вядомых «Пісьмах здалёк» ставіць перад партыяй задачу арганізаваць найшырэйшыя масы, згуртаваць іх пад лозунгамі нашай партыі і рухаць рэволюцыю далей. Владзімір Ільіч, каб падрыхтаваць перамогу ў другім этапе рэволюцыі, указваў пролетарыяту на асноўную тактычную задачу дня:

> **«Рабочыя, вы праявілі цуды пролетарскага, народнага гераізма ў грамадзянскай вайне супроць царызма, вы павінны праявіць цуды пролетарскай і агульна-народнай арганізацыі, каб падрыхтаваць сваю перамогу ў другім этапе рэволюцыі»** **).

У пісьме ад 17 сакавіка 1917 года Ленін таксама з усёй сілай падкрэслівае, што Лютаўская буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя—гэта толькі першы этап.

> «... **Ні цені** довер'я і падтрымання новаму ўраду (ні цені давер'я Керэнскаму, Гваздзёву, Чхенкелі, Чхеідзе і К°) і **ўзброенае чаканне, узброеная падрыхтоўка** больш **шырокай** базы для больш **высокага** этапа» ***).

Тав. Сталін звярнуўся з сібірскай ссылкі ў рэволюцыйны Петраград 12 сакавіка 1917 года. З яго прыездам дзейнасць большэвіцкай

*) „Кароткі курс гісторыі ВКП(б)", стар. 172.
**) Ленін, т. XX, стар. 19.
***) Там-жа, стар. 8.

партыі разгарнулася асабліва шырока. Ён стаў кіраваць работай бюро Цэнтральнага Камітэта партыі і газетай «Правда», як галоўны яе рэдактар. Кіруючыя ўстаноўкі таварыша Сталіна знаходзяцца ў поўнай адпаведнасці з указаннямі Владзіміра Ільіча у «Пісьмах здалёк», хоць ён тады не мог ведаць аб гэтых пісьмах.

Праз дзень пасля свайго прыезду таварыш Сталін у артыкуле «Аб советах рабочых і салдацкіх дэпутатаў» пісаў у «Правде»:

> «Умацаваць гэтыя Советы, зрабіць іх паўсямеснымі, звязаць іх паміж сабой на чале з Цэнтральным Советам Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў, як органам рэволюцыйнай улады народа,—вось у якім напрамку павінны працаваць рэволюцыйныя соцыял-дэмакраты... Рабочыя, сяляне, салдаты! Еднайцеся паўсямесна ў Советы Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў» **(Сталін,** «На путях к Октябрю», стар. 2).

Гэтымі сваімі геніяльнымі ўказаннямі таварыш Сталін падвадзіў партыю ўшчыльную да ленінскага лозунга «Уся ўлада Советам».

Выкрываючы імперыялістычны характар Часовага буржуазнага ўрада, бязлітасна змагаючыся з меншавікамі і эсэрамі, як партыямі пагаднення з імперыялізмам, таварыш Сталін заклікае партыю і рабочы клас к давядзенню рэволюцыі да канца і стварэнню «сваёй уласнай, рабочай гвардыі, крывёю звязанай з інтарэсамі рэволюцыі».

У артыкуле «Аб умовах перамогі рускай рэволюцы»і, змешчаным у «Правде» ад 18 сакавіка 1917 года, таварыш Сталін з усёй сілай падкрэслівае, што рэволюцыя не можа перамагчы без узброенай сілы, заўсёды гатовай да яе паслуг. Таму неабходна неадкладнае ўзбраенне рабочых і стварэнне рабочай гвардыі.

Лозунг таварыша Сталіна аб стварэнні рабочай Чырвонай гвардыі ператварыўся ў жыццё. У першыя-ж дні рэволюцыі на заводах Петраграда былі створаны ўзброеныя атрады з рабочых. Большэвіцкая партыя праводзіла вялікую работу ў воінскіх часцях, сярод жанчын і моладзі. Уся гэтая работа нашай партыі сярод мас разгортвалася ва ўмовах вастрэйшай барацьбы супроць меншавікоў і эсэраў і варожай агентуры ў радах самой партыі. Унутры партыі барацьба за ленінскую лінію накіравана была перш за ўсё супроць абарончай пазіцыі Каменева, выкрытага пасля як злейшага ворага народа, гнуснейшага агента фашызма. Бязлітасная барацьба нашай партыі супроць ворагаў усіх масцей забяспечыла перамогу рэволюцыі.

Кіруемая Леніным і яго бліжэйшым саратнікам таварышом Сталіным наша большэвіцкая партыя ўсё шырэй арганізоўвала працоўныя масы, ведучы іх да пераможнай вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі, якая ўстанавіла дыктатуру рабочага класа і вызначыла далейшы ход падзей, прывёўшых нашу соцыялістычную радзіму да сусветна-гістарычных перамог соцыялізма, атрыманых пад мудрым кіраўніцтвам найвялікшага генія чалавецтва, правадыра і настаўніка працоўных усяго свету—вялікага Сталіна.

*І. Саладкоў*

# *ПАЛАЖЭННЕ*

## АБ ВЫБАРАХ У АБЛАСНЫЯ, РАЁННЫЯ, ГАРАДСКІЯ, СЕЛЬСКІЯ І ПАСЯЛКОВЫЯ СОВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ БССР

### Раздзел I

### ВЫБАРЧАЯ СІСТЭМА

**Артыкул 1.** На падставе артыкула 109 Канстытуцыі БССР выбары дэпутатаў у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца выбаршчыкамі на аснове ўсеагульнага, роўнага і прамога выбарчага права пры тайным галасаванні.

**Артыкул 2.** На падставе артыкула 110 Канстытуцыі БССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца ўсеагульнымі: усе грамадзяне БССР, дасягнуўшыя 18 год, незалежна ад расавай і нацыянальнай прыналежнасці, вераспавядання, адукацыйнага цэнза, аседласці, соцыяльнага паходжання, маёмаснага становішча і ранейшай дзейнасці, маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і быць выбранымі ў Советы дэпутатаў працоўных за выключэннем страціўшых розум і асоб, асуджаных судом з пазбаўленнем выбарчых правоў.

**Артыкул 3.** На падставе артыкула 111 Канстытуцыі БССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца роўнымі: кожны грамадзянін мае адзін голас; усе грамадзяне ўдзельнічаюць у выбарах на роўных падставах.

**Артыкул 4.** На падставе артыкула 112 Канстытуцыі БССР жанчыны карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з мужчынамі.

**Артыкул 5.** На падставе артыкула 113 Канстытуцыі БССР грамадзяне, якія знаходзяцца ў радах Чырвонай Арміі, карыстаюцца правам выбіраць і быць выбранымі нароўні з усімі грамадзянамі.

**Артыкул 6.** На падставе артыкула 114 Канстытуцыі БССР выбары дэпутатаў з'яўляюцца прамымі: выбары ў абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца выбаршчыкамі непасрэдна шляхам прамых выбараў.

**Артыкул 7.** На падставе артыкула 115 Канстытуцыі БССР галасаванне пры выбарах дэпутатаў у Советы дэпутатаў працоўных БССР з'ўляецца тайным.

**Артыкул 8.** На падставе артыкула 118 Канстытуцыі БССР выбары ў Советы дэпутатаў працоўных БССР праводзяцца па выбарчых акругах.

Кожная выбарчая акруга пасылае ў адпаведны Совет дэпутатаў працоўных аднаго дэпутата.

**Артыкул 9.** На падставе артыкула 18 Канстытуцыі БССР грамадзяне ўсіх іншых саюзных рэспублік карыстаюцца на тэрыторыі БССР выбарчымі правамі нароўні з грамадзянамі БССР.

**Артыкул 10.** Расходы, звязаныя з правядзеннем выбараў у Советы дэпутатаў працоўных БССР, робяцца за кошт дзяржавы.

## Раздзел II

## СПІСЫ ВЫБАРШЧЫКАЎ

**Артыкул 11.** Спісы выбаршчыкаў складаюцца ў гарадах гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам— раённым Советам; у сельскіх мясцовасцях—сельскім Советам; у пасёлках—пасялковым Советам дэпутатаў працоўных. Форма спісаў выбаршчыкаў устанаўліваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР.

**Артыкул 12.** У спісы выбаршчыкаў уключаюцца ўсе грамадзяне, якія маюць выбарчае права і пражываюць (пастаянна або часова) к моманту складання спісаў на тэрыторыі данага Совета, дасягнуўшыя к дню выбараў 18 год.

**Артыкул 13.** Не ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў па судовых прыгаворах на працягу ўсяго ўстаноўленага ў прыгаворы тэрміну пазбаўлення выбарчых правоў, а таксама асобы, прызнаныя ва ўстаноўленым законам парадку страціўшымі розум.

**Артыкул 14.** Ніхто з выбаршчыкаў не можа быць унесен больш, чым у адзін выбарчы спіс.

**Артыкул 15.** Спісы выбаршчыкаў—агульныя для выбараў ва ўсе Советы дэпутатаў працоўных—складаюцца па кожнаму выбарчаму ўчастку ў алфавітным парадку з указаннем прозвішча, імя, імя па бацьку, узросту, месца жыхарства выбаршчыка, а таксама нумароў выбарчых акруг па выбарах у адпаведны Совет дэпутатаў працоўных. Спісы выбаршчыкаў падпісваюцца старшынёю і сакратаром Совета дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 16.** Спісы выбаршчыкаў, якія знаходзяцца ў воінскіх часцях і вайсковых злучэннях, складаюцца камандаваннем за подпісамі камандзіра і ваеннага камісара. Усе іншыя ваеннаслужачыя ўносяцца ў спісы выбаршчыкаў па месцу жыхарства адпаведнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 17.** Спісы выбаршчыкаў выбарчых участкаў, ствараемых пры бальніцах, радзільных дамах, санаторыях і іншых лячэбных установах, складаюцца як на хворых грамадзян, так і на медыцынскі персанал, які знаходзіцца на дзяжурстве ў дзень выбараў.

У выбарах не могуць прымаць удзел хворыя, якія знаходзяцца ў скарлатынозных і дыфтэрыйных аддзяленнях.

**Артыкул 18.** За 35 дзён да выбараў Совет дэпутатаў працоўных вывешвае спісы выбаршчыкаў для ўсеагульнага агляду або забяспечвае выбаршчыкам магчымасць азнаямляцца з гэтымі спісамі ў памяшканні Совета.

**Артыкул 19.** Арыгінал спісаў выбаршчыкаў захоўваецца адпаведна ў Совеце дэпутатаў працоўных і ў воінскай часці або вайсковым злучэнні.

**Артыкул 20.** Пры перамене выбаршчыкам месца свайго прабывання ў тэрмін паміж апублікаваннем спісу выбаршчыкаў і днём выбараў адпаведны Совет дэпутатаў працоўных выдае яму па форме,

устаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР, «пасведчанне на права галасавання» і адзначае ў спісе выбаршчыкаў—«выбыў»; у пункце новага месцажыхарства—пастаяннага або часовага—выбаршчык уносіцца ў спіс выбаршчыкаў пры прад'яўленні пасведчання асобы, а таксама «пасведчання на права галасавання».

**Артыкул 21.** Заява аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў (неўключэнне ў спіс, выключэнне са спісу, скажэнне прозвішча, імя, імя па бацьку, няправільнае ўключэнне ў спіс асоб, пазбаўленых выбарчых правоў) падаецца ў Совет дэпутатаў працоўных, які апублікаваў спіс.

**Артыкул 22.** Выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан разгледзець кожную заяву аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў у трохдзённы тэрмін.

**Артыкул 23.** Пасля разгляду заявы аб няправільнасці ў спісе выбаршчыкаў, Выканаўчы камітэт Совета дэпутатаў працоўных абавязан або ўнесці неабходныя выпраўленні ў спіс выбаршчыкаў, або выдаць заявіцелю пісьмовую даведку аб матывах адхілення яго заявы; пры нязгодзе з рашэннем Совета дэпутатаў працоўных заявіцель можа падаць скаргу ў Народны суд.

**Артыкул 24.** Народны суд на працягу трох дзён абавязан у адкрытым судовым пасяджэнні з выклікам заявіцеля і прадстаўніка Совета разгледзець скаргу на няправільнасць у спісе і сваё рашэнне неадкладна паведаміць як заявіцелю, так і Совету. Рашэнне Народнага суда канчатковае.

## Раздзел III

### ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ І ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ У АБЛАСНЫЯ СОВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ

**Артыкул 25.** Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у абласныя Советы дэпутатаў працоўных праводзіцца абласнымі Советамі дэпутатаў працоўных.

Выбарчыя акругі на падставе артыкула 118 Канстытуцыі БССР па выбарах у абласныя Советы дэпутатаў працоўных утвараюцца па наступных нормах:

| | | |
|---|---|---|
| Мінская | вобласць адна акруга на | 15.000 чалавек насельніцтва |
| Віцебская | „ „ „ „ | 15.000 „ „ |
| Магілеўская | „ „ „ „ | 15.000 „ „ |
| Гомельская | „ „ „ „ | 12.000 „ „ |
| Палеская | „ „ „ „ | 11.000 „ „ |

**Артыкул 26.** Спісы выбарчых акруг па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных апублікоўваюцца выканаўчым камітэтам абласнога Совета дэпутатаў працоўных не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 27.** У кожнай вобласці ўтвараецца Абласная выбарчая камісія па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 28.** Абласныя выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварystваў працоўных і зацвярджаюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 8—10 членаў не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 29.** Абласная выбарчая камісія:

а) наглядае на ўсёй тэрыторыі вобласці за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў у абласны Совет дэпутатаў працоўных гэтага Палажэння аб выбарах;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій і выносіць па скаргах канчатковыя рашэнні;

в) выпускае выбарчыя бюлетэні па ўстаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР форме па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных;

г) рэгіструе выбраных дэпутатаў у абласны Совет дэпутатаў працоўных;

д) здае мандатнай камісіі абласнога Совета дэпутатаў працоўных справаводства па выбарах.

**Артыкул 30.** У кожнай выбарчай акрузе па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных ствараецца Акруговая выбарчая камісія.

**Артыкул 31.** Акруговыя па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца выканаўчым камітэтам абласнога Совета дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 4—6 членаў не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

**Артыкул 32.** Акруговая па выбарах у абласны Совет дэпутатаў працоўных выбарчая камісія:

а) устанаўлівае парадкавыя нумары выбарчых участкаў;

б) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і гэтага Палажэння аб выбарах кандыдатаў у дэпутаты абласнога Совета дэпутатаў працоўных;

в) снабжае Участковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі па ўстаноўленай форме;

г) устанаўлівае рэзультаты выбараў па акрузе;

д) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні;

е) прадстаўляе ў Абласную выбарчую камісію справаводства па выбарах.

## Раздзел IV

## ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ І ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ У РАЁННЫЯ СОВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ

**Артыкул 33.** Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у раённыя Советы дэпутатаў працоўных праводзіцца раённымі Советамі дэпутатаў працоўных.

Выбарчыя акругі на падставе артыкула 118 Канстытуцыі БССР утвараюцца па наступных нормах:

ў раёне з насельніцтвам звыш 25 тысяч чалавек—адна выбарчая акруга на кожную 1.000 чалавек насельніцтва, аднак, не больш 60 акруг;

у раёне з насельніцтвам да 25 тысяч чалавек утвараецца 25 выбарчых акруг.

**Артыкул 34.** Спісы выбарчых акруг па выбарах у раённыя Советы дэпутатаў працоўных апублікоўваюцца выканаўчымі камітэтамі раённых Советаў дэпутатаў працоўных не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 35.** У кожным раёне ствараецца Раённая выбарчая камісія па выбарах у раённы Совет дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 36.** Раённыя выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца выканаўчымі камітэтамі абласных Советаў дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 4—6 членаў не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 37.** Раённая выбарчая камісія:

а) наглядае на тэрыторыі раёна за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў у раённы Совет гэтага Палажэння аб выбарах;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій па выбарах у раённы Совет дэпутатаў працоўных;

в) наглядае за своечасовым складаннем і давядзеннем да ўсеагульнага ведама спісаў выбаршчыкаў;

г) наглядае за своечасовай арганізацыяй выбарчых участкаў адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі Советаў дэпутатаў працоўных;

д) выпускае выбарчыя бюлетэні па ўстаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР форме па выбарах у раённы Совет дэпутатаў працоўных;

е) рэгіструе выбраных дэпутатаў у раённы Совет дэпутатаў працоўных;

ж) здае мандатнай камісіі раённага Совета дэпутатаў працоўных справаводства па выбарах.

**Артыкул 38.** У кожнай выбарчай акрузе па выбарах у раённы Совет дэпутатаў працоўных ствараецца Акруговая выбарчая камісія.

**Артыкул 39.** Акруговыя па выбарах у раённыя Советы дэпутатаў працоўных выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца выканаўчым камітэтам раённага Совета дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 2—4 членаў не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

**Артыкул 40.** Акруговая па выбарах у раённы совет дэпутатаў працоўных выбарчая камісія:

а) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і гэтага Палажэння аб выбарах кандыдатаў у дэпутаты раённага Совета дэпутатаў працоўных;

б) снабжае Участковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі па ўстаноўленай форме;

в) устанаўлівае рэзультаты выбараў па акрузе;

г) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні;

д) прадстаўляе ў раённую выбарчую камісію справаводства па выбарах.

## Раздзел V

### ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ І ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ У ГАРАДСКІЯ І РАЁННЫЯ Ў ГАРАДАХ СОВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ

**Артыкул 41.** Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у гарадскія і раённыя ў гарадах Советы дэпутатаў працоўных праводзіцца адпаведна гарадскім, раённым у гарадах Советам дэпутатаў працоўных.

Выбарчыя акругі на падставе артыкула 118 Канстытуцыі БССР утвараюцца па наступных нормах:

у гарадах з насельніцтвам ад 12 тысяч да 100 тысяч чалавек—адна выбарчая акруга на кожныя 350 чалавек насельніцтва; у гарадах з насельніцтвам да 12 тысяч чалавек утвараецца 35 выбарчых акруг;

у гарадах Гомелі і Магілеве—адна выбарчая акруга на кожныя 400 чалавек насельніцтва;

у горадзе Віцебску—адна выбарчая акруга на кожныя 500 чалавек насельніцтва;

у горадзе Мінску—адна выбарчая акруга на кожныя 600 чалавек насельніцтва.

У гарадскіх раёнах з насельніцтвам звыш 20 тысяч чалавек утвараецца адна выбарчая акруга на кожныя 500 чалавек насельніцтва, аднак, не больш 250 выбарчых акруг; у гарадскіх раёнах з насельніцтвам да 20 тысяч чалавек утвараецца 35 выбарчых акруг.

**Артыкул 42.** Спісы выбарчых акруг па выбарах у гарадскія і раённыя ў гарадах Советы дэпутатаў працоўных апублікоўваюцца выканаўчым камітэтам гарадскога, раённага ў гарадах Совета дэпутатаў працоўных не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 43.** У кожным горадзе і раёне ў гарадах ствараецца Гарадская, Раённая выбарчая камісія па выбарах у гарадскі, раённы ў гарадах Совет дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 44.** Гарадскія і Раённыя ў гарадах выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца: Гарадская выбарчая камісія ў гарадах абласнога падпарадкавання—абласным Советам дэпутатаў працоўных, у гарадах раённага падпарадкавання—раённым Советам дэпутатаў працоўных; Раённая выбарчая камісія ў гарадах—гарадскім Советам дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 6—10 членаў не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 45.** Гарадская, Раённая ў гарадах выбарчая камісія:

а) наглядае на тэрыторыі горада і раёна за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў у гарадскі, раённы Совет гэтага Палажэння аб выбарах;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій па выбарах у гарадскі, раённы ў гарадах Совет дэпутатаў працоўных;

в) наглядае за своечасовым складаннем і давядзеннем да ўсеагульнага ведама спісаў выбаршчыкаў;

г) наглядае за своечасовай арганізацыяй выбарчых участкаў адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі Советаў дэпутатаў працоўных;

д) выпускае выбарчыя бюлетэні па ўстаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР форме па выбарах у гарадскі, раённы ў гарадах Совет дэпутатаў працоўных;

е) рэгіструе выбраных дэпутатаў у гарадскі, раённы ў горадзе Совет дэпутатаў працоўных;

ж) здае мандатнай камісіі гарадскога, раённага ў гарадах Совета дэпутатаў працоўных справаводства па выбарах.

**Артыкул 46.** У кожнай выбарчай акрузе па выбарах у гарадскі, раённы ў горадзе Совет дэпутатаў працоўных ствараецца Акруговая выбарчая камісія.

**Артыкул 47.** Акруговыя па выбарах у гарадскія, раённыя ў гарадах Советы дэпутатаў працоўных выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца выканаўчым камітэтам гарадскога, раённага ў горадзе Совета дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 2—4 членаў не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

**Артыкул 48.** Акруговая па выбарах у гарадскі, раённы ў горадзе Совет дэпутатаў працоўных выбарчая камісія:

а) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і гэтага Палажэння аб выбарах кандыдатаў у дэпутаты гарадскога, раённага ў горадзе Совета дэпутатаў працоўных;

б) снабжае Участковыя выбарчыя камісіі выбарчымі бюлетэнямі па ўстаноўленай форме;

в) устанаўлівае рэзультаты выбараў па акрузе;

г) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні;

д) прадстаўляе ў Гарадскую, Раённую ў горадзе выбарчую камісію справаводства па выбарах.

## Раздзел VI

### ВЫБАРЧЫЯ АКРУГІ І ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ ПА ВЫБАРАХ У СЕЛЬСКІЯ І ПАСЯЛКОВЫЯ СОВЕТЫ ДЭПУТАТАЎ ПРАЦОЎНЫХ

**Артыкул 49.** Утварэнне выбарчых акруг па выбарах у сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзіцца сельскімі і пасялковымі Советамі дэпутатаў працоўных.

Выбарчыя акругі на падставе артыкула 118 Канстытуцыі БССР утвараюцца па наступных нормах:

на тэрыторыі сельскіх Советаў і пасёлкаў з насельніцтвам звыш 1000 чалавек—адна выбарчая акруга на кожныя 100 чалавек насельніцтва, аднак, не больш 25 акруг; у сельсоветах і пасёлках з насельніцтвам да 1000 чалавек утвараецца 9 выбарчых акруг.

**Артыкул 50.** Спісы выбарчых акруг па выбарах у сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных апублікоўваюцца выканаўчымі камітэтамі сельскіх і пасялковых Советаў дэпутатаў працоўных не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 51.** У кожным сельсовеце і пасёлку ствараецца Сельская, Пасялковая выбарчая камісія па выбарах у сельскі, пасялковы Совет дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 52.** Сельскія і Пасялковыя выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца раённымі Советамі дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 2—4 членаў не пазней, чым за 55 дзён да выбараў.

**Артыкул 53.** Сельская, Пасялковая выбарчая камісія:

а) наглядае на тэрыторыі сельсовета і пасёлка за няўхільным выкананнем у ходзе выбараў у сельскі, пасялковы Совет гэтага Палажэння аб выбарах;

б) разглядае скаргі на няправільныя дзеянні выбарчых камісій па выбарах у сельскі, пасялковы Совет дэпутатаў працоўных;

в) выпускае выбарчыя бюлетэні па ўстаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР форме па выбарах у сельскі, пасялковы Совет дэпутатаў працоўных і снабжае выбарчымі бюлетэнямі ўчастковыя выбарчыя камісіі;

г) рэгіструе выбраных дэпутатаў у сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных;

д) здае мандатнай камісіі сельскага, пасялковага Совета дэпутатаў працоўных справаводства па выбарах.

**Артыкул 54.** У кожнай выбарчай акрузе па выбарах у сельскі, пасялковы Совет дэпутатаў працоўных ствараецца Акруговая па выбарах у сельскі, пасялковы Совет дэпутатаў працоўных выбарчая камісія.

**Артыкул 55.** Акруговыя па выбарах у сельскія, пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца сельскім, пасялковым Советам дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, сакратара і аднаго члена камісіі не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

**Артыкул 56.** Акруговая па выбарах у сельскі, пасялковы Совет дэпутатаў працоўных выбарчая камісія:

а) рэгіструе выстаўленых з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і гэтага Палажэння аб выбарах кандыдатаў у дэпутаты сельскага, пасялковага Совета дэпутатаў працоўных;

б) устанаўлівае рэзультаты выбараў па акрузе;

в) выдае выбранаму дэпутату пасведчанне аб выбранні;

г) прадстаўляе ў Сельскую, Пасялковую выбарчую камісію справаводства па выбарах.

## Раздзел VII

### ВЫБАРЧЫЯ ЎЧАСТКІ І ЎЧАСТКОВЫЯ ВЫБАРЧЫЯ КАМІСІІ

**Артыкул 57.** Для прыёму выбарчых бюлетэняў і падліку галасоў тэрыторыя гарадоў, пасёлкаў і сельсоветаў падзяляецца на выбарчыя ўчасткі, агульныя для выбараў у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 58.** Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, у гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях і пасёлках—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 59.** Утварэнне выбарчых участкаў праводзіцца не пазней, чым за 50 дзён да выбараў.

**Артыкул 60.** Тэрыторыя сельсовета, які налічвае не больш 2.000 насельніцтва, складае, як правіла, адзін выбарчы ўчастак; у кожным сяле, вёсцы і пасёлку, які налічвае ад 500, але не больш 2.000 чалавек насельніцтва, арганізуецца асобны выбарчы ўчастак.

Тэрыторыя сельсовета і сельскага населенага пункта з насельніцтвам больш 2.000 чалавек падзяляецца на выбарчыя ўчасткі з разліку адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.500 чалавек насельніцтва.

У паселішчах або групе паселішч з насельніцтвам менш 500 чалавек, але не ніжэй 300 чалавек, у тых выпадках, калі адлегласць такіх паселішчаў да цэнтра выбарчага ўчастка перавышае 10 кіламетраў, могуць быць утвораны асобныя выбарчыя ўчасткі.

У асобных раёнах Палескай вобласці, дзе пераважаюць дробныя паселішчы, выбарчыя ўчасткі могуць быць утвораны з насельніцтвам менш 300 чалавек, аднак, не ніжэй 100 чалавек.

**Артыкул 61.** Гарады і пасёлкі, якія налічваюць больш 2.000 чалавек насельніцтва, падзяляюцца на выбарчыя ўчасткі з разліку адзін выбарчы ўчастак на 1.500—2.500 чалавек насельніцтва.

**Артыкул 62.** Воінскія часці і вайсковыя злучэнні складаюць асобныя выбарчыя ўчасткі з колькасцю не менш 50 і не больш 1.500 выбаршчыкаў.

**Артыкул 63.** Пры больніцах, радзільных дамах, санаторыях, дамах інвалідаў з колькасцю выбаршчыкаў не менш 50 утвараюцца асобныя выбарчыя ўчасткі.

У больніцах з некалькімі карпусамі дапускаецца ўтварэнне выбарчых участкаў пры асобных карпусах пры наяўнасці ў кожным з іх не менш 50 выбаршчыкаў.

У больніцах і іншых лячэбных установах, дзе асобныя выбарчыя ўчасткі не арганізуюцца, дапускаецца прыём выбарчых бюлетэняў у саміх больніцах і лячэбных установах выдзеленымі членамі выбарчых камісій. У гэтых выпадках больніцы снабжаюцца асобнымі выбарчымі скрынкамі.

**Артыкул 64.** Судны з колькасцю выбаршчыкаў не менш 25, якія знаходзяцца ў плаванні ў дзень выбараў, могуць скласці асобныя выбарчыя ўчасткі, уваходзячыя ў выбарчыя акругі па месцу прыпіскі судна.

У выпадках, калі колькасць выбаршчыкаў на судне роўна норме насельніцтва для выбарчай акругі па выбарах у гарадскі або раённы ў гарадах Совет дэпутатаў працоўных, утвараецца асобная выбарчая акруга па выбарах у гарадскі або раённы Совет дэпутатаў працоўных па месцу прыпіскі судна.

**Артыкул 65.** У кожным выбарчым участку ствараецца Участковая выбарчая камісія, агульная па выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 66.** Участковыя выбарчыя камісіі ўтвараюцца з прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных і зацвярджаюцца ў гарадах гарадскімі Советамі дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях і пасёлках—раённымі Советамі дэпутатаў працоўных у саставе старшыні, намесніка старшыні, сакратара і 6—10 членаў не пазней, чым за 45 дзён да выбараў.

**Артыкул 67.** Участковая выбарчая камісія:

а) праводзіць па выбарчаму ўчастку прыём выбарчых бюлетэняў;

б) праводзіць падлік галасоў па кожнаму кандыдату ў дэпутаты абласнога, раённага, гарадскога, сельскага і пасялковага Совета дэпутатаў працоўных;

в) перадае пратакол галасавання ў адпаведную Акруговую выбарчую камісію, а ўсё справаводства—у гарадскі або раённы Совет дэпутатаў працоўных.

## Раздзел VIII

### ПАРАДАК ВЫСТАЎЛЕННЯ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

**Артыкул 68.** На падставе артыкула 116 Канстытуцыі БССР кандыдаты пры выбарах выстаўляюцца па выбарчых акругах.

Права выстаўлення кандыдатаў у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных забяспечваецца за грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных: камуністычнымі партыйнымі арганізацыямі, прафесіянальнымі саюзамі, кааператывамі, арганізацыямі моладзі, культурнымі таварыствамі і іншымі арганізацыямі, зарэгістраванымі ва ўстаноўленым законам парадку.

**Артыкул 69.** Права выстаўлення кандыдатаў ажыццяўляюць як цэнтральныя органы грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, так і іх рэспубліканскія, абласныя і раённыя органы, таксама як

агульныя сходы рабочых і служачых па прадпрыемствах і ўстановах, чырвонаармейцаў—па воінскіх часцях, а таксама, агульныя сходы сялян—па калгасах, рабочых і служачых соўгасаў—па соўгасах.

**Артыкул 70.** Кандыдаты ў дэпутаты не могуць быць членамі Акруговых, а таксама Участковых выбарчых камісій той акругі, дзе яны выстаўлены кандыдатамі ў дэпутаты.

**Артыкул 71.** Не пазней, чым за 35 дзён да выбараў, усе грамадскія арганізацыі або таварыствы працоўных, якія вылучаюць кандыдатаў у дэпутаты абласных і раённых Советаў дэпутатаў працоўных, абавязаны зарэгістраваць кандыдатаў у дэпутаты ў адпаведнай Акруговай выбарчай камісіі.

**Артыкул 72.** Не пазней, чым за 20 дзён да выбараў, усе грамадскія арганізацыі або таварыствы працоўных, якія вылучаюць кандыдатаў у дэпутаты гарадскіх Советаў, раённых Советаў у гарадах, сельскіх і пасялковых Советаў дэпутатаў працоўных, абавязаны зарэгістраваць кандыдатаў у дэпутаты ў адпаведнай Акруговай выбарчай камісіі.

**Артыкул 73.** Акруговыя выбарчыя камісіі абавязаны зарэгістраваць усіх кандыдатаў у дэпутаты, выстаўленых грамадскімі арганізацыямі і таварыствамі працоўных з захаваннем патрабаванняў Канстытуцыі БССР і гэтага Палажэння аб выбарах.

**Артыкул 74.** Грамадская арганізацыя або таварыства працоўных, якія вылучаюць кандыдата ў дэпутаты, абавязаны прадставіць у адпаведную Акруговую выбарчую камісію наступныя дакументы:

а) пратакол схода або пасяджэння, вылучыўшага кандыдата ў дэпутаты, падпісаны членамі Прэзідыума з указаннем іх узросту, месцажыхарства, найменавання арганізацыі, вылучыўшай кандыдата, указання аб месцы, часе і колькасці ўдзельнікаў схода або пасяджэння, вылучыўшага кандыдата ў дэпутаты, прычым у пратаколе павінны быць указаны прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў дэпутаты, яго ўзрост, месцажыхарства, партыйнасць, занятак;

б) заява кандыдата ў дэпутаты аб яго згодзе балатыравацца па данай выбарчай акрузе ад выставіўшай яго арганізацыі.

**Артыкул 75.** Кандыдат у дэпутаты Совета дэпутатаў працоўных можа галасавацца ў адзін і той-жа Совет толькі ў адной акрузе.

**Артыкул 76.** Адмова Акруговай па выбарах у абласны, раённы, гарадскі, раённы ў гарадах, сельскі і пасялковы Совет дэпутатаў працоўных выбарчай камісіі ў рэгістрацыі кандыдата ў дэпутаты можа быць абскарджана ў двухдзённы тэрмін адпаведна ў Абласную, Раённую, Гарадскую, Раённую ў гарадах, Сельскую і Пасялковую выбарчую камісію, рашэнне якой з'яўляецца канчатковым.

**Артыкул 77.** Прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост, занятак, партыйнасць кожнага зарэгістраванага кандыдата ў дэпутаты абласнога і раённага Советаў дэпутатаў працоўных і найменаванне грамадскай арганізацыі, вылучыўшай кандыдата, апублікоўваюцца адпаведнай Акруговай выбарчай камісіяй не пазней, чым за 30 дзён да выбараў.

Даныя аб зарэгістраваных Акруговымі камісіямі кандыдатах у дэпутаты гарадскога, раённага ў гарадах, сельскага і пасялковага Советаў дэпутатаў працоўных апублікоўваюцца адпаведнай Гарадской, Раённай у гарадах, Сельскай і Пасялковай выбарчай камісіяй не пазней, чым за 15 дзён да выбараў.

**Артыкул 78.** Усе зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты Советаў дэпутатаў працоўных падлягаюць абавязковаму ўключэнню ў выбарчыя бюлетэні.

**Артыкул 79.** Акруговыя па выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, раённыя ў гарадах Советы дэпутатаў працоўных выбарчыя камісіі, а таксама Сельскія і Пасялковыя выбарчыя камісіі абавязаны разаслаць усім Участковым выбарчым камісіям выбарчыя бюлетэні не пазней, чым за 10 дзён да выбараў.

**Артыкул 80.** Выбарчыя бюлетэні друкуюцца на мовах насельніцтва адпаведнай выбарчай акругі.

**Артыкул 81.** Выбарчыя бюлетэні друкуюцца па форме, устаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР, і ў колькасці, якая забяспечвае снабжэнне ўсіх выбаршчыкаў выбарчымі бюлетэнямі.

**Артыкул 82.** Кожнай арганізацыі, выставіўшай кандыдата, зарэгістраванага ў адпаведнай выбарчай камісіі, таксама як кожнаму грамадзяніну БССР, забяспечваецца права беспераашкоднай агітацыі за гэтага кандыдата на сходах, у друку і іншымі спосабамі, згодна артыкула 100 Канстытуцыі БССР.

## Раздзел IX

### ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ

**Артыкул 83.** Выбары ў абласныя, раённыя, гарадскія, раённыя ў гарадах, сельскія і пасялковыя Советы дэпутатаў працоўных праводзяцца на працягу аднаго дня—агульнага для БССР.

**Артыкул 84.** Дзень выбараў устанаўліваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР не пазней, чым за два месяцы да тэрміна выбараў. Выбары праводзяцца ў нерабочы дзень.

**Артыкул 85.** Штодзённа на працягу апошніх 15 дзён перад выбарамі Участковая выбарчая камісія шырока апавяшчае выбаршчыкаў шляхам апублікавання або іншым спосабам аб дні выбараў і месцы выбараў.

## Раздзел X

### ПАРАДАК ГАЛАСАВАННЯ

**Артыкул 86.** Падача галасоў выбаршчыкамі праводзіцца ў дзень выбараў ад 6 гадзін раніцы да 12 гадзін ночы па мясцоваму часу.

**Артыкул 87.** У 6 гадзін раніцы ў дзень выбараў старшыня Участковай выбарчай камісіі ў прысутнасці яе членаў правярае выбарчыя скрынкі і наяўнасць складзенага па ўстаноўленай форме спісу выбаршчыкаў, пасля чаго закрывае і апячатвае скрынкі пячаткай камісіі і запрашае выбаршчыкаў прыступіць да падачы галасоў.

Узоры пячатак і выбарчых скрынак устанаўліваюцца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР.

**Артыкул 88.** Кожны выбаршчык галасуе асабіста, з'яўляючыся для гэтага ў памяшканне для галасавання, прычым падача галасоў выбаршчыкамі праводзіцца шляхам апускання ў выбарчую скрынку выбарчых бюлетэняў.

**Артыкул 89.** У памяшканні для выбараў выдзяляецца для запаўнення бюлетэняў асобны пакой, у якім у часе галасавання забараняецца прысутнасць каго-б там ні было, у тым ліку і членаў Участковай выбарчай камісіі, апрача галасуючых; пры допуску ў пакой для запаўнення бюлетэняў адначасова некалькіх выбаршчыкаў, ён павінен быць абсталяваны перагародкамі або шырмамі, па ліку дапускаемых адначасова выбаршчыкаў.

**Артыкул 90.** Выбаршчык, які з'явіўся ў выбарчае памяшканне, прад'яўляе сакратару або члену Ўчастковай выбарчай камісіі або пашпарт, або калгасную кніжку, або профсаюзны білет, або іншае пасведчанне асобы, і пасля праверкі па спісу выбаршчыкаў і адзнакі ў спісе выбаршчыкаў атрымлівае выбарчыя бюлетэні ўстаноўленага ўзору.

**Артыкул 91.** На асоб, якія з'явіліся ў памяшканне для выбараў з «пасведчаннем на права галасавання», згодна артыкула 20 гэтага Палажэння аб выбарах, Участковая выбарчая камісія вядзе асобны спіс, які прыкладаецца да спісу выбаршчыкаў.

**Артыкул 92.** Выбаршчык у пакоі, адведзеным для запаўнення выбарчых бюлетэняў, пакідае ў кожным выбарчым бюлетэні прозвішча таго кандыдата, за якога ён галасуе, выкрэсліваючы астатніх; пасля гэтага выбаршчык пераходзіць у пакой, дзе змяшчаецца Ўчастковая выбарчая камісія, і апускае выбарчыя бюлетэні ў выбарчую скрынку.

**Артыкул 93.** Выбаршчыкі, якія не маюць магчымасці з прычыны непісьменнасці або якога-небудзь фізічнага недахопу самастойна запоўніць выбарчыя бюлетэні, маюць права запрасіць у пакой, дзе запаўняюцца выбарчыя бюлетэні, любога іншага выбаршчыка для запаўнення выбарчых бюлетэняў.

**Артыкул 94.** Выбарная агітацыя ў выбарчым памяшканні ў часе падачы галасоў не дапускаецца.

**Артыкул 95.** Адказнасць за парадак у выбарчым памяшканні нясе старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі і яго распараджэнні для ўсіх прысутных абавязковы.

**Артыкул 96.** У 12 гадзін ночы дня выбараў старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі аб'яўляе падачу галасоў закончанай і камісія прыступае да ўскрыцця выбарчых скрынак.

## Раздзел XI

### ВЫЗНАЧЭННЕ РЭЗУЛЬТАТАЎ ВЫБАРАЎ

**Артыкул 97.** У памяшканні, дзе Ўчастковая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, пры падліку галасоў маюць права прысутнічаць спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварystваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

**Артыкул 98.** Участковая выбарчая камісія, ускрыўшы скрынкі, падлічвае бюлетэні па акругах, звярае лік паданых бюлетэняў з лікам асоб, якія ўдзельнічалі ў галасаванні (на падставе адзнак у спісе выбаршчыкаў пры атрыманні бюлетэняў), і рэзультаты зверкі заносіць у пратаколы галасавання па кожнай выбарчай акрузе.

**Артыкул 99.** Старшыня Ўчастковай выбарчай камісіі абвяшчае ў прысутнасці ўсіх членаў Участковай выбарчай камісіі рэзультаты галасавання па кожнаму бюлетэню.

**Артыкул 100.** Прызнаюцца несапраўднымі бюлетэні, у якіх пры галасаванні пакінута больш аднаго кандыдата, а таксама бюлетэні не ўстаноўленага ўзору і колеру.

**Артыкул 101.** Пры ўзнікненні сумненняў у сапраўднасці выбарчага бюлетэня пытанне вырашаецца Ўчастковай выбарчай камісіяй шляхам галасавання, што адзначаецца ў пратаколе.

**Артыкул 102.** Участковая выбарчая камісія складае па ўстаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР форме па кожнай выбарчай акрузе пратакол галасавання ў двух экземплярах, падпісваемых

усімі членамі Ўчастковай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

**Артыкул 103.** У пратаколе галасавання Ўчастковай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) час пачатку і сканчэння падачы галасоў;

б) лік выбаршчыкаў па выбарчаму ўчастку і па акругах;

в) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па спісу выбаршчыкаў;

г) лік выбаршчыкаў, падаўшых галасы па «пасведчаннях на права галасавання»;

д) лік паданых бюлетэняў па выбарчаму ўчастку і па акругах;

е) кароткае ізлажэнне заяў і скарг, паданых ва Ўчастковую выбарчую камісію і прынятыя Ўчастковай выбарчай камісіяй рашэнні;

ж) рэзультаты падліку галасоў па кожнаму кандыдату.

**Артыкул 104.** Пасля сканчэння падліку галасоў і складання пратаколаў, старшыня Ўчастковай камісіі абвяшчае рэзультаты галасавання па кожнай акрузе ў прысутнасці ўсіх членаў камісіі.

**Артыкул 105.** Адзін экземпляр пратакола галасавання, складзенага Ўчастковай выбарчай камісіяй, накіроўваецца з нарочным на працягу 24 гадзін у адпаведную Акруговую выбарчую камісію.

**Артыкул 106.** Усе выбарчыя бюлетэні (асобна сапраўдныя і асобна прызнаныя несапраўднымі) павінны быць апячатаны пячаткай Участковай выбарчай камісіі і разам з другімі экземплярамі пратаколаў галасавання і пячаткай зданы старшынёю Ўчастковай выбарчай камісіі на захоўванне: у гарадах—гарадскім Советам дэпутатаў працоўных, а ў гарадах з раённым падзелам—раённым Советам дэпутатаў працоўных; у сельскіх мясцовасцях і пасёлках—раённым Советам дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 107.** На Советы дэпутатаў працоўных ускладаецца абавязак захоўваць выбарчыя бюлетэні аж да зацвярджэння мандатаў дэпутатаў ад кожнай акругі адпаведным Советам дэпутатаў працоўных.

**Артыкул 108.** Акруговыя па выбарах у абласны, раённы, гарадскі, раённы ў гарадах, сельскі і пасялковы Советы дэпутатаў працоўных выбарчыя камісіі ўстанаўліваюць рэзультаты выбараў па акрузе на падставе пратаколаў, прадстаўленых Участковымі выбарчымі камісіямі.

**Артыкул 109.** У памяшканні, дзе Акруговая выбарчая камісія робіць падлік галасоў, маюць права прысутнічаць пры падліку галасоў спецыяльна на тое ўпаўнаважаныя прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і таварыстваў працоўных, а таксама прадстаўнікі друку.

**Артыкул 110.** Акруговая выбарчая камісія складае па ўстаноўленай Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР форме пратакол галасавання ў 2-х экземплярах, падпісваемых усімі членамі Акруговай выбарчай камісіі, у тым ліку абавязкова старшынёю і сакратаром.

**Артыкул 111.** У пратаколе Акруговай выбарчай камісіі павінна быць указана:

а) агульны лік выбаршчыкаў па акрузе;

б) агульны лік выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні;

в) лік галасоў, паданых за кожнага кандыдата ў дэпутаты;

г) кароткае ізлажэнне заяў і скарг, паданых у Акруговую выбарчую камісію, і прынятыя Акруговай выбарчай камісіяй рашэнні.

**Артыкул 112.** Пасяджэнні выбарчых камісій па выбарах у Советы дэпутатаў працоўных лічацца сапраўднымі, калі на іх удзельнічае больш паловы агульнага састава камісіі.

**Артыкул 113.** Усе пытанні ў выбарчых камісіях вырашаюцца простай большасцю галасоў; пры роўнасці галасоў—голас старшыні дае перавагу.

**Артыкул 114.** Не пазней 24 гадзін пасля сканчэння падліку галасоў старшыня Акруговай выбарчай камісіі абавязан пераслаць пратакол у запячатаным выглядзе праз нарочнага ў адпаведную Абласную, Раённую, Гарадскую, Сельскую і Пасялковую выбарчую камісію.

**Артыкул 115.** Кандыдат у дэпутаты Совета дэпутатаў працоўных, які атрымаў абсалютную большасць галасоў, г. зн. больш паловы ўсіх галасоў, паданых па акрузе і прызнаных сапраўднымі, лічыцца выбраным.

**Артыкул 116.** Пасля падпісання пратакола старшыня Акруговай выбарчай камісіі абвяшчае рэзультаты выбараў і выдае выбранаму кандыдату ў дэпутаты пасведчанне аб выбранні. Форма пасведчання аб выбранні ўстанаўліваецца Прэзідыумам Вярхоўнага Совета БССР.

**Артыкул 117.** Калі ні адзін з кандыдатаў па акрузе не атрымаў абсалютнай большасці галасоў, адпаведная Акруговая выбарчая камісія адзначае аб гэтым асобна ў пратаколе і паведамляе ў Абласную, Раённую, Гарадскую, Раённую ў гарадах, Сельскую і Пасялковую выбарчую камісію і адначасова абвяшчае перабалатыроўку двух кандыдатаў, атрымаўшых найбольшую колькасць галасоў, а таксама назначае дзень перабалатыроўкі не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін пасля сканчэння першага тура выбараў.

**Артыкул 118.** Калі паданая колькасць галасоў па акрузе складае менш паловы выбаршчыкаў, маючых права галасаваць па гэтай акрузе, Акруговая выбарчая камісія адзначае аб гэтым асобна ў пратаколе і паведамляе неадкладна ў адпаведную Абласную, Раённую, Гарадскую, Раённую ў гарадах, Сельскую і Пасялковую выбарчую камісію, прычым у гэтым выпадку Абласная, Раённая, Гарадская, Раённая ў гарадах, Сельская і Пасялковая выбарчая камісія назначае новыя выбары не пазней, чым у двухтыднёвы тэрмін пасля першых выбараў.

**Артыкул 119.** Перабалатыроўка кандыдатаў у дэпутаты, таксама як новыя выбары ўзамен прызнаных несапраўднымі, праводзяцца па спісах выбаршчыкаў, складзеных для першых выбараў, і ў поўнай адпаведнасці з гэтым Палажэннем аб выбарах.

## Раздзел XII

### АДКАЗНАСЦЬ ЗА НАРУШЭННЕ ВЫБАРЧЫХ ПРАВОЎ ГРАМАДЗЯН

**Артыкул 120.** Усякі, хто шляхам насілля, абману, пагроз, або подкупу будзе перашкаджаць грамадзяніну БССР у ажыццяўленні яго права выбіраць і быць выбраным у Советы дэпутатаў працоўных БССР,—караецца пазбаўленнем свабоды на тэрмін да двух год.

**Артыкул 121.** Службовая асоба Совета або член выбарчай камісіі, зрабіўшыя падробку выбарчых дакументаў або заведама няправільны падлік галасоў, — караюцца пазбаўленнем свабоды на тэрмін да трох год.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР—**Н. Наталевіч.**
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР—**Л. Папкоў.**

27 ліпеня 1939 г.
г. Мінск.

*Зацверджана II Сесіяй*
*Вярхоўнага Совета БССР.*

# ПРЫКЛАДНЫ ПЛАН

## вывучэння „Палажэння аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР“.

*Гутарка 1я*

**Перамога блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўныя Советы СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік**

Надыходзячыя выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных—падзея велізарнай палітычнай важнасці ў жыцці народаў СССР. Узорнай падрыхтоўкай да выбараў забяспечым новыя перамогі сталінскага блока комуністаў і беспартыйных.

Бліскучая перамога сталінскага блока комуністаў і беспартыйных на выбарах у Вярхоўны Совет СССР і Вярхоўныя Советы саюзных і аўтаномных рэспублік—яркае выражэнне несакрушымай магутнасці краіны соцыялізма. Выбары ў Вярхоўныя Советы СССР, саюзных і аўтаномных рэспублік паказалі маральна-палітычнае адзінства совецкага народа. Галасуючы за блок комуністаў і беспартыйных, народы Совецкага Саюза галасавалі за партыю Леніна—Сталіна, за совецкую ўладу, за комунізм. Упершыню ў гісторыі чалавецтва ажыццёўлена сапраўды ўсеагульнае, роўнае, прамое выбарчае права пры тайным галасаванні. Непарушная сталінская дружба народаў СССР—таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

У СССР ажыццёўлена разгорнутая, да канца паслядоўная дэмакратыя. «Такія свабодныя і сапраўды дэмакратычныя выбары маглі ўзнікнуць толькі на глебе таржаства соцыялістычных парадкаў, толькі на базе таго, што ў нас соцыялізм не проста будуецца, а ўжо ўвайшоў у быт, у штодзённы быт народа» (Сталін).

Сталінскі блок комуністаў і беспартыйных на надыходзячых выбарах у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных яшчэ раз прадэманстрыруе перад усім светам сваю ўсёперамагаючую сілу.

Напружаная міжнародная абстаноўка і задача ўмацавання абароназдольнасці СССР.

«Трэба ўвесь наш народ трымаць у стане мабілізацыйнай гатоўнасці перад тварам небяспекі ваеннага нападу, каб ніякая «выпадковасць» і ніякія фокусы нашых знешніх ворагаў не маглі засцігнуць нас знянацку» (Сталін).

Усямерна выхоўваць і развіваць совецкі патрыятызм.

**ЛІТАРАТУРА**

Сталін—Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б). I разд., II разд., п. 3.

Сталін—Прамова на прадвыбарным сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі горада Масквы 11 снежня 1937 г.

Молатаў—«Аб выбарчым блоку комуністаў і беспартыйных» (прамова на сходзе выбаршчыкаў Молатаўскай выбарчай акругі горада Масквы 8 снежня 1938 г.).
Молатаў—«Аб міжнародным становішчы і знешняй палітыцы СССР» (прамова на III Сесіі Вярхоўнага Совета СССР).
Зварот ЦК да ўсіх выбаршчыкаў, рабочых і работніц, сялян і сялянак, да Чырвонай Арміі, да совецкай інтэлігенцыі. («Правда» за 7 снежня 1937 г.).
«Правда» за 17 кастрычніка 1937 г.

## *Гутарка 2-я*

## СССР—краіна перамогшага социялізма

СССР—соцыялістычная дзяржава рабочых і сялян. Соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці—непахісная аснова нашага совецкага грамадства. У СССР ліквідавана капіталістычная сістэма гаспадаркі, знішчана эксплаатацыя чалавека чалавекам. Соцыялізм безраздзельна пануе ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі СССР.

Гіганцкі рост соцыялістычнай індустрыі за годы сталінскіх пяцігодак. Таржаство соцыялізма ў вёсцы. У СССР самая буйная ў свеце, машынізаваная, узброеная новай тэхнікай, сельская гаспадарка. Усесаюзная сельскагаспадарчая выстаўка—усенародны агляд перамог соцыялістычнага земляробства. Сталінскія пяцігодкі ў корані пераварылі аблічча нашай краіны. Бурны рост культурнага ўзроўню працоўных СССР.

Сусветна-гістарычнае значэнне XVIII з'езда ВКП(б). Геніяльны даклад таварыша Сталіна—баявая праграма барацьбы за пабудову комуністычнага грамадства. Перагнаць перадавыя капіталістычныя краіны і ў эканамічных адносінах—асноўная эканамічная задача СССР. План вялікіх работ 3-й сталінскай пяцігодкі. Рашэнне майскага Пленума ЦК ВКП(б) і пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР «Аб мерах аховы грамадскіх зямель калгасаў ад разбазарвання»—праграма барацьбы за далейшае ўмацаванне калгаснага ладу.

### ЛІТАРАТУРА

Канстытуцыя СССР, раздзел I і X.
Сталін—Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б), II разд.
Сталін—Даклад на VIII Усесаюзным з'ездзе Советаў «Аб праекце Канстытуцыі СССР», разд. 2—3.
Молатаў—Даклад на XVIII з'ездзе ВКП(б), разд. 1—2—4—5.
Выступленні тт. Кагановіча, Варашылава, Калініна, Андрэева, Мікаяна на XVIII з'ездзе ВКП(б) па дакладу таварыша Сталіна.
«Правда» 13/VIII—39 г. Перадавы арт. «Цыфры перамог соцыялістычнага земляробства».

## *Гутарка 3-я*

## БССР—неадрыўная частка вялікага Совецкага Саюза

БССР—несакрушымы фарпост соцыялізма на заходніх рубяжах з капіталістычным светам.

Беларусь у мінулым—адсталая, прыгнечаная акраіна царскай Расіі. Вялікая Кастрычніцкая соцыялістычная рэволюцыя вызваліла беларускі народ ад капіталістычнага і памешчыцкага гнёту. Ленін і Сталін—творцы беларускай дзяржаўнасці. БССР—роўная сярод роўных адзінаццаці саюзных рэспублік. Беларускі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры дапамозе вялікага рускага на-

рода, пабудаваў сваё шчаслівае заможнае жыццё. Законадаўчае замацаванне ў Канстытуцыі БССР факту перамогі соцыялізма ў нашай краіне; соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці— эканамічная аснова БССР.

БССР—індустрыяльна-калгасная, перадавая ордэнаносная рэспубліка. Рост прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў БССР. Росквіт нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зместу культуры БССР. Таржаство ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі.

Падрыхтоўку і выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных правядзем пад знакам яшчэ большага разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і стаханаўскага руху, датэрміновага выканання і перавыканання вытворчых планаў, палепшання якасці прадукцыі.

Памятаць аб капіталістычным акружэнні. З усёй бязлітаснасцю выкрываць і знішчаць ворагаў народа—трацкісцка-бухарынскіх і буржуазна-нацыяналістычных агентаў фашызма. Яшчэ вышэй падняць рэволюцыйную пільнасць.

Надыходзячыя выбары ў мясцовыя советы дэпутатаў працоўных беларускі народ правядзе пад вялікім сцягам партыі Леніна—Сталіна.

### ЛІТАРАТУРА

Канстытуцыя БССР, раздзелы I, II, III і VIII.

Варашылаў—Прамовы на сходах выбаршчыкаў Мінска. Партвыдат ЦК ВКП(б), 1937 г.

Панамарэнка—Прамова на XVIII з'ездзе ВКП(б) па дакладу таварыша Сталіна.

Зборнік «Совецкая Беларусь».

## *Гутарка 4-я*

### Выбарчае права, выбарчая сістэма

Буржуазная дэмакратыя—дэмакратыя для багатых, прыкрытае панаванне буржуазіі.

Абмежаванне правоў працоўных у буржуазна-дэмакратычных канстытуцыях (узросны цэнз, маёмасны, цэнз аседласці, цэнз нацыянальны і расавы, адукацыйны цэнз, абмежаванне правоў для жанчын).

Фармальны характар буржуазнай дэмакратыі. «Буржуазная канстытуцыя звычайна абмяжоўваецца фіксіраваннем фармальных правоў грамадзян, не клапоцячыся аб умовах ажыццяўлення гэтых правоў, аб магчымасці іх ажыццяўлення, аб сродках іх ажыццяўлення» (Сталін). Поўнае палітычнае бяспраўе народа ў краінах фашызма. Сталінская Канстытуцыя не проста абвяшчае дэмакратычныя свабоды, але забяспечвае іх у законадаўчым парадку пэўнымі матэрыяльнымі сродкамі.

Сталінская Канстытуцыя высока падняла званне совецкага грамадзяніна, забяспечыўшы яму права на працу, права на адпачынак, права на асвету і на матэрыяльнае забеспячэнне ў старасці.

Свяшчэнныя абавязкі грамадзян СССР.

Усеагульнае выбарчае права, і ў чым яно выражаецца. Хто мае права выбіраць і быць выбраным у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных БССР.

Роўнае выбарчае права на аснове разгорнутай да канца соцыялістычнай дэмакратыі.

Прамое выбарчае права на аснове Сталінскай Канстытуцыі, і ў чым яно выражаецца.

Тайнае (закрытае) галасаванне і яго значэнне.

### ЛІТАРАТУРА

Ленін—Тэзісы і даклад аб буржуазнай дэмакратыі і дыктатуры пролетарыята, Творы, т: XXIV, стар. 7—20.
Канстытуцыя СССР, раздзелы I, X, XI.
Сталін—Аб праекце Канстытуцыі СССР, разд. 3.
Молатаў—Канстытуцыя соцыялізма, разд. 2.
Калінін—Што дала савецкая ўлада працоўным.
Калінін—СССР і краіны капіталізма разд. V—VI.
Канстытуцыя БССР, раздзелы I, VIII, IX.
Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР, раздзел I.
Наталевіч—Даклад на 2-й Сесіі Вярхоўнага Совета БССР—Аб праекце «Палажэння аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР», разд. I.

## *Гутарка 5-я*

### Як будуюцца выбарчыя акругі і выбарчыя ўчасткі па выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР

*а) Выбарчыя акругі па выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных*

Як утвараюцца выбарчыя акругі па выбарах: а) у абласныя, б) раённыя, в) гарадскія, г) раённыя ў гарадах, д) сельскія, е) пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР.

Кім і калі апублікоўваюцца спісы выбарчых акруг па выбарах: а) у абласныя, б) раённыя, в) гарадскія, г) раённыя ў гарадах, д) сельскія, е) пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР.

*б) Выбарчыя ўчасткі*

Як і за які тэрмін да дня выбараў утвараюцца выбарчыя ўчасткі.

Парадак утварэння выбарчых участкаў у горадзе, у вёсцы, у асобных раёнах Палескай вобласці, воінскіх часцях і вайсковых злучэннях, бальніцах, на суднах і т. д.

### ЛІТАРАТУРА

Канстытуцыя БССР, раздзел IX.
Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР. Раздзел III, арт. арт. 26 і 27; раздзел IV, арт. арт. 30 і 34; раздзел V, арт. арт. 41 і 42; раздзел VI, арт. арт. 49 і 50; раздзел VII, арт. арт. 57 і 64.
Наталевіч—Аб праекце «Палажэння аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР».

## *Гутарка 6-я*

### Выбарчыя камісіі, спіскі выбаршчыкаў, парадак выстаўлення кандыдатаў, парадак галасавання, вызначэнне рэзультатаў выбараў

Абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя выбарчыя камісіі па выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных. Акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі.

Як утвараюцца выбарчыя камісіі, іх састаў, функцыі і кім яны зацвярджаюцца. Тэрміны складання выбарчых камісій.

Кім складаюцца спісы выбаршчыкаў у гарадах, у гарадах з раённым падзелам, у сельскіх мясцовасцях, у пасёлках.

Парадак складання спісаў выбаршчыкаў. Хто ўключаецца ў спісы выбаршчыкаў. Хто не ўносіцца ў спісы выбаршчыкаў. Парадак унясення ў спісы выбаршчыкаў ваеннаслужачых. Як забяспечваецца грамадзянам магчымасць азнаямлення са спісамі выбаршчыкаў. Як праводзіцца абскарджанне выключэння са спісаў выбаршчыкаў або няправільнага ўключэння ў спісы выбаршчыкаў.

Якія арганізацыі маюць права выстаўляць кандыдатаў у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных. Парадак выстаўлення і рэгістрацыі кандыдатаў. Парадак апублікавання прозвішчаў выстаўленых кандыдатаў. Права выбаршчыкаў на адазванне дэпутатаў. Парадак выдачы выбарчых бюлетэняў. «Пасведчанне на права галасавання». Парадак запаўнення выбарчых бюлетэняў. Парадак галасавання. Парадак падліку галасоў і абвяшчэння рэзультатаў галасавання. Перабалатыроўка кандыдатаў у выпадку прызнання выбараў несапраўднымі.

Па якіх прычынах выбары могуць быць аб'яўлены несапраўднымі і парадак назначэння новых выбараў.

Усямернае ўмацаванне сталінскага блока комуністаў і беспартыйных—залог паспяховага правядзення выбарчай кампаніі па выбарах у мясцовыя советы дэпутатаў працоўных.

Вылучым у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных адданых патрыётаў соцыялістычнай радзімы, дастойных людзей рэспублікі, непахісных барацьбітоў за справу Леніна—Сталіна, за шчасце рабочых і ўсіх працоўных.

Вышэй большэвіцкую пільнасць. Бязлітасна выкарчоўваць ворагаў соцыялізма, ворагаў народа, права-трацкісцкіх бандытаў—фашысцкіх наёмнікаў, шпіёнаў, дыверсантаў, шкоднікаў, забойцаў—агентаў капіталістычнага акружэння. Памятаць аб капіталістычным акружэнні.

## ЛІТАРАТУРА

Сталін—Прамова на прадвыбарным сходзе выбаршчыкаў Сталінскай выбарчай акругі горада Масквы 11 снежня 1937 г.

Пісьмо т. Іванова і адказ таварыша Сталіна.

Молатаў—Аб выбарчым блоку комуністаў і беспартыйных (даклад на сходзе выбаршчыкаў Молатаўскай выбарчай акругі горада Масквы 8 снежня 1937 г.)

Калінін—Што дала совецкая ўлада працоўным, разд. «Комуністычная партыя—авангард працоўных».

Зварот Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Комуністычнай партыі (большэвікоў) да ўсіх выбаршчыкаў, рабочых, работніц, сялян і сялянак, да Чырвонай Арміі, да совецкай інтэлігенцыі («Правда» за 7 снежня 1937 г.).

Канстытуцыя БССР, раздзел IX.

Палажэнне аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскя і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР. Раздзел III, арт. 27, 32, раздзел IV, арт. 35, 40, раздзел V, арт. 43, раздзел VI арт. 51, 56, раздзел VII, арт: 65, 67, раздзел II, арт: 22, 24, раздзел VIII арт. 68, 82, раздзелы IX, X XI, XII.

Наталевіч—Аб праекце «Палажэння аб выбарах у абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя советы дэпутатаў працоўных БССР».

*Аддзел прапаганды і агітацыі*
*ЦК КП(б)Б і Мінскі гарком КП(б)Б*

Уп. Галоўліта БССР № 527
Тыраж 7970 экз.
352.000 друк. зн. ($6^1/_2$ арк.)
Здана ў набор 9/VIII—39 г.
Падпісана да друку 7/IX—39 г.

РЭДКАЛЕГІЯ.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, Дом Друку. Зак. № 877.

## Памылкі друку.

У гэтым нумары журнала „Большэвік Беларусі" на стар. 45, у першым абзацы, радок 6 памылкова надрукавана:

„Працаваць па-стаханаўску—біць ворага па-стаханаўску", трэба чытаць:

„Працаваць па-стаханаўску, біць ворага па-хасанаўску".

*Рэдакцыя*

ЦАНА 40 кап.

